Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся

БЕЛАРУСКІ НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧЫ ІНСТЫТУТ СЕЛЬСКАЙ
і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя Ў. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

Том XXXV АДДЗЕЛ С.-Г. ЭКОНОМІІ І ОРГАНІЗАЦЫІ СОЦЫЯЛІСТЫЧН. СЕЛЬСК. ГАСПАД. Вып. 16

МАТАР'ЯЛЫ ДА СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧАГА РАЁНАВАНЬНЯ БССР Сш 1

Проф. А. СМОЛІЧ

# СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫЯ РАЁНЫ БЕЛАРУСКАЕ САВ. САЦ. РЭСПУБЛІКІ Ў 1927-1928 гадох

## ПАПЯРЭДНЯЯ СХЕМА і МЭТОДОЛЁГІЧНЫЯ ЎВАГІ

МАТЕРИАЛЫ по СЕЛЬСКОХОЗЯЙСТВЕННОМУ РАЙОНИРОВАНИЮ БЕЛОРУССКОЙ ССР

Проф. А. СМОЛИЧ

СЕЛЬСКОХОЗЯЙСТВЕННЫЕ РАЙОНЫ БЕЛОРУССКОЙ ССР В 1927-28 Г. Г.

BEITRÄGE zur LANDWIRTSCHAFTLICHEN RAYONIERUNG DER WEISSRUSSISCHEN SOZ. SOW. REPUBLIK

Prof. A. SMOLITSCH

LANDWIRTSCHAFTLICHE RAYONEN DER WEISSRUSSISCHEN S.S. REPUBLIK 1927-28

МЕНСК — MINSK

1930 г.

Проф. А. СМОЛІЧ

# СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫЯ РАЁНЫ
## БЕЛАРУСКАЕ САВ. САЦ. РЭСПУБЛІКІ Ў 1927-1928 гадох

ПАПЯРЭДНЯЯ СХЕМА і МЭТОДОЛЁГІЧНЫЯ ЎВАГІ

---



МЕНСК — 1929

Праца гэтая зьяўляецца ў сваёй аснове крыху дапоўненым дакладам, які аўтар рабіў у 1929 годзе упяршыню на ўсебеларускім агранамічным зьезьде, а пасьля на нарадзе прадстаўнікоў пляновых органаў і ў вышэйшых дзяржаўных установах Рэспублікі. Шэраг вельмі каштоўных уваг, якія былі атрыманы ў часе гэтых дакладаў, а таксама пры праглядзе працы паасобнымі таварышамі, якім аўтар прыносіць шчырую падзяку, дазволілі выправіць шмат якія памылкі і недакладнасьці. Бясспрэчна, аднак, што шмат іх яшчэ засталося ў працы, дый гэтага цяжка было-б і ўнікнуць дзеля шэрагу прычын, а перад усім дзеля прысьпешанага тэмпу, якім вялася праца, і недахвату дабраякасных матар'ялаў. Уважаючы вылажаную ў працы схему раёнаў за дыскусыйную, аўтар спадзяваўся выправіць яе недахваты на падставе заўваг і паправак з боку шырокіх колаў мясцовых зямельных і краязнаўчых працаўнікоў, практычна знаёмых з тыпам гаспадаркі паасобных раёнаў.

У момант, калі праца выходзіць у сьвет, соцыялістычнае будаўніцтва ставіць перад экономічным раёнаваньнем саўсім новыя задачы, якія год назад практычна яшчэ ня ўсплывалі. Ад будаўніцтва паасобных калгасаў, астраўкоў у моры індывідуальнае гаспадаркі, мы перайшлі ў гэтым годзе да суцэльнае колектывізацыі вялікіх тэрыторый на базе значна вышэйшай тэхнікі буйных соцыялістычных гаспадарак і ў бліжэйшай будучыне скончым колектывізацыю ўсяе краіны. Разам з гэтым ва ўвесь рост устала пытаньне аб раёнаваньні новых форм соцыялістычнае гаспадаркі, аб вызначэньні спэцыялізацыі і конкрэтных граніц агроіндустрыяльных комбінатаў-гігантаў. У абліччы гэтых пэрспэктыў разгляд экономічных формацый мінулага,—хаця-б і самага недалёкага, траціць шмат свае учарайшае актуальнасьці і можа мець вартасьць толькі як матар'ял, які можна скарыстаць для географічнага вывучэньня тэрыторыі; такое вывучэньне тэрыторыі неабходна пры раёнаваньні соцыялістычнае вытворчасьці ў значна большай меры, чым раней для рэгуляваньня і плянаваньня масавае аднаасабовае гаспадаркі.

Абмяжоўвацца, аднак, толькі гэтага роду матар'ялам цяпер, калі на парадку дня стаіць не рэгуляваньне, а непасрэдная організацыя гаспадарчых працэсаў, ніяк немагчыма. Паглыбленае вывучэньне прыродных рэсурсаў, найдакладнейшы падлік магчымасьцей, якія дае зьмена тэхнічнае базы ў сувязі з зьменай вытворчых адносін у буйной колектыўнай гаспадарцы ў параўнаньні з даўнейшай сялянскай дазволіць разьвязаць задачу раёнаваньня з значна большым посьпехам і цалкам у адпаведнасьці з сучаснымі організацыйнымі патрэбамі соцыялістычнае гаспадаркі.

Работа выкана па заданьні і за сродкі Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту сельскай і лясной гаспадаркі імя У. І. Леніна— пры дапамозе навуковага і тэхнічнага апарату катэдры географіі Беларускай Акадэміі Навук.

*Аўтар.*

# УСТУП.

## 1. Агульныя мэтодолёгічныя ўвагі.

Сельская гаспадарка Беларусі складаецца ў сучаснасьці з сотняў тысяч паасобных гаспадарчых адзінак, якія адносяцца да рознастайных эканомгеографічных тыпаў, соцыяльных форм і ўкладаў. Рознастайнасьць географічных тыпаў гаспадаркі злажылася стыхійна, пераважна як вынік прасторавага падзелу працы пад уплывам рознастайнасьці прыродных умоў паасобных мясцовасьцяй, пад непасрэдным уплывам рынкаў рознай ёмістасьці і рознай аддаленасьці, пад уплывам палепшаных шляхоў зносін, асабліва чыгунак, якія зьвязваюць паміж сабою аддаленыя раёны, пад уплывам шэрагу іншых эканомічных і соцыяльна-гістарычных фактараў.

Географічная дыфэрэнцыяцыя і географічны падзел працы ў сельскай гаспадарцы бязумоўна існавалі з самых даўных часоў, нават у часы панаваньня натуральнай гаспадаркі і нізкай тэхнікі комунікацый. У эпоху гандлёвага капіталу, напр., Беларусь мела значны гандаль збожжам, пянькой, лёнам, дрэвам і г. д., якія сплаўляліся па рэках да Рыгі і Кёнігсбэргу, і збожжам, якое прывозілася часткай па рэках, часткай коньмі з Украіны. Аднак цэлую рэволюцыю ў рыначных адносінах, а разам з тым і ў географічнай дыфэрэнцыяцыі зрабіла правядзеньне чыгунак. З 1866 году, калі па тэрыторыі Беларусі прайшла першая чыгунка (Дзьвінск—Віцебск), і да пачатку вайны, на працягу каля 50 гадоў адбываўся хуткі рост таварнага земляробства; праўда, дзякуючы неспагадным палітычным умовам царскага рэжыму, рост гэты значна адставаў ад росту ў некаторх іншых краінах былой Расіі. Тым ня менш тэмп дынамічных зьмен у народнай гаспадарцы за гэтыя паўвека быў вялікі. Вырасьлі адны гарады (часамі на пустым месцы), заняпалі другія, якіх абмінула чыгунка, надзвычайна ўзмацніўся вываз продуктаў сельскай і лясной гаспадаркі і ўвоз як сельскагаспадарчых, так і індустрыяльных продуктаў. Беларусь увайшла ў сфэру ўплыву далёкіх, часткаю сусьветных рынкаў.

Міжраённы і міжнародны абмен пры наяўнасьці палепшаных сродкаў комунікацыі ўжо ў умовах капіталістычнае гаспадаркі няўхільна вядзе да спэцыялізацыі кожнага раёну на тых галінах гаспадаркі і тых продуктах, якія ў даным раёне даюць найбольшы эканомічны эфэкт. Кожная народная гаспадарка абяртаецца ў сыстэму спэцыялізаваных раёнаў, дыфэрэнцыяцыя якіх у далейшым паглыбляецца па меры ўдасканаленьня транспорту, а таксама і росту мясцовых буйных рынкаў.

К моманту Кастрычнікавай рэволюцыі Беларусь складалася з шэрагу эканомічных раёнаў, якія прыймалі ўдзел у географічным падзеле працы, дзякуючы сваім міжнародным і міжраённым гандлёвым

сувязям. Плянавае будаўніцтва социялістычнае гаспадаркі ня можа ня лічыцца з гэтай зьявай, а наадварот павінна як найшырэй выкарыстаць яе ў процэсе социялістычнай рэконструкцыі, бо ў географічным падзеле працы хаваюцца колёсальныя магчымасьці падняцьця продукцыйнасьці працы і ўсяе народнае гаспадаркі. Проф. Н. Н. Баранскі, напр., даводзіць, што з гэтага боку географічны падзел працы дае для народнай гаспадаркі такія карысьці, як і палепшаньні тэхнікі[1]). А проф. С. В. Бэрнштэйн-Коган проста ўказвае, што: „задача плянавай гаспадаркі іменна ў тым і ёсьць, каб удакладніць і рацыяналізаваць гэты географічны падзел працы, які дагэтуль складаўся стыхійна“ [2]).

Такое значэньне географічнага падзелу працы абавязвае да найбольш пільнага і дакладнага вывучэньня гэтае зьявы ва ўсіх яе дэталях. Для таго, каб разабрацца ў многакшталтнасьці конкрэтнае экономікі Беларусі, трэба перад усім правесьці вялікую клясыфікацыйную працу экономічнага раёнаваньня — устанавіць галоўныя тыпы гаспадаркі і іх разьмяшчэньне, даць апісаньне гэтых тыпаў і тлумачэньне іх паходжаньня ў сувязі з важнейшымі ўмовамі, якія выклікалі іх існаваньне і лёкалізацыю. Трэба, адным словам, устанавіць географічнае разуменьне гэтых гаспадарчых комплексаў, як пэўных унутрана ўвязаных экономгеографічных ляндшафтаў. Такое разуменьне зусім необходна для ўсякай практычнай працы ў абсягу экономічнае політыкі социялістычнае дзяржавы.

Вышэйсказаным тлумачыцца тая ўвага да раёнаваньня, якая выявілася ў гады рэволюцыі, той попыт на раёнаваньне, якога па сутнасьці ўжо не змагла здаволіць цалкам навуковая думка папярэдняе эпохі. Ініцыятыва пераходзіць да навукова-плянавых установаў, створаных Кастрычнікавай рэволюцыяй, як камісія Гоэльро і Дзяржплян. Выкарыстоўваючы навуковыя здабыткі папярэдніх прац па раёнаваньні, дадаючы да іх сваю выразную мэтаімкнёнасьць і правільную мэтодолёгічную ўстаноўку ў гэтай справе, дадзеную У. І. Леніным яшчэ ў яго „Развитии капитализма в России“ [3]), гэтыя ўстановы стварылі ня толькі найбольш удалы падзел тэрыторыі СССР на раёны, але адначасна і асновы зусім новае і орыгінальнае мэтодолёгіі раёнаваньня, якая вядома пад назваю энэргетычнай.

Энэргетычны мэтод раёнаваньня ставіць сабе мэтаю рацыяналізацыю географічнага падзелу працы. Пры распрацоўцы пляну электрыфікацыі, які клаў аснову для ўсяго будучага разьвіцьця народнае гаспадаркі, было прызнана, што гэтае важнейшае пачынаньне социялістычнага будаўніцтва для свайго найбольшага посьпеху павінна праводзіцца з самым строгім падлікам мясцовых гаспадарчых асаблівасьцяй; значыць у першую чаргу трэба было высьветліць тыя рэальныя экономгеографічныя сукупнасьці, якія існавалі на тэрыторыі РСФСР, вылучыць іх тэрыторыі ў відзе раёнаў і высьветліць магчымыя пэрспэктывы разьвіцьця паасобных раёнаў у сувязі з іх энэргетычнымі рэсурсамі, капітальнымі вартасьцямі і характарам насяленьня. Самы процэс проектаваньня экономічнага раёну павінен адбывацца паводле дакладу Дзяржпляну РСФСР[4]) наступным чынам: „з самага пачатку мы задаемся пэўнай галоўнай спэцыялізацыяй нашага раёну і

[1]) Н. Баранский. Краткий курс экономической географии.
[2]) Экономическое районирование России. Выд. Госплану. 1921.
[3]) Н. Ленин. Развитие капитализма в России. Изд. 1925. Стр. 197-198.
[4]) Экономическое районирование России. 1922.

ў залежнасьці ад яе вызначаем прыблізную яго конфігурацыю, адносячы ў яго склад мясцовасьці, якія маюць тыя або іншыя вытворчыя элэмэнты, неабходныя для абранае мэты. Паралельна з гэтым вядзецца дэталёвае вывучэньне з прыродазнаўчага і экономічнага погляду тэрыторыі данага раёну, увязваючы ўсё гэта праз пабудову пляну вытворчага разьвіцьця данага раёну на аснове новае тэхнікі, падлікў капітальных затрат і кваліфікацыі насяленьня. У выніку робіцца магчымым спраўдзіць правільнасьць выбару спэцыялізацыі". У далейшым праводзіцца вывучэньне транспортных сувязяй, унутранога і вонкавага тавараздвароту, вызначэньне гаспадарчых цэнтраў і ўрэшце для канчатковага спраўджаньня раёнаваньня ўкладаюцца гаспадарчыя балянсы кожнага раёну. „Гэтым самым, кажа далей памянёны даклад, закладаюцца правільныя асновы будучае плянавае гаспадаркі краіны". Як вядома, плян электрыфікацыі разам з сваім энэргетычным раёнаваньнем і стаўся асновай усяго далейшага пляновага будаўніцтва соцыялістычнае гаспадаркі СССР.

Крытыка[1]) знаходзіла пэўныя недахваты ў мэтодолёгіі энэргетычнага раёнаваньня, недакладнасьці азначэньняў, унутраныя супярэчнасьці і г. д. Прызнаючы нават наяўнасьць гэтых недахватаў, трэба адначасова падкрэсьліць, што ў асноўным гэтая мэтодолёгія добрая, што яна адкрывае новыя магчымасьці ў раёнаваньні і вынікі працы па ёй цалкам здавальняюць вымогам як навукі, так і практыкі пляновага будаўніцтва. Каб значэньне яе лепш усьвядоміць, зьвернемся да іншых важнейшых кірункаў у справе мэтодолёгіі раёнаваньня.

Як бачым, энэргетычны мэтад раёнаваньня ў першую чаргу зьвяртае ўвагу на прыродныя ўмовы краю, якімі вызначаюцца яго асноўныя энэргетычныя рэсурсы, дый на спэцыялізацыю гаспадаркі ў процэсе географічнага падзелу працы як у сучаснасьці, так і ў пэрспэктыве. Найбольш пашыраныя і вядомыя дагэтуль тэорыі раёнаваньня проф. А. Н. Чалінцава і Г. А. Студзенскага або прынцыпова выкідалі з разгляду пры раёнаваньні прыродныя ўмовы або надавалі ім таксама як і кірунку рыначнае спэцыялізацыі другараднае значэньне. Асноўныя працы проф. А. Н. Чалінцава, выходзілі з імкненьня прадставіць у сучасным географічным разьмяшчэньні сыстэм гаспадаркі іхнюю эволюцыю на працягу часу (хоролёгія як адбітак хронолёгіі), дзеля чаго раёны разглядаюцца як „стадыі эволюцыі сельскае гаспадаркі". Раёнаваньне дазваляе аўтару эмпірычна вызначыць як тыпы гаспадаркі, так і іхнюю няпісаную гісторыю.

У аснову сельска-гаспадарчага раёнаваньня як А. Н. Чалінцаў, так і Г. А. Студзенскі кладуць амаль ня выключна адзнаку інтэнсыўнасьці гаспадаркі і яе галін; усе высілкі яны накіроўваюць да выдічэньня або хаця-б укоснага вызначэньня гэтае адзнакі. Тады як ранейшыя аўтары карысталіся пераважна звычайнымі статыстычнымі паказчыкамі (г. зв. натуральна-тэхнічнымі), як паказчыкі пропорцыі культур, суадносін розных відаў і ўзростаў жывёлы і г. д. Г. А. Студзенскі яскрава давёў неабходнасьць цэннаснага ўзважваньня гэтых паказчыкаў праз вылічэньне агуловае продукцыі і яе складу. Апроч інтэнсыўнасьці ў падставу вызначэньня тыпу гаспадаркі кладуцца

[1]) Напр., гл. працу Б. Н. Кніповіча: „Сельско-хозяйственное районирование". М. 1925.

суадносіны розных галін, іх удзельная вага ў гаспадарцы і ступень уцягнутасьці іх і ўсяе гаспадаркі ў рыначны тавараварот.

У выніку прац, пабудаваных на гэтых мэтодолёгічных падставах, атрымаліся бясспрэчна цэнныя вынікі, якія леглі ў падставу сельска-гаспадарчай географіі СССР. Вынікі гэтыя неабходны і для патрэб энэргетычнага раёнаваньня, але ўсё-ж імі толькі абмежавацца нельга; яны даюць нам больш-менш добры малюнак сучаснасьці і вельмі цікавы ўзгляд назад. Калі-б мы разьлічвалі толькі на стыхійную эволюцыю гаспадаркі, мы маглі-б на падставе мінулае эволюцыі зрабіць вывады і аб магчымым кірунку і тэмпе будучае эволюцыі — аб пэрспэктывах паасобных раёнаў. Аднак ва ўмовах плянавае гаспадаркі як кірунак, так і тэмпы экономічнага разьвіцьця вельмі моцна зьмяняюцца сьвядомай воляй дзяржавы, якой прыходзіцца пры конструяваньні раёнаў асабліва лічыцца з прыроднымі, (энэргетычнымі, сыравіннымі) рэсурсамі, а не абмяжоўвацца толькі высьвятленьнем пройдзеных стадый эволюцыі. Так для социялістычнага будаўніцтва бадай ці не важней ведаць глебавыя, гідролёгічныя, кліматычныя і іншыя ўмовы Палесься,чым сучасную экономічную структуру палескай сялянскай гаспадаркі (наогул кажучы вельмі цікавую) з яе адсутнасьцю трохпалёўкі і шэрагам перажыткаў вельмі даўняй мінуўшчыны. Недаўлік прыродных умоў перашкаджае пэрспэктыўнаму падыходу да раёнаваньня, дый пакідае нерастлумачанымі шэраг важнейшых зьяў у самых экономічных формах масавае гаспадаркі. Таксама шкодзіць працам па раёнаваньню няўвага да социяльна-гістарычных фактараў, пад уплывам якіх разгортваецца ўтварэньне і лёкалізацыя тыпаў сельскай гаспадаркі.

Папярэднікі памянёных аўтараў—П. П. Сямёнаў, А. І. Скварцоў і інш. улічвалі даволі шырака прыродныя ўмовы раёнаў і нярэдка іменна іх клалі ў аснову сельска-гаспадарчага раёнаваньня. Іхнім проектам раёнаваньня часам робяць закід, што яны замала паглыбляліся ў істоту экономічнае структуры і організацыі самое сельскае гаспадаркі. Для нас зараз больш важны тэорэтычныя асновы іхніх клясыфікацый тыпаў сельскай гаспадаркі. А. І. Скварцоў, працы па раёнаваньні Расіі якога, на жаль, засталіся незакончанымі, у сваіх тэорэтычных азначэньнях сыстэмы гаспадаркі таксама, як крыху раней проф. І. А. Сьцебут, выходзіць з характару рыначнае часткі продукцыі і называе сыстэмы гаспадаркі паводле найважнейшага рыначнага продукту. Падобнае-ж разуменьне і клясыфікацыя сыстэм гаспадаркі прыймалася У. І. Леніным пры высьвятленьні росту гандлёвага земляробства ў паасобных раёнах Расіі. „Той процэс спэцыялізацыі, гаворыць Ленін, які аддзяляе адзін ад аднаго розныя віды апрацоўкі продуктаў, ствараючы ўсё большы і большы лік галін прамысловасьці, выяўляецца і ў земляробстве, ствараючы спэцыялізаваныя раёны земляробства (і сыстэмы земляробчай гаспадаркі), выклікаючы абмен ня толькі паміж продуктамі земляробства і промысловасьці, але і паміж рознымі продуктамі сельскай гаспадаркі“. А далей Ленін спасылаецца на клясыфікацыі сыстэм сельскай гаспадаркі І. А. Сьцебута і А. І. Скварцова [1]). У гэтай працы Леніна мы ўжо бачым асноўныя думкі, якія пазьней былі разьвіты ў энэргетычным раёнаваньні Дзяржпляну, надаючы яму асноўны кірунак.

---

[1]) Н. Ленин. Развитие капитализма в России. Выд. 1925, ст. 14.

З навейшых аўтараў Б. Л. Брук [1]) у сваіх працах па раёнаваньню зьвярнуў асаблівую ўвагу на рынačную спэцыялізацыю паасобных раёнаў. Паводле яго думкі сыстэма гаспадаркі вызначаецца двума элемэнтамі—сыстэмай земляробства, пад якой ён разумее тэхніку спосабаў здабываньня продукцыі, і кірункам гаспадаркі. Апошні залежыць ад складу прыходна-грашовае часткі бюджэту, ад характару рыначных продуктаў і іншых грашовых прыбыткаў (промыслы і г. д.). Сыстэма гаспадаркі азначаецца гэтымі двума элемэнтамі так, як у батаніцы расьліны азначаюцца радавой і відавой назвай.

Мы ня будзем пералічаць шэрагу іншых прац, якія зачапляюць тэорыю раёнаваньня і даюць часта даволі орыгінальную мэтодыку і цікавыя вынікі. Трэба лічыць, што дагэтуль усе найбольш каштоўныя вынікі атрымаліся пры працы пералічанымі мэтодамі, або блізкімі да іх (напр., працы Нікіціна, Котава і г. д.). Паколькі нашая праца ставіць сабе мэтаю не высьвятленьне чыста мэтодолёгічных проблем раёнаваньня [2]), а пераважна конкрэтныя задачы як пазнавальнага, так і практычнага характару ў справе раёнаваньня БССР, дык мы і будзем імкнуцца з боку мэтодолёгіі галоўным чынам выкарыстаць вопыт нашых папярэднікаў, уносячы толькі тыя ці іншыя папраўкі з мэтай лепшага прыстасаваньня яго да беларускіх матар'ялаў і ўмоў. Гэта тым больш патрэбна, што самы характар матар'ялаў, якімі можна распалагаць пры д р о б н ы м раёнаваньні Беларусі, іншы раз вельмі абмяжоўвае выбар мэтодыкі працы. З другога боку для ўсебаковага разгляду такой важнай проблемы, як географічны падзел працы ў сельскай гаспадарцы Беларусі, будзе мэтазгодным выпрабаваць не адну якую-небудзь мэтодыку, а некалькі, тым больш, што кожная з іх мае свае вартасьці і заганы, дый розьніцы паміж іх у большасьці ня носяць прынцыповага характару. Каб вырашыць, якую частку работы мы будзем праводзіць якім спосабам, трэба азнаёміцца з характарам матар'ялаў, па якім прыдзецца працаваць, і магчымасьцямі застасаваньня тае або іншае мэтодыкі.

## 2. Стан матар'ялаў па БССР.

Перад усім трэба адзначыць, што як аб самых формах і тыпах гаспадаркі, так і аб умовах іх утварэньня ў нас вельмі мала навуковых апісаньняў з якаснымі характарыстыкамі. Розныя статыстычныя і ведамственныя дасьледваньні базіруюцца выключна на лічбовым матар'яле, які можна парознаму вытлумачыць. Толькі экспэдыцыйная дзейнасьць утвораных рэволюцыяй беларускіх навуковых устаноў (Беларуская Акадэмія Навук, Навукова-Дасьледчы Інстытут сельскай і лясной гаспадаркі імя Л е н і н а і інш.) за апошні дзесятак гадоў высьветліла характар некаторых экономгеографічных тыпаў і гэта ўжо дазваляе знайсьці ключ да тлумачэньня статыстычных лічбаў і па іншых тыпах. Што да статыстычных матар'ялаў, дык іх у архівах нашых статорганаў сабралася даволі многа і толькі фінансавыя магчымасьці ЦСУ, на жаль, не дазваляюць апублікаваць гэтыя лічбы ў падсумаваньнях па дробных тэрыторыяльных адзінках, як сельсаветы або адміністрацыйныя раёны. Мы для свае працы мелі магчымасьць

[1]) Сельско-хозяйственные районы ЦЧО.

[2]) Адносна гэтых апошніх гл. літаратуру ў канцы кнігі.

скарыстаць гэтыя матар'ялы і на іх у першую чаргу грунтуем свае схэмы раёнаваньня.

Да часоў імпэрыялістычнае вайны Беларусь ня мела колькі-небудзь здавальняльнай і дэталёвай статыстыкі. Публікаваліся тады толькі паветавыя або нават губэрскія лічбы, якімі рэгістраваўся вельмі абмежаваны круг экономічных зьяў, што найлягчэй паддаваліся статыстычнаму нагляданьню, як прыкл. плошчы засеву і ўраджайнасьць паасобных культур, лік жывёлы, рыначныя цэны і г. д. Бюджэтных дасьледваньняў па ўсёй этнографічнай Беларусі за даваенны час амаль што не вядома. Адно што было запраўды добра пастаўлена ў той час—гэта транспартная статыстыка, якая рэгістравала і публікавала лічбы перавозак паасобных грузаў па кожнай станцыі з паказаньнем іх кірунку. Ужо ў часы рэволюцыі з гэтых абшырных матар'ялаў былі зроблены выбаркі перавозак па ўсіх станцыях этнографічнае Беларусі за некалькі год С. Ждановічам і А. Ярашчуком і апублікаваны ў апрацаваным відзе ў працы: „Характарыстыка сельскай гаспадаркі Беларусі на падставе чыгуначных і водных перавозак". Гэтымі матар'яламі карысталіся і мы ў працы па раёнаваньні.

У часы вайны ўпяршыню ў Беларусі былі праведзены ўсеагульныя сельска-гаспадарчыя перапісы ў 1916 і 1917 гадох, лічбы якіх апублікаваны ў паветавых лічбах, але для карыстаньня даступны і неапублікаваныя дагэтуль лічбы па больш дробных адзінках—валасныя. Мы маем тут разьмеркаваньне плошчы ўсяе зямлі па ўжыткоўнасьцях, падзел ральлі на засеўную і незасеўную плошчу (за 1917 г.), склад засеўнае плошчы па культурах (абодвы гады), лік жывёлы з разьмеркаваньнем яе па відах і узроставых групах (абодвы гады). Усеагульны характар гэтых сьпісаў і даволі добрая іх організацыя тлумачаць тую ўвагу, якой карыстаюцца ў дасьледчыкаў экономістых-географаў гэтыя сьпісы да нашага часу, ня гледзячы на тое, што яны адносіліся да гаспадаркі ўжо моцна зьмененай ваеннымі ўмовамі, на тое, што ад часоў, калі праводзіліся гэтыя перапісы, нас аддзяляе 12-13 гадоў вайны імпэрыялістычнай і грамадзянскай, вялікай рэволюцыі і выключнага па свайму характару і тэмпу соцыялістычнага будаўніцтва. Так, напр. гэтымі лічбамі карыстаецца ў якасьці асноўнага матар'ялу Уралплян пры раёнаваньні сваé краіны ў 1928 годзе, а трэба сказаць, што на Урале была ў свой час някепская земская статыстыка. Тым больш патрэбна выкарыстаць гэты матар'ял пры раёнаваньні Беларусі, дзе земскай статыстыкі зусім ня было і аб даваеннай географіі сельскай гаспадаркі мы шмат чаго можам даведацца выключна з гэтых крыніц.

Перапіс 1920 году ахапіў толькі ўсходнюю частку Беларусі, якая знаходзілася найбліжэй да фронту. Стан гаспадаркі ў той час быў яшчэ менш характэрным як для даваенных, так і для сучасных умоў. Апроч таго і непаўната ахопу тэрыторыі Рэспублікі перашкаджае выкарыстаньню гэтае крыніцы.

Пасьля 1920 году на тэрыторыі Беларусі не адбывалася ўсеагульных сельска-гаспадарчых сьпісаў— чарговы такі сьпіс мяркуюць правесьці толькі ў 1930 годзе. Аднак на працягу апошніх 10 год у нас нарыхтавалася ў значна большых чым да рэволюцыі разьмерах рэгулярная праца бягучае статыстыкі, матар'ялы якое заслугоўваюць на асаблівую ўвагу. Штогод праводзяцца веснавыя і асеньнія роспыты $^{1}/_{10}$ часткі ўсіх гаспадарак па програмах вялікіх сельска-гаспадарчых перапісаў, штогод праводзяцца вельмі паглыбленыя перапісы насель-

ніцтва і гаспадаркі ў паасобных гнёздах для высьвятленьня дынамічных процэсаў у гаспадарцы і ўрэшце бюджэтныя дасьледваньні таксама ў 20 з лішнім гнёздах; па БССР. Гэтыя матар'ялы даюць нам малюнак сучаснага стану беларускай сельскай гаспадаркі і яе разьмяшчэньня, што прадстаўляе асаблівую пазнавальную і практычную цікавасьць; але, з другога боку, нярэдка выказваюцца сумляваньні аб іх рэпрэзэнтацыйнасьці.

Што да 10-процантавых веснавых роспытаў, пры якіх праводзіцца даволі мэханічны выбар об'ектаў дасьледваньня, дык сумляваньні ў іх рэпрэзэнтацыйнасьці для географічных мэт трэба адкінуць. Як мы пераканаліся, з году ў год гэтыя роспыты даюць нам амаль нязьменна лёкалізаваныя раёны паасобных элемэнтаў сельска-гаспадарчага ляндшафту. Дынамічныя зьмены паасобных паказчыкаў у большасьці выпадкаў маюць цалкам законамерны характар і лёгка паддаюцца вытлумачэньням. У кожным разе, калі не абсолютныя лічбы паасобных паказчыкаў, дык іх суадносіны і разьмяшчэньне даецца вынікамі гэтых роспытаў больш-менш правільна.

Іншая рэч гнездавыя дасьледваньні як дынамічныя, так і бюджэтныя. Адносна першых заўсёды можа быць няпэўнасьць што да тыповасьці абраных для нагляданьняў тэрыторый, а адносна другіх—адносна тыповасьці як тэрыторыі, так і самых гаспадарак. Бясспрэчна, тут вельмі цяжка ўхіліцца ад недакладнасьцяй і памылак, але гэта зусім яшчэ ня значыць, што гэтых даных нельга выкарыстаць пры раёнаваньні. Сапраўды, тыповасьць тых або іншых вёсак ці гаспадарак для данага раёну мы можам хаця-б прыблізна ўстанавіць на падставе даных статыстычных перапісаў выбарачных і ўсеагульных, а таксама на падставе літаратурных крыніц. Гэтыя-ж даныя дазваляюць нам і наадварот меркаваць аб пашыранасьці тых або іншых тыпаў і зьяў, якія паглыблена вывучаюцца пры бюджэтным або дынамічным дасьледваньні. Значыць, гэтыя апошнія дасьледваньні даюць магчымасьць паглыбіць нашае разуменьне ўжо вылучаных на падставе іншых матар'ялаў экономічных тыпаў, а таму іх трэба шырака выкарыстоўваць пры раёнаваньні.

Апроч успомненых асноўных статыстычных матар'ялаў мы ў сучаснасьці можам распалагаць цікавай „ведамственнай“ статыстыкай. Ужо ўспаміналася аб высокіх якасьцях транспортнай статыстыкі і аб неабходнасьці яе выкарыстаньня пры раёнаваньні. Тое самае трэба сказаць адносна статыстыкі нарыхтовак нашых дзяржаўных і коопэратыўных устаноў, аб статыстыцы контрактацыі засеваў, аб статыстыцы коопэратыўных устаноў, асабліва вытворчае і збытавое коопэрацыі і інш. Даныя гэтыя асьвятляюць важнейшае пытаньне аб рыначнай спэцыялізацыі паасобных раёнаў, што пры раёнаваньні мае асаблівую важнасьць.

Нарэшце трэба адзначыць неабходнасьць прыцягненьня да працы па раёнаваньні розных даных дэмографічнае статыстыкі і вынікаў прыродазнаўчых, географічных і экономічных экспэдыцый і дасьледваньняў.

### 3. Програма работ па сельска-гаспадарчым раёнаваньні.

Пастараемся цяпер пабачыць, у якой меры мы можам зьдейсьніць нашу працу тым або іншым мэтодам. Пачнем з найбольш популярнага ў сучаснасьці мэтоду раёнаваньня на падставе вызначэньня інтэнсыў-

насьці валёрыстычным мэтодам (Г. А. Студенский, А. А. Котов). Магчымасьць ужываньня гэтага мэтоду ў дробным сельска-гаспадарчым раёнаваньні Беларусі некалькі абмежавана. Так, вылічэньні агуловай продукцыі па дробных тэрыторыяльных адзінках для даваеннага часу немэтазгодны, бо ў нас няма даных ні аб продукцыйнасьці культур і галін, ні аб цэнах для дробных тэрыторыяльных адзінак. Вылічэньні гэтых лічбаў нарматыўным спосабам маглі-б павесьці да вялікага скажэньня супраўднасьці і ў кожным разе не апраўдалі-б тых высілкаў, якія прышлося-б для гэтай мэты затраціць.

Мэтазгодным будзе праводзіць валёрыстычнае раёнаваньне альбо па больш буйных адзінках (па паветах), або паводле даных веснавых роспытаў апошніх гадоў па адміністрацыйных раёнах. Калі прыняць пад увагу ўжо сказанае аб рэпрэзэнтацыйнасьці гэтых апошніх матар'ялаў, а таксама тое, што даныя аб цэнах і аб продукцыі паасобных галін у большасьці выпадкаў у нас ёсьць, трэба лічыць, што валёрыстычнае раёнаваньне на падставе гэтых матар'ялаў павінна даць памысныя вынікі.

Валёрыстычныя вылічэньні трэба ўжываць па магчымасьці і адносна іншых матар'ялаў і крыніц. Так, даныя чыгуначных перавозак шмат выграюць пры ацэнцы іх, хаця-б самай схэматычнай. Для вывучэньня агуловай продукцыі трэба прыцягнуць бюджэтны матар'ял, матар'ял дынамічных перапісаў і г. д. Праводзячы такім чынам значную частку працы пры дапамозе валёрыстычнага мэтоду, мы не павінны адхінацца ад непасрэднага разгляду натуральна-тэхнічных паказчыкаў. Запраўды, момант ацэнкі нярэдка можа грунтоўна адхіліць увесь выгляд гаспадаркі ад запраўднасьці, у якой рэальнае значэньне паасобных элемэнтаў вызначаецца іх натуральнай колькасьцю, а не цаною. Гэта якраз адзначае ня хто іншы, як проф. Г. А. Студзенскі, аўтар сучаснае валёрыстычнае мэтодыкі раёнаваньня. Выходзячы з неадэкватнасьці тэхнічнага і цэнавога складу элемэнтаў сельска-гаспадарчай вытворчасьці, ён лічыць, што „ў сваім аналізе экономічная тэорыя заўсёды павінна дайсьці да натуральнай асновы гаспадарчых зьяў, бо ў натуральнай прыродзе багацьцяў ляжыць супраўднае іх значэньне для чалавека" [1]).

Прымаючы сказанае пад увагу, мы ў некаторай часьці работы будзем карыстацца натуральна-тэхнічнымі паказчыкамі — галоўным чынам у тых выпадках, дзе па тэй або іншай прычыне ня мог быць ужыты валёрыстычны мэтод. Пры гэтым будзем мець на ўвазе, што натуральна-тэхнічныя паказчыкі могуць даць нам толькі прыблізную, укосную характарыстыку інтэнсыўнасьці сельскай гаспадаркі. Хаця даныя аб агуловай продукцыі таксама па сутнасьці не адказваюць на пытаньне аб інтэнсыўнасьці, якую ўласьціва трэба было-б азначаць не па вышыні продукцыі, а паводле разьмераў затрат, але ўжываньне гэтага апошняга спосабу пры дробным раёнаваньні пры сучасным стане нашых статыстычных матар'ялаў магчыма толькі ў відзе выключэньня. Нават бюджэтныя матар'ялы ЦСУ, якімі мы карысталіся, не дазваляюць зрабіць такія вылічэньні, бо ў іх у большасьці выпадкаў няма даных аб затраце працы.

Нарэшце трэба адзначыць яшчэ неабходнасьць **дынамічнага** ўхілу ў раёнаваньні і наогул у экономічнай географіі. Апошняя нярэдка

---

[1]) Г. А. Студенский. Проблемы экономики и географии сельск. хозяйства. 49 ст.

прадстаўляецца выключна як навука аб статычным разьмяшчэньні зьяў. „Экономічная географія зьяўляецца быццам дадаткам да экономічнай гісторыі. Апошняя вывучае гаспадарчае жыцьцё ў мінулым, першая ў сучаснасьці“ [1]). Між тым географія цяпер ужо цікавіцца па сутнасьці ня толькі разьмяшчэньнем паасобных зьяў, а разьмяшчэньнем пэўных комплексаў зьяў — ляндшафтаў і пры тым ня толькі самым разьмяшчэньнем, а і генэзісам паасобных ляндшафтаў і дынамікай іх у межах бліжэйшага мінулага, сьляды якога ня страцілі яшчэ цалкам свайго значэньня ў сучасным ляндшафце. У прыстасаваньні да сельска-гаспадарчага раёнаваньня для нас важна ня толькі даць клясыфікацыю сучасных гаспадарчых тыпаў і сетку раёнаў, але зразумець і вытлумачыць іх паходжаньне, дынаміку разьвіцьця і магчымыя парспэктывы. З гэтай мэтай намі і пастаўлены спэцыяльныя работы па дынаміцы паказчыкаў, якімі магчыма будзе ахапіць пэрыоды па дробных раёнах з 1916 да 1928 году, а па буйных—з 80-х гадоў да сучаснасьці.

Самастойную цікавасьць прадстаўляе разгляд географіі сельска-гаспадарчых паказчыкаў у 1916-1917 гадох. Папершае, тут мы маем адбіцьцё, хоць можа і ня цалкам дакладнае, даваеннае экономікі з яе экономічнымі укладамі, якія ўтварыліся ў выніку даўгой стыхійнай эволюцыі. Падругое, даныя 1916-1917 гадоў аб географічным разьмяшчэньні тыпаў сельскай гаспадаркі па сутнасьці ня зусім яшчэ ўстарэлі і для нашага часу. У кожным з раёнаў, у кожным з географічных тыпаў сельскай гаспадаркі маглі адбыцца колёсальныя зрухі і зьмены як колькаснага, так і якаснага характару, але суадносіны паміж раёнаў маглі ў вынікў зьмяніцца вельмі мала; таксама і разьмяшчэньне тыпаў сельскай гаспадаркі магло застацца ў асноўным мала зьмененым. Разгляд самых матар'ялаў 1916-1917 гадоў пераканае нас, што так яно фактычна і было. Але калі матар'ялы 1916-1917 гадоў ня страцілі свайго значэньня да нашага часу, дык яны прадстаўляюць для нас асаблівую цікавасьць з таго боку, што даюць нам весткі аб тэрыторыяльных адзінках у 3-4 разы драбнейшых, чым сучасны адміністрацыйны раён — аб валасьцёх. Гэта дазваляе адпаведна ўдакладніць нашае раёнаваньне, зрабіць яго яшчэ больш дробным і самае галоўнае—зразумець шэраг сучасных лічбаў па адміністрацыйных раёнах. Апошнія лічбы, з неабходнасьці будучы сярэднімі, выведзенымі нярэдка праз сумаваньне гаспадарчых адзнак розных географічных тыпаў, ствараюць іншы раз уражаньне пераходных тыпаў там, дзе ёсьць рэзкі рубеж і наогул нярэдка зацямняюць запраўдны малюнак разьмяшчэньня сельска-гаспадарчых раёнаў. З мэтай найпаўней выкарыстаць гэтую крыніцу мы вылучаем у асобную тэму географію сельскай гаспадаркі паводле даных перапісаў 1916-1917 гадоў.

Важнасьць заданьня, якім зьяўляецца сельска-гаспадарчае раёнаваньне БССР, і недахват патрэбных крыніц і матар'ялаў прымушае нас з поўнай увагай і стараннасьцю выкарыстаць усе даступныя матар'ялы, пасьвячаючы больш важным іх групам асобныя самастойныя работы. У выніку працы—па сельска-гаспадарчаму раёнаваньню БССР на нашую думку павінны складацца з шэрагу асобных тэм.

Перад усім трэба паставіць працы па вывучэньню галоўных умоў і фактараў сельскай гаспадаркі. Звычайна пры экономічным раёнаваньні

---

[1]) Проф. Э. Ден. Курс экономической географии, ст. 3.

ў сучаснасьці гэтыя фактары і ўмовы разглядаюцца асобна і ўводзяцца ў сыстэму раёнаваньня ў якасьці момантаў, якія дазваляюць вытлумачыць той або іншы экономічны ляндшафт. Хаця мы будзем імкнуцца да таго, каб устанавіць больш цесную сувязь паміж экономічным ляндшафтам і ўмовамі, якія яго стварылі, аднак лічым неабходным папярэдняе падсумаваньне вывадаў навуковае літаратуры адносна прыродных ляндшафтаў Беларусі, як базы для разьвіцьця раённых тыпаў гаспадаркі. Далей у спэцыяльнай рабоце неабходна разгледзіць вонкавыя экономічныя ўмовы сельскай гаспадаркі — перад усім геаграфію рынкаў і цэн. І ўрэшце неабходнасьць улічыць у раёнаваньні момант соцыяльны патрабуе асобнага разгляду географіі вытворчых адносін у сельскай гаспадарцы, паколькі на гэта дазволяць наяўныя статыстычныя матар'ялы.

Для выяўленьня саміх тыпаў сельскай гаспадаркі і прастораў іх пашырэньня мы, як ужо відна з вышэйсказанага, павінны выкарыстаць шэраг крыніц, якія проста або ўкосна даюць нам патрэбны адказ на запытаньне. З гэтай прычыны мяркуем правесьці наступныя асобныя работы: а) раёнаваньне на падставе даных аб агуловай продукцыі, яе вышыні і складзе ў 1926—8 гадох, б) дынаміка асноўных элемэнтаў сельска-гаспадарчае вытворчасьці за пэрыод 1881—1926 г. па буйных раёнах і за 1916—1928 г. па дробных раёнах, в) раёны вывазу сельска-гаспадарчых продуктаў у 1913 і 1926-27 гадох на падставе даных чыгуначных перавозак, г) географія сельска-гаспадарчае вытворчасьці па дробных раёнах валаснога маштабу ў 1916-17 гадох. Вывады ўсіх пералічаных прац, дапоўненыя паглыбленымі характарыстыкамі тыпаў сельскай гаспадаркі на падставе бюджэтных і дынамічных дасьледваньняў ЦСУ, даных ведамсьцьвеннай статыстыкі і матар'ялаў навукова-дасьледчае літаратуры, пасьля іх крытычнага разбору і ўзгадненьня дадуць магчымасьць з належнай упэўненасьцю конструіраваць сыстэму сельска-гаспадарчых раёнаў.

Такая програма работ па сельска-гаспадарчым раёнаваньні ўжо дзеля сваіх разьмераў можа быць выканана толькі пры колектыўным удзеле шэрагу спэцыялістых. Гэтага аднак мала. Кожны спэцыялісты, нават калі ён мае ў сваім распараджэньні вычарпальны матар'ял (а тым больш, калі такога матар'ялу ня мае), павінен увязаць свае вывады з жыцьцёвай запраўднасьцю, устанавіўшы магчыма шырэйшы контакт з пэрыфэрыяй, з масамі мясцовых работнікаў, для карыстаньня якіх ён урэшце дасьць вынікі свае работы. Устанаўленьне такога контакту пажадана і патрэбна ва ўсякай навуковай працы, якая зачапляе інтарэсы мас і ім служыць, але асабліва патрэбна яно ў справе сельска-гаспадарчага раёнаваньня, якое імкнецца да клясыфікацыі сотняў тысяч гаспадарчых адзінак, да высьвятленьня як сучаснага стану, так і пэрспэктыў вялікіх тэрыторый і да ўстанаўленьня падстаў тэй экономічнай політыкі, якую адносна іх павінна будзе стасаваць дзяржава. Тут удзел у працы масавага працаўніка асабліва неабходны.

Выходзячы з гэтых меркаваньняў, а таксама жадаючы магчыма хутчэй даць дзяржаўным органам і грамадзянству хаця-б самую грубую схэму сельска-гаспадарчых раёнаў, мы, не чакаючы заканчэньня ўсіх прац па раёнаваньні, выдаем папярэднія вынікі тае часткі працы па раёнаваньні, якая ўжо закончана, або магла быць спэцыяльна прысьпешана. Праца гэтая мае некаторыя мэтодолёгічныя асаблівасьці, на якіх трэба троху затрымацца.

## 4. Мэтодолёгічныя асаблівасьці папярэдняга раёнаваньня.

У падставу папярэдняй працы аб сельска-гаспадарчых раёнах Беларусі мы кладзем матар‘ялы веснавых роспытаў ЦСУБел 1927 [1]) і 1928 гадоў (гл. у канцы кнігі) і ведамсьцьвенныя даныя аб рыначнай спэцыялізацыі гаспадаркі—матар‘ялы аб контрактацыі засеваў і сьвіней, аб загатоўках, аб коопэрацыі і асабліва аб малочных арцелях і некаторыя матар‘ялы статыстыкі чыгуначных перавозак, у тым ліку яшчэ неапублікаваныя даныя работы ў гэтым кірунку М. В. Азбукіна. Апроч таго выкарыстоўваюцца даныя бюджэтных дасьледваньняў і адпаведная навуковая літаратура аб сельскай гаспадарцы Беларусі, яе ўмовах і формах, пералічаная ў дадзеным сьпісе. Гэтых матар‘ялаў замала, каб можна было гаварыць аб канчатковым устанаўленьні сельска-гаспадарчых раёнаў, але досыць для папярэдняй схэмы. Адсутнасьць матар‘ялаў па агуловай продукцыі абцяжыць нам колькаснае вымярэньне інтэнсыўнасьці сельскай гаспадаркі і яе паасобных галін. Каб даць усё-ж уяўленьне і ў гэтай справе, мы скарыстаем даныя бюджэтных матар‘ялаў і ўкосныя характарыстыкі інтэнсыўнасьці, якія можна атрымаць з пералічаных матар‘ялаў.

Гэтая асаблівасьць скарыстных у працы матар‘ялаў прымушае нас сконцэнтраваць у ёй галоўную ўвагу вакол пытаньня аб кірунку спэцыялізацыі гаспадаркі. Як мы бачылі вышэй (стар. 2-5), вызначэньне кірунку спэцыялізацыі гаспадаркі зьяўляецца наогул важнейшай часткай раёнаваньня, а ў некаторых аўтараў—як у Скварцова, Брука, Аляксандрава самай асноўнай і важнай опэрацыяй пры раёнаваньні. Прыстасоўваючы дробнае сельска-гаспадарчае раёнаваньне да сыстэмы энэргетычнага раёнаваньня Дзяржпляну, мы павінны перад усім даць адказ аб сучаснай спэцыялізацыі паасобных раёнаў, што разам з падлікам энэргетычных і сыравінных рэсурсаў дазволіла-б устанавіць пэрспэктывы спэцыялізацыі ўсяе народнае гаспадаркі раёну.

Такім чынам нашыя, на першы погляд недастатковыя, матар‘ялы дазволяць нам шчыльна падыйсьці да асноўнай проблемы, якую павінна разьвязаць раёнаваньне. Гэта надае вынікам нашай папярэдняй працы характар ня толькі дыскусыйнае схэмы раёнаў, але і некаторага чарнавога проекту, які карысна будзе ў далейшым мець на ўвазе пры пастаноўцы ўсіх іншых прац па раёнаваньню.

Звычайна ў працах па раёнаваньні шмат увагі ўдзяляюць статыстычнай і картографічнай тэхніцы працы. У некаторых аўтараў, як прыкл., у Нікіціна, Абухова і інш., гэтая тэхніка даведзена да высокай ступені распрацаванасьці і складанасьці і тым ня менш не заўсёды пры сваім стасаваньні дае памысныя вынікі. Прычынай гэтага мы лічым ужываньне значнай колькасьці адзнак, па якіх не заўсёды ёсьць цалкам верагодныя і даступныя для тлумачэньня лічбы.

З мэтаю па магчымасьці спрасьціць усю працу мы будзем карыстацца пры раёнаваньні мінімальнай колькасьцю адзнак, якія характарызуюць толькі асноўныя рыначныя галіны гаспадаркі. Але кожную з такіх адзнак мы пастараемся папярэдне вывучыць, параўнаўшы ўсе

[1]) Матар‘ялы веснавога распыту 1927 году былі распрацаваны для гэтай мэты групай працаўнікоў ЦСУБел. пад кіраўніцтвам А. Папялышкі, М. Гілячава і В. Папёнышавай. Лічбы абодвых гадоў бяруцца асобна, бо выведзеныя з іх сярэднія за 2 гады толькі затушавалі-б магчымую дэфэктоўнасьць паасобных лічбін. Бяручы іх асобна, мы ўжо паводле разьмеру хістаньняў можам меркаваць аб іхняй большай ці меншай пэўнасьці.

даступныя нам крыніцы, якія гавораць аб географіі данае адзнакі, і даць па кожнай такой адзнацы ўжо крытычна выверануую схэму раёнаў яе пашырэньня. Так, калі мы прызнаем аднэй з адзнак раёнаваньня спэцыялізацыю на бульбяной культуры, дык мы ўводзім яе ў агульнае раёнаваньне у відзе асобнай схэмы бульбяных раёнаў, апрацаванай на падставе даных веснавых роспытаў аб плошчы бульбы, вестак аб контрактацыі, чыгуначных перавозак і г. д. Зразумела, што такая схэма бульбяных раёнаў будзе значна больш верагоднай, чым устаноўленая толькі на падставе аднаго паказчыка, напрыклад, удзелу бульбы ў засеўнай плошчы.

Другое тэхнічнае пытаньне, якое заўсёды стаіць перад працаўніком раёнаваньня, гэта способ устанаўленьня інтэрвалаў кожнае асобнае адзнакі. Аб гэтым шмат пісалі і спрачаліся. Так, М. Давыдовіч лічыць, што „інтэрвалы будуюць раёны. Ад якасьці інтэрвалу залежыць і склад і якасьць раёнаў" [1]). В. М. Абухоў [2]), выходзячы з важнасьці гэтае справы і хочучы ўхіліцца ад суб'ектыўных момантаў, запрапанаваў дзяліць статыстычныя рады паказчыкаў інтэрваламі на 5 груп чыста мэханічным спосабам—у залежнасьці ад велічыні сярэдняй арыфмэтычнай усяго раду. А. Н. Чалінцаў прапануе мэханічна дзяліць на 4 групы—па роўнай колькасьці тэрыторыяльных адзінак у кожнай або вышэй і ніжэй сярэдняй і палавіны сярэдняй або палутарнай сярэдняй [3]). Аднак спосаб мэханічнага ўстанаўленьня інтэрвалаў надзвычайна грубы. Мы пераканаліся ў гэтым зрабіўшы вылічэньні інтэрвалаў па спосабу Абухова. Атрымаўшы пасьля даўгіх і складаных вылічэньняў картаграмы паасобных адзнак, мы не маглі імі карыстацца, бо яны давалі больш грубы малюнак разьмяшчэньня паасобных адзнак, чым якое-небудзь простае інтэрваліраваньне, напр., па дзесятках.

Пры вызначэньні інтэрвалаў, нам здаецца, больш мэтазгодным трымацца якіх-небудзь магчымых да ўгрунтаваньня прынцыпаў. Такімі могуць быць, напр., організацыйна-тэхнічныя нормы самой гаспадаркі. Разглядаючы падзел ральлі на засеўную плошчу і папар, мы можам, напр., мець на ўвазе, што ў чыстай трохпалёўцы папар будзе складаць 33% ральлі, а ў экстэнсыўных формах папарнай чатырохпалёўкі ці васьміпалёўкі—25% ральлі. Гэтыя лічбы і кратныя ім, выкарыстаныя пры раёнаваньні, робяць інтэрваліраваньне больш сэнсоўным. Можна таксама выкарыстоўваць нормы найбольш пашыраных севазваротаў (напр. 12,5% бульбы ў васьміпалёўцы), у жывёлагадоўлі—склад стада, які ў розных яе кірунках і сыстэмах мае свае больш-менш характэрная лічбы.

Такое тэорэтычнае ўстанаўленьне інтэрвалаў на жаль можна стасаваць не да ўсіх адзнак і не ва ўсіх выпадках. Нават там, дзе тэорыя дае выразныя нормы, як у прыведзеных прыкладах, многакшталтнасьць і складанасьць экономічнае сапраўднасьці разам з нявывучанасьцю экономікі і організацыі беларускае масавае гаспадаркі не даюць пры карыстаньні гэтым спосабам пажаданых посьпехаў. Затым-то часьцей прыходзіцца стасаваць способ географічнага ўстанаўленьня інтэрвалаў. Перад усім ужо шляхам непасрэднай

[1]) М. Давидович. О системе признаков в сельско-хозяйственном районировании.
[2]) В. М. Обухов. К вопросу о распределении статистических материалов при районировании.
[3]) У работах „Сельско-хозяйств. районы", у Трудах Земплана XIII і „К методологии с.-х. микрорайонирования". Пути с.-хоз. 1928, кн. 4-5-6.

орыентыроўкі на карце мы часта зусім лёгка можам знайсьці з аднаго боку компактныя масывы блізкіх адзін да аднаго значэньняў данае адзнакі і з другога боку—тыя выразныя іншы раз ступені і разрывы ў статыстычных і географічных радох, якія адпавядаюць натуральным і рэзкім граніцам паміж раёнамі. Так без вялікіх труднасьцяй мы амаль па ўсіх адзнаках знойдзем рэзкую прыступку, якая аддзяляе інтэнсыўную Случчыну ад суседняга з паўдня і ўсходу экстэнсыўнага Палесься. Гэта дазваляе нам эмпірычна вызначыць інтервал паміж рэальна існуючымі тыпамі беларускай сельскай гаспадаркі. Калі-ж намі ўжо тым або іншым спосабам (напр., спосабам мэханічнага ўстанаўленьня інтэрвалаў), хаця-б згруба вывучана географія асноўных умоў і асноўных тыпаў сельскай гаспадаркі, дык важныя ўказаньні можа даць параўнаньне картограм адзнакі, якую мы вывучаем, з картограмамі ўжо больш ці менш вывучаных адзнак. Так, калі мы ведаем разьмяшчэньне глебавых тыпаў, дык сочачы за зьменай колькасьнага выражэньня данае адзнакі на мяжы паасобных глебавых тыпаў, мы можам знайсьці запраўды характэрны інтэрвал; ведаючы разьмяшчэньне таварнага валакна ў частцы тэрыторыі, мы зможам знайсьці сярод організацыйна-тэхнічных паказчыкаў адпаведныя іх велічыні, якія характэрны для раёнаў таварнага валакна і якія можна будзе экстраполіраваць на іншыя часткі тэрыторыі.

Калі-ж ні тэорэтычным ні эмпірычным спосабам не ўдаецца атрымаць характэрных інтэрвалаў, дык астаецца ўжыць адзін з мэханічных спосабаў, пры тым пажадана—найпрасьцейшы. Мы звычайна ў такіх выпадках бралі інтэрвалы па больш-менш круглых лічбах—цэлыя адзінкі, кратныя 5 або 10.

Нарэшце трэба яшчэ сказаць аб спосабе аб'яднаньня раёнаў паасобных адзнак у сынтэтычныя сельска-гаспадарчыя раёны. Справа гэтая даволі цяжкая,—некаторыя аўтары дзеля таго проста адмаўляюцца ўстанаўляць такія агульныя „інтэгральныя“ раёны. Выходзячы з тых задач раёнаваньня, аб якіх гаварылася ўпачатку, мы ня лічым магчымым адмовіцца ад устанаўленьня аб'яднаных сельска-гаспадарчых раёнаў, раёнаў, якія-б адпавядалі сельска-гаспадарчым ляндшафтам. Для гэтай мэты мы карыстаемся спосабам налажэньня адзнак аднае на адну. Такое налажэньне можна зьдзейсьніць, наносячы па чарзе граніцы паасобных спэцыяльных раёнаў на адну картограму, альбо ўжываючы якія-небудзь умоўныя адзначэньні прыналежнасьці кожнага данага вучастку да таго ці іншага спэцыяльнага раёну. Мы карыстаемся для такіх адзначэньняў першымі літарамі лацінскага альфабэту. Гэта дазваляе пры вылучэньні сынтэтычных сельска-гаспадарчых раёнаў мець перад вачыма адразу характарыстыку кожнае тэрыторыяльнае адзнакі з боку ўсіх адзнак, якія прыймаюцца пры раёнаваньні.

---

Папярэдняя схэма сельска-гаспадарчых раёнаў, апрацаваная выкладаным тут мэтодам, як ужо адзначалася, не прэтэндуе на шырокае навуковае ці практычнае значэньне; яе роля больш службовая, дапаможная ў далейшым разгортваньні працы раёнаваньня. Аднак, схэма гэтая мае некаторае самастойнае значэньне, як дзякуючы выкарыстаньню матар'ялаў, якія прадстаўляюць бясспрэчную цікавасьць для экономічнай географіі Беларусі, так і паводле свае мэтодолёгічнае ўстаноўкі, якая ідзе ў кірунку прыстасаваньня ў дробным сельска-гаспадарчым раёнаваньні падстаў энэргетычнага мэтоду.

# УМОВЫ РАЗЬВІЦЬЦЯ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ БССР.

Ставячы сабе мэтай ня толькі вылучыць і апісаць сельска-гаспадарчыя раёны, але і зразумець іхнюю сутнасьць, вытлумачыць іх утварэньне і мець падставы для меркаваньня аб іхніх пэрспэктывах, мы павінны перад усім разгледзіць тыя ўмовы, прычыны і фактары, ад якіх залежыць тып гаспадаркі і яго лёкалізацыя ў тым або іншым раёне. З гэтых умоў мы разгледзім толькі важнейныя і да таго-ж вельмі пабежна, бо гэтай тэме будзе ахьяравана ў далейшым некалькі асобных прац.

Разгледзім перад усім прыродныя ўмовы Беларусі. Вельмі цяжка было-б адмаўляць ім уплыву на ўтварэньне гаспадарчых форм, да таго ён відавочны, асабліва ў краёх поўнатуральнае гаспадаркі, якім зьяўляецца Беларусь. У гэтай справе досыць будзе толькі паўтарыць словы Плеханава: „чалавек з вакольнага прыроднага асяродзьдзя атрымоўвае матар'ял для ўтварэньня сабе штучных ворганаў, пры дапамозе якіх ён змагаецца з прыродай. Характар вакольнага прыроднага асяродзьдзя вызначае характар яго (чалавека) вытворчай дзейнасьці, характар яго сродкаў вытворчасьці. Але сродкі вытворчасьці таксама няўхільна вызначаюць узаемаадносіны людзей у процэсе вытворчасьці, як узброеньне арміі вызначае ўсю яе організацыю, усе ўзаемаадносіны людзей, з якіх яна складаецца“ [1]).

Даволі выразна выказваецца і такі знаўца організацыі сельскай гаспадаркі, як Т. Брынкман; ён лічыць, што „прыстасаваньне сельска-гаспадарчае вытворчасьці да прыродных уласьцівасьцяй глебы і клімату зьяўляецца самай характэрнай зьявай штандортызацыі сельскай гаспадаркі... пры параўнаньні сельска-гаспадарчых прадпрыемстваў буйных масываў гэты ўплыў засланяе ўсе іншыя“ [2]).

З паміж прыродных умоў найбольшае значэньне для нашае мэты маюць клімат і глебы. На жаль дагэтуль яшчэ належна ня вывучаны характар сувязі гэтых умоў з эканомічнымі асаблівасьцямі беларускага земляробства. Гэта тым больш важна, што, як кажа той-жа Брынкман, „такое агульназначымае функцыянальнае залежнасьці паміж ураджайнасьцю глебы і інтэнсыўнасьцю сельска-гаспадарчага прадпрыемства, як паміж інтэнсыўнасьню і выгоднасьцю рынавчнага палажэньня няма“. У кожным краі, а можа і ў кожным раёне можна спадзявацца своеасоблівых узаемаадносін паміж прыроднымі ўмовамі і формамі гаспадаркі. Пры сучасным стане нашых ведаў бывае лягчэй не паводле прыродных умоў рабіць вывады аб тыпе гаспадаркі якое-небудзь мясьціны ў Беларусі, а наадварот—паводле некаторых асаблівасьцяй гаспадарчага тыпу дамысьляцца аб прыродзе мясьціны, дзе ён лёкалі-

[1]) Г. Плеханов. Очерки по истории материализма.
[2]) Т. Брынкман. Сыстэмы земляробства.

заваны. Так, рэдкае насяленьне, значная лясістасьць, пашыранасьць грэчкі і бульбы сьведчыць нам аб пяшчаных глебах і г. д.

Паасобныя мясцовасьці Беларусі розьняцца найбольш паміж сабою якраз сваімі **глебамі**. Асаблівасьці апошніх дужа моцна адбіваюцца на тыпе сельскай гаспадаркі і нават на самай магчымасьці яе існаваньня. Так, сыпкія пяскі звычайна ў нас не выкарыстоўваюцца пад земляробства, бедныя пяшчаныя глебы мала выкарыстоўваюцца і пераважна знаходзяцца пад лесам, тады як больш зьвязныя глебы ў большасьці даўно ўжо расчышчаны з-пад лесу і на іх мы знаходзім больш ці менш густое земляробскае насяленьне. Найбольш прыцягваюць да сябе земляроба лёэсавыя суглінкі, якіх можна лічыць найбольш багатымі глебамі з паміж найбольш пашыраных у Беларусі глебавых адмен.

З гэтай прычыны набывае цікавасьці пытаньне аб тых прычынах, якія ляжаць у аснове разьмяшчэньня глеб. Тут іграе ролю разьмяшчэньне акрыцьцёвых парод, клімат, расьліннасьць. Карта глеб Беларусі ў большай сваёй часьці паўтарае карту акрыцьцёвых парод, разьмяшчэньне-ж апошніх трэба лічыць вынікам гісторыі ледавіковага часу і блізкіх да яго эпох. Паводле думкі акад. Я. М. Афанасьева, разьмяшчэньне акрыцьцёвых парод, якое адбылося ў той час пад уплывам флювіягляцыяльных патокаў, знаходзіцца ў цеснай сувязі з рэльефам. На ўзвышаных тэрасах адкладаліся больш тонкія матар'ялы (гліны, лёэсы), тады як больш грубыя матар'ялы адкладаліся на паніжаных тэрасах і дне патокаў.

Схэматычная глебавая карта (мал. 1) паказвае нам, што асноўныя масывы лёэсавых глеб залягаюць у сярэдняй Беларусі двумя вялікімі групамі: 1) паміж Воршаю, Магілевым і Мсьціславам і 2) паміж Менскам і Слуцкам. Наадварот уся паўднёвая Беларусь (Прыпяцкае Палесьсе) і шырокая паласа ўздоўж Бярозы ўяўляюць з сябе даволі аднастайную пяшчаную раўніну, рэдказаселеную і лясістую, перарываную дзе-ня-дзе астравамі лепшых глеб (Брагіншчына, Тураўшчына, Мазырскі востраў, Лошніцкі востраў ля Барысаву). На паўднёвым усходзе, з глебавага боку найгорш дасьледаваным мы знаходзім пярэстую мозаіку глеб пяшчаных, супяшчаных і суглiністых з перавагай усё-ж лёгкіх глеб. На поўначы—у вадазборы Дзьвіны наадварот пераважаюць морэнавыя супяскі і суглінкі.

Характар **клімату** на прасторах БССР зьмяняецца ня так рэзка, як глебавае акрыцьцё; у кожным разе апошняе ўжо адбівае сабою да пэўнай меры і кліматычныя ўмовы, якія перад усім выклікаюць большую ці меншую ступень ападзоленасьці глебавых адмен. Клімат Беларусі вывучаны мала. Апроч успамінаў у кліматычных аглядах больш шырокіх тэрыторый у апошнія гады выйшла некалькі спэцыяльных прац, ахвяраваных гэтаму пытаньню, і вялікі кліматычны атляс проф. А. І. Кайгарадава [1]). У апошнім пасьля падрабязнага разгляду элемэнтаў клімату даецца схэма кліматычных раёнаў, якіх вылучана на тэрыторыі БССР 6 з 11 падраёнамі. У падставу вылучэньня раёнаў паложаны даныя аб тэмпэратуры і ападках. Схэму гэтых раёнаў мы даем на карт. 2.

Для мэт экономічнага раёнаваньня асаблівае значэньне мае ня клімат сам па сабе, а клімат, як умова глебатворчага процэсу, як умова для жыцьця расьлін. З гэтага боку, аднак, кліматычныя ўплы-

[1]) А. І. Кайгарадаў. Кліматычны атляс Беларусі. 1928.


СХЭМАТЫЧНАЯ КАРТА
ГЛЕБАВЫХ РАЁНАЎ
БЕЛАРУСКАЙ С.С.Р.
(Паводле ак. Я.Афанасьева, П.Рагавога і інш.).
Маштаб.
40 20 0 40 80 в
ПОЛАЦАК
ВІЦЕБСК
ВОРША
МЕНСК
МАГІЛЕЎ
БАБРУЙСК
ГОМЕЛЬ
МАЗЫР
Умоўныя знакі:
Сярэдне і моцна ападзоленыя суглінкі
і супяскі на лёсах і лёсаватых пародах
Сярэдне і моцна ападзоленыя суглінкі
і супяскі
Пяскі маламакіднёвыя
або безмакіднёвыя.
Пяскі марэнныя.
Пяшчана-балотныя глебы.

Карт. 1.

вы ў Беларусі вельмі мала яшчэ прасочаны і мы толькі можам агулам адзначыць, што на поўначы Беларусі, асабліва ў вазёрным краі, ападзоленасьць глебаў, мусіць, найбольшая і што к паўдню яна робіцца крыху меншай. Я. М. Афанасьеў адзначае апроч таго і зьмену характару падзолавага процэсу пры пасуваньні з захаду на ўсход: палавыя




Карт. 2.

падзолістыя глебы пераходзяць у бялява-падзолістыя, менш багатыя на палутарныя тленьнікі. Як гэтыя якасьці глеб адбіваюцца на культурнай расьліннасьці, тым часам дакладна невядома.

Таксама трэба ўлічыць і непасрэдныя ўплывы клімату на жыцьцё сельска-гаспадарчых расьлін. Наколькі гэтыя ўплывы могуць розьніцца паміж сябе, паказвае ўжо сума тэмпэратур вэгетацыйнага пэрыоду вышэй 5°, якая складае для паўночнай Віцебшчыны 1350°, а для паўднёвага Палесься 1850°. Клімат паасобных частак Беларусі ставіць перашкоды для пашырэньня некаторых відаў расьлін. Так, на поўначы Беларусі мы не пабачым шэрагу дзікарослых дрэў, як прыкл. граб, а елкі амаль няма ў паўднёвым Палесьсі. На культурных расьлінах кліматычныя ўплывы ня так відавочны. Большасьць сельска-гаспадар-

чых расьлін пашырана ня толькі па ўсёй Беларусі, але і далёка на поўнач і паўдня за яе межамі. Некаторыя, аднак, расьліны, як проса, грэчка,—не пашыраны ў паўночнай Беларусі. На карт. 3 мы бачым, што ў вадазборы Дзьвіны грэчкі ўжо амаль ня сеюць (яе тут менш 0,2%). Такая-ж мяжа пашыранасьці проса ляжыць яшчэ больш на паўдня, па лініі Магілеў—Слуцак, і менш-больш супадае з лініяй сумы




Карт. 3. Межы пашырэньня елкі, грабу, проса і грэчкі (белыя лініі) і актыўныя сумы тэмпэратур вэгетацыйнага пэрыоду у градуса—днёх (чорныя лініі).

тэмпэратур 1600°. Прыблізна ад гэтай-жа мяжы на паўдня пачынаюцца моцна-грачаныя раёны; тады як на поўнач ад яе грэчка займае ня звыш 1—3%, на паўдня лічбы шмат большыя—звыш 15% у ўсходняй часьці рэспублікі і звыш 5% на захадзе.

Калі клімат ставіць выразныя перашкоды пашырэньню паасобных відаў культурных расьлін, дык відавочна яго ўплывы на вэгетацыю ўсіх іншых расьлін і асабліва іх паасобных адмен павінны быць значнымі. Гэтыя ўплывы пакуль што слаба вывучаны. Для характа-




Карт. 4. Лічбы у трыкутніках паказваюць максімальную аддаленасьць ад чыгуначных станцый.

рыстыкі кліматычных уплываў на культурную расьліннасьць нам пакуль што прыходзіцца карыстацца тымі самымі масавымі статыстычнымі данымі, якія не заўсёды бывае лёгка вытлумачыць.

З эканомічных умоў трэба перад усім адзначыць **уплывы рынкаў.** Беларусь мае 5 большых гарадоў (звыш. 50 тыс. насельнікаў) і густую сетку дробных гарадоў і мястэчак. Апошнія, зьяўляючыся самі часта поўземляробчымі паселішчамі, уплываюць на сельскую гаспадарку толькі бліжэйшае ваколіцы, радыус якое знаходзіцца ў пэўнай сувязі з велічынёй гарадзкога паселішча і ёмістасьцю яго рынку. Вялікія гарады ўтвараюць вакола сябе ўжо значныя зьмены ў тыпе сельскай гаспадаркі, якія пашыраюцца на дзесяткі вёрст. Асабліва моцна ўплыў гэты адчуваецца ў 20—25 кілёмэтравай зоне вакола гораду, бо ў гэтых граніцах адбываецца найбольш цесная сувязь з гарадзкім рынкам масы дробных гаспадароў, якія пры звычайных мясцовых умовах транспорту маюць магчымасьць за дзень справіцца зьезьдзіць у горад і вярнуцца назад.

Апроч гарадоў трэба ўлічыць яшчэ і значны ўплыў чыгунак, якія пераважна зьяўляюцца прадстаўнікамі больш далёкіх рынкаў. Хаця таварнасьць масавай сялянскай гаспадаркі нават у блізкасьці да чыгункі застаецца ўсё-ж вельмі нізкай, але блізкасьць чыгункі ўсё-ж служыць бясспрэчна імпульсам для разьвіцьця таварнае гаспадаркі. З гэтай прычыны мы ўмоўна будзем лічыць раёны, якія ляжаць ад чыгункі і ад гораду далей тых-жа 20—25 км., раёнамі з благім рыначным палажэньнем. Паводле гэтых меркаваньняў на карце 4 мы вылучылі наступныя раёны благога рыначнага палажэньня: 1) на вышнявінах Бярозы і далей на Лепель і Сянно[1]) спатыкаюцца адлегласьці да 100—110 км. ад чыгункі, 2) у паўночным Прыпяцкім Палесьсі (да 100 км.) і Случчыне, (50—70 км.) 3) у большай часьці паўднёвага Прыпяцкага і Дняпроўскага Палесься (да 90 км.), 4) па ўсім сярэднім Сажы (да 70 км.), 5) па сярэдняй Бярозе і Друці (да 60—70 км.), 6) у паўночна-ўсходняй Віцебшчыне (да 60 км.) і апроч таго шэраг драбнейшых раёнаў з максімальнымі адлегласьцямі ў 30—40 км., у розных частках Рэспублікі на поўначы і ўсходзе.

Трэба зазначыць, што мы ў даным выпадку прыймалі пад увагу толькі старыя чыгункі, бо вядома, што эволюцыя тыпу гаспадаркі пад уплывам праведзенай чыгункі ня можа адбывацца лішне хутка— трэба пэўны час, каб чыгуначная артэрыя ўвабрала ў сябе ўсе рыначныя струмені, якія дагэтуль накіроўваліся іншымі шляхамі і яшчэ больш часу, каб яна абудзіла новыя таварныя патокі. У далейшым разглядзе сельска-гаспадарчых раёнаў мы пабачым, што па гэтых плямах благога рыначнага палажэньня разьмяшчаюцца найбольш адсталыя і экстэнсыўныя раёны.

Масы сельскага насельніцтва разьмяшчаюцца звычайна ў адпаведнасьці з большай ці меншай спагаднасьцю для гаспадарчае дзейнасьці прыродных і эканомічных умоў паасобных раёнаў. Затым густое насяленьне мы знаходзім на добрых глебах, вакола гарадоў і чыгунак. Наадварот, рэдкае насяленьне мы знаходзім у глухіх і далёкіх раёнах з беднай глебай. Прыложаная карта дазваляе ў гэтым пераканацца. Але вядома, што **гушчыня насяленьня** ў сувязі з шляхамі зносін іграе ў разьвіцьці гаспадаркі ролю, якую Маркс раўняе

[1]) У апошнія гады тут пабудавана чыгунка Орша—Лепель, што моцна зьмяняе палаэжньне ў гэтым раёне.


КАРТА
РАЗЬМЯШЧЭНЬНЯ НАСЯЛЕНЬНЯ
НА ТЭРЫТОРЫІ
БССР
ТУШЧЫНЯ НАСЯЛЕНЬНЯ
АД 0 ДА 10 ЧАЛ НА 1 КВ. КЛМ.
„ 10 „ 20 „
„ 20 „ 30 „
„ 30 „ 40 „
„ 40 „ 50 „
„ 50 „ 60 „
ЗВЫШ 60 „

да аглёмэрацыі работнікаў у мануфактуры [1]),—яна дапамагае падзелу працы ў грамадзянстве і робіць магчымым разьвіцьцё інтэнсыўных форм гаспадаркі. Затым у характарыстыцы нашых раёнаў мы будзем прыцягваць і гэтую адзнаку [2]).

Найбольш значныя раёны густога насяленьня мы знаходзім уздоўж заходняй мяжы Рэспублікі ад Менску да Слуцку і на ўсход да Асіпавіч (Менска-Слуцкі раён), у паўднёва-ўсходняй Гомельшчыне, ува ўсёй Аршанскай акрузе і сумежных з ёю паўночных і ўсходніх частках Магілеўскай акругі, ля Віцебску і ў Лепельшчыне. Наадварот рэдкае насяленьне мы знаходзім у палескіх мясцовасьцях—у Прыпяцкім Палесьсі, па сярэдняму Пцічу, у Барысаўшчыне і Быхаўшчыне і ў некаторых драбнейшых раёнах паўночнай Беларусі.

Прыроднае асяродзьдзе ўплывае на разьвіцьцё вытворчых сіл, на вытворчыя адносіны і праз іх на соцыяльную структуру грамадзянства. Аднак, чалавек актыўна, а не пасыўна прыстасоўваецца да прыродных умоў, а „соцыяльныя адносіны, як толькі яны ўтварыліся, самі пачынаюць рабіць вялікі ўплыў на разьвіцьцё вытворчых сіл" [3]). З гэтага вынікае канечная патрэба разгляду гэтых адносін пры ўстанаўленьні тыпаў сельска-гаспадарчай вытворчасьці. **Соцыяльна-экономічныя асаблівасьці** паасобных раёнаў, якія ўтварыліся ў працягу гістарычнага процэсу, выяўляюцца ў Беларусі ў большым ці меншым пашырэньні капіталістычных адносін, у колькасьці накопленых сродкаў вытворчасьці, у разьмерах соцыяльнай і профэсыянальнай дыфэрэнцыяцыі. Вытлумачыць у кожным асобным выпадку сучасны стан соцыяльна-экономічных умоў у раёне—справа ня лёгкая; яна вымагае папярэдніх досьледаў соцыяльна-экономічнае гісторыі раёну, а гэткіх досьледаў у Беларусі амаль што не вялося ні па аднэй мясцовасьці. Для нас, аднак, важна ўжо ведаць сучасны стан соцыяльна-экономічных адносін, бо на фоне яго разгортваецца процэс спэцыялізацыі сялянскай гаспадаркі і ўтварэньня сельска-гаспадарчых раёнаў [4]).

Веснавыя роспыты ЦСУ даюць нам некаторы, хаця мо і не багаты матар'ял для меркаваньняў аб сучасным разьмяшчэньні капіталістычных элемэнтаў вёскі. Перад усім можам мы скарыстаць такі паказчык, як % гаспадарак з наёмнымі на тэрмін рабочымі (парабкамі). Картограма 6 паказвае, што найбольшую колькасьць такіх, у большасьці кулацкіх, гаспадарак мы знаходзім 1) ва ўсёй паўночнай Беларусі (Віцебская і Полацкая акругі), 2) ва ўсёй амаль Менскай акрузе, 3) у заходняй Случчыне і паасобных раёнах заходняга Палесься. Такім чынам можна думаць што уся поўнач і ўвесь захад Рэспублікі пайшлі найдалей у бок капіталістычнага разьвіцьця. Наадварот уся цэнтральная і паўднёва-ўсходняя Беларусь маюць мінімальныя колькасьці наёмных рабочых у сялянскіх гаспадарках. Прычыны меншага разьвіцьця наймовае працы тут трэба шукаць у гістарычных і экономічных умовах, у параўнаўча слабейшым разьвіцьці капіталістычных адносін.

У гэтай думцы падтрымліваюць нас і картограмы 6 і 7, якія паказваюць — першая пашыранасьць больш складаных і дарагіх машын

---

[1]) К. Маркс. Капитал. I. Стар. 266.

[2]) Больш падрабязна аб гэтай справе гл. маю работу: Разьмяшчэньне насельніцтва на тэрыторыі БССР. Матар'ялы да географіі і статыстыкі Беларусі, т. II.

[3]) Плеханаў. Асноўныя пытаньні марксызму.

[4]) Гл. напр. артыкул А. Либкинд. Социально-экономическая география крестьянского хозяйства. „На аграрном фронте". 1929, № 2.

(малатарні, арфы, сячкарні), а другая — забясьпечанасьць гаспадаркі ўсімі асноўнымі сродкамі вытворчасьці на 1 гэктар у рублёх. Апошняя картограма зложана намі на падставе спэцыяльнай распрацоўкі па гнёздах і соцыяльных групах бюджэтных матар'ялаў ЦСУ Бел. за 1925-26 г.; картограма пабудавана пры дапамозе інтэрполяцыі мэтодам




Карт. 6. Разьмяшчэньне гаспадарак з наймам парабкаў і з каштоўным інвэнтаром.

ізарытмаў і адносіцца да групы серадняцкага сялянства (з асноўным вытворчым капіталам ад 400 да 900 р. на 1 гасп.). Відавочна, аднак, што выяўленыя ёю раёны павышанай капіталазабясьпечанасьці серадняцкіх гаспадарак маюць наогул больш спагадныя ўмовы для капіталістычнага накапленьня кулацкае верхавіны вёскі.

Малая колькасьць бюджэтных гнёзд і невялікі лік узятых для апісаньня гаспадарак дазваляе лічыць гэтую картограму толькі грубай схэмай.

Абедзьве картограмы аднак добра адна адну дапаўняюць і ў асноўным адпавядаюць вышэйпаданай географіі наймовай працы. Раёнамі з найбольшай капітала-забясьпечанасьцю выглядаюць Меншчына і Случчына, Віцебшчына і Полаччына і часткаю Палесьсе. Некаторая супярэчнасьць паміж картограмамі 6 і 7 існуе толькі ў Полаччыне, дзе бюджэтным дасьледваньнем захоплены не заходнія эканомічна-разьвітыя раёны, а полупалескія раёны на поўнач ад Полацку. Відавочна, што тут трэба трымацца картограмы 6. З другога боку патрабуе тлумачэньняў Гомельшчына. Там, як ужо адзначалася, тэрміновая наймовая праца, паводле даных веснавога роспыту, пашырана нязначна; наадварот — пашыраны промыслы адходныя і мясцовыя. Бюджэтныя абсьледваньні знаходзяць, аднак, і тут наймовую працу, але, мусіць, іншыя формы (напр. у гаспадарках з адходнымі промысламі). Побач з тым мы знаходзім у Гомельшчыне павялічаную колькасьць арфаў і сячкарняў і асабліва значныя разьмеры валёрыстычнага паказчыка капіталазабясьпечанасьці. Каб пагодзіць усе выкарыстаныя намі крыніцы, трэба прыняць, што ў Гомельшчыне мы маем тып даволі інтэнсыўнай малазямельнай гаспадаркі, якая, дзякуючы сваім нязначным разьмерам, звычайна абыходзіцца бяз найму тэрміновых работнікаў і якая тым ня менш параўнаўча добра забясьпечана капіталамі, асабліва ў пераліку на адзінку плошчы. Сярод гэтых капіталаў найбольш відная роля належыць жывёле, якая, магчыма, задорага ацэнена. Магчыма, аднак, у гэтым выпадку і памылка статыстычнае крыніцы.




Карт. 7. Кошт асноўнага с.-г. капіталу ў серадняцкіх гаспадарках на 1дзес. ужыткоўнае плошчы пав. бюджэтных даных ЦСУ Бел. 1925-6 г.

Падобную характарыстыку можна было-б даць і Аршаншчыне, хаця там павышаная забясьпечанасьць сродкамі вытворчасьці пацьвярджаецца абедзьвюма крыніцамі.

Падагульняючы можам сказаць, што капіталістычныя элемэнты вёскі найбольш разьвіты на паўночных і заходніх узьмежжах Беларусі і што ў рэшце Беларусі капіталанабіраньне найбольш выяўлена ў Аршаншчыне і ў ваколіцах Гомлю, прычым у апошніх выпадках пытаньне менш выразнае; тут таксама можна спадзявацца і наяўнасьці некаторых менш акрэсьленых форм найму (здольшчына, адработак і г. д.).

Аб процэсах вылучэньня пролетарскіх слаёў вёскі мы ня маем простых паказчыкаў. Укосным паказчыкам можна лічыць колькасьць гаспадарак без рабочай жывёлы (карт. 8) і разьвіцьцё неземляробчых промыслаў. Найбольшыя проценты гаспадарак бяз рабочай жывёлы мы знаходзім на поўначы БССР — у Полаччыне, ў Віцебшчыне і ў некаторых сумежных адм. раёнах[1]) іншых акруг.

---

[1]) Каб ня блытаць у тэрмінолёгіі эканомічных раёнаў, якія мы будзем вылучаць, з адміністрацыйнымі адзінкамі, якія таксама носяць назву раёнаў, мы будзем, гаворачы аб апошніх, называць іх адміністрацыйнымі раёнамі, адм. раёнамі. Гэта ня зусім да-

З 9 адм. раёнаў Полаччыны 6 маюць больш як па 15% бясконных, па Віцебскай з 11—4. Апроч таго шмат бясконных бачым па некаторых раёнах Бабруйшчыны і Гомельшчыны. Наогул-жа за гэтымі невялікімі выняткамі ўся цэнтральная і паўднёва-ўсходняя Беларусь мае найменш гаспадарак без рабочай жывёлы. Вышэй мы бачылі тут-жа найменш гаспадарак з наймам. Гэта дазваляе думаць, што тут вёска найменш пасунулася ў бок соцыяльнай дыфэрэнцыяцыі і што тут можна спадзявацца наймацней выяўленых дакапіталістычных соцыяльна-экономічных адносін.




Карт. 8.

Географія **неземляробчых промыслаў** дае ў гэтую характарыстыку некаторыя новыя рыскі. Паўднёва-ўсходняя Беларусь (карт. 9) зьяўляецца адным з галоўных раёнаў разьвіцьця адходных промыслаў. З аграрнага крызісу, які нямінуча павінен быў разьвіцца ў гэтай адсталай і глухой, але густазаселенай краіне, масавая гаспадарка шукала выхаду ў адходных промыслах і ў эміграцыі ў Сібір. Уся ўсходняя палавіна Рэспублікі, за выключэньнем ваколіц Магілеву, мае значна разьвіты адыход на заробкі. На першых мейсцах стаяць тут адм. раёны паўднёва-ўсходняй Гомельшчыны Веткаўскі і Цераховскі і Калініншчына—галоўныя асяродкі выхаду ў Данбас, у вялікія гарады СССР і на паўдня. Таксама моцна разьвіты адыход і ў паўночнай краіне, у Віцебшчыне і Полаччыне. Тут на першым мейсцы вылучаецца Езярышчанскі адм. раён — найлепш зьвязаны чыгункай з Ленінградам. Але і ўся Полаччына за выключэньнем паўднёва-заходняга кута мае моцны адыход на заробкі. У Віцебшчыне і Аршаншчыне гэтая зьява ўжо слабейшая.

У паўднёва-заходняй палавіне Рэспублікі (б. Менская губ.) адыход на старану разьвіты слаба. Тут затое ў рэдказаселеных і лясістых прасторах па р. Бярозе і ў Прыпяцкім Палесьсі моцна выяўлены мясцовыя лясныя промыслы, якія з аднаго боку конкуруюць з земляробствам, адбіраючы ад яго частку рабочых рук, з другога даюць пэўныя зваротныя капіталы ў гаспадарку і пакрываюць, прынамсі, яе дэфіцыты.

Статыстыка неземляробчых заняткаў сельскага насяленьня ў Беларусі тым часам яшчэ не дазваляе нам з упэўненасьцю гаварыць

---

кладная назва, бо адм. раёны зьяўляюцца адначасна адзінкамі гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

аб раёнах гэтае вельмі важнае зьявы. Карыстаючыся тым часам лічбамі веснавых роспытаў ЦСУ, мы прыцягнулі да разгляду даныя Наркамфіну аб прыбытку ад неземляробчых промыслаў і зрабілі разьлікі прыбытку на 1 гаспадарку па раёнах. Хаця ў некаторых мясцох данныя НКФ і ЦСУ ня супалі, але асноўныя раёны як мясцовых, так і адходных промыслаў выявіліся на картограме даволі добра. З гэтых




Карт. 9. Неземляробчыя промыслы у 1927 годзе. Раёны адходных промыслаў адзначаны ромбамі і трыкутнікамі.

даных відаць, што асаблівую ролю мясцовыя заробкі іграюць у ўсім Прыпяцкім, Дняпроўскім і Бярэзінскім Палесьсі. Сярэдні прыбытак на 1 гаспадарку тут даходзіць да 74 руб. (Сьвіслацкі р.) і 83 р. (Тураўскі р.). Асабліва важнай павінна быць гэтая крыніца грашовых прыбыткаў у Бярэзінскім Палесьсі—ад Барысаву да Бабруйску, дзе рыначнасьць гаспадаркі, як далей убачым, нязначная і дзе промыслы зьяўляюцца найбольш значнай, калі не адзінай крыніцай грашовых паступленьняў. У Гомельшчыне, дзе моцна выяўлены як адходныя, так і мясцовыя заробкі, мы знаходзім максімальныя прыбыткі ад гэтае крыніцы — да 111 р. на гаспадарку (у Гомельскім р.). У гэты самы час у Менска-Слуцкім раёне ўсе неземляробчыя промыслы даюць

толькі 10—15 руб. на гаспадарку. Тут мы маем чыста земляробчы раён; падобнага-ж тыпу раёнам можна лічыць і паўночную частку Магілеўскае акругі. Тут вельмі слаба выяўлены як адходныя, так і мясцовыя неземляробчыя промыслы.

Вельмі важнае значэньне ў характарыстыцы масавай сельскай гаспадаркі павінна мець разьвіцьцё **соцыялістычнага сэктару ў** земляробстве. Значэньне гэтае падвойнае. З аднаго боку савецкія і колектыўныя гаспадаркі зьяўляюцца звычайна прадстаўнікамі буйной індустрыялізаванай гаспадаркі, якая моцна культурна і экономічна ўплывае на вакольныя сялянскія гаспадаркі і цягне іх за сабою ў бок рацыяналізацыі і абагуленьня вытворчасьці. З другога боку пашыранасьць колектыўнага земляробства сьведчыць аб большых або меншых соцыяльных зрушэньнях у масах адна асабовых гаспадарак, якія з кожным днём нарастаюць,ператвараючы дробнаўласьніцкі ўклад тавармае або поўнатуральнае сялянскае гаспадаркі у соцыялістычны. Большая або меншая пасьпяховасьць колектывізацыйнага руху залежыць і ад ініцыятывы мас і ад плянавае дзейнасьці дзяржавы, але таксама і ад характару соцыяльнага і экономічнага асяродзьдзя, у якім гэты рух адбываецца.




Карт. 10.

Картаграма, на якой паказаны адносіны абагуленай засеўнай плошчы калгасаў і аднаасабовых гаспадарак па асобных адміністрацыйных раёнах паводле веснавых дадзеных 1929 году [1]), паказвае, што лічбы па асобных раёнах хістаюцца даволі значна: ад 0,1—0,5% у Тураўскім, Старадароскім, Горацкім, Крычаўскім, Рэчыцкім, Церахоўскім і інш. адм. раёнах да 4-5% у Валынецкім, Талачынскім, Хоцімскім адм. раёнах—значыць у дзесяткі разоў. У паасобных выпадках тут іграла ролю нядбайнасьць мясцовых устаноў, (напр. у Тураўскім раёне), або наадварот якія-небудзь спэцыфічна спагадныя ўмовы ў іншых мясцох. Але трэба думаць, што ў асноўным усё-ж разьмяшчэньне паказчыку колектывізацыі будзе залежаць ня толькі ад суб'ектыўных, але і ад пэўных об'ектыўных умоў.

Асяродкі наймацнейшай колектывізацыі, як відно з картаграмы, пераважна выцягнуліся пасярод Рэспублікі ўздоўж Дняпра ад Жлобіну да Воршы даўгой паласой, якая адгэтуль заварачвае на паўночны

[1]) Абсьледваньнем у гэты час ахоплены колектыўныя гаспадаркі, якія ўжо пачалі працаваць і не зачэплены тыя, што знаходзяцца ў стадыі організацыі; з гэтай прычыны аб абсолютных разьмерах колектывізацыі ў сучаснасьці паданыя лічбы не даюць уяўленьня і могуць служыць нам толькі для параўнальна-географічнага ўжытку.

захад у Лепельшчыну і Дрысеншчыну. На паўдні гэта паласа ўразаецца ў Палесьсе ля Мозыру і Юравіч. Урэшце асобна стаіць даволі значны раён колектывізацыі ў Калінінշчыне. Найбольш адстае ў колектывізацыі паўднёва-заходняя частка Рэспублікі: уся Менская акруга, Бабруйская і Мазырская, апроч сваіх усходніх частак, і Гомельская акруга.

Устанавіць прычыны такога разьмяшчэньня можна толькі на падставе глыбокага соцыолёгічнага і географічнага аналізу. Мы зараз прымушаны абмежавацца толькі самымі пабежнымі параўнаньнямі. З усіх экономічных паказчыкаў найбольш падобнае разьмяшчэньне маюць гушчыня насяленьня і адходныя промыслы. З гэтага можна зрабіць вывад, што наймацней колектывізацыя пашыраецца ў густанаселеных і перанаселеных раёнах цэнтральнай Беларусі, якія маюць лішкі рабочай сілы і адпускаюць яе на старану—у адходныя промыслы. Магчыма, што ў гэтай справе адчуваецца і грамадзкі ўплыў рабочых-сэзоньнікаў, у якіх уласьніцкая сялянская псыхолёгія саступае месца пролетарскай сьвядомасьці. З другога боку нельга не адзначыць, што бадай ці ня ўсе раёны ўзмоцненай колектывізацыі маюць найслабей разьвітыя капіталістычныя элемэнты. Упартым супраціўленьнем кулацтва можна да пэўнай меры тлумачыць адставаньне колектывізацыі ў Меншчыне і наогул на захадзе, дзе заможныя групы сялянства наймацней выяўлены.




Карт. 11.

Цікава, аднак, што вышэйшыя формы колектываў—іменна сельска-гаспадарчыя комуны наймацней разьвіты якраз у Меншчыне, Дрысеншчыне, Магілеўска-Аршанскай краіне і вельмі слаба ў такіх тыповых раёнах перанасяленьня, як Лепельшчына. Відавочна, у гэтай зьяве адбіваецца як павышаная агульная культурнасьць пералічаных раёнаў, так яшчэ ў большай меры наяўнасьць у іх значнай колькасьці сельска-гаспадарчага пролетарыяту ў выніку разьвіцьця буйной капіталістычнай гаспадаркі ў дарэволюцыйную эпоху.

Гэтую думку пацьвярджае да пэўнай меры і географія савецкіх гаспадарак. Яны організоўваліся на месцы найлепшых буйных гаспадарак земляробчага тыпу, якія ў сваю чаргу павінны былі распалагацца ў найбольш інтэнсыўных земляробчых раёнах. Наадварот, у лясных экстэнсыўных раёнах, дзе такога роду гаспадарак было мала, а пераважалі лясныя лятыфундыі, якія пасьля рэволюцыі перайшлі непасрэдна ў лясны фонд, для організацыі савецкіх гаспадарак

ня было адразу неабходнай тэхнічнай і тэрыторыяльнай базы. У выніку мы і маем у сучаснасьці найбольш магутнае разьвіцьцё савецкіх гаспадарак у найбольш інтэнсыўнай земляробчай краіне Беларусі—Менска-Слуцкім раёне. З агульнай засеўнай плошчы саўгасаў Рэспублікі 41,6 тыс. га (1928) у Менскай акрузе было 18,7 тыс. га, значыць, бязмала палавіна, з 12 міл. руб. усіх сродкаў вытворчасьці на Менскую акругу прыходзілася 4,6 міл. у той самы час, як па тэрыторыі гэтая акруга складае толькі 17% тэрыторыі Рэспублікі. Далей за Менска-Слуцкім раёнам ідзе Аршанскі і Гомельскі. На апошніх мясцох стаяць Полацкая, Мазырская і Магілеўская акругі (гл. карт 12), дзе савецкіх гаспадарак у значнай частцы адм. раёнаў зусім няма.




Карт. 12.

Разглядаючы гэтае разьмяшчэньне буйных савецкіх гаспадарак па тэрыторыі, нельга не заўважыць і адваротнае зьявы—таго эканамічнага і культурнага ўплыву, які робіць буйная савецкая гаспадарка на масу разрозьненых сялянскіх гаспадарак. Відавочна, што ў справе ўтварэньня такіх найбольш інтэнсыўных раёнаў сельскай гаспадаркі, якім, як мы далей убачым, зьяўляецца Менска-Слуцкі, асабліва значная роля належала і належыць буйному земляробству.

Атрыманыя намі весткі аб географіі социяльна-эканомічных асаблівасьцяў паасобных частак Беларусі не даюць нам яшчэ поўнага ўяўленьня аб гэтай дужа важнай справе, яна патрабуе далейшай распрацоўкі. Аднак, гэтыя весткі будуць нялішнімі пры характарыстыцы нашых вытворчых раёнаў.

---

Вельмі цікава было-б вымераць адну з важнейшых умоў сельскагаспадарчае эволюцыі—культурнасьць насяленьня. Паколькі простых паказчыкаў для гэтай мэты няма, прыходзіцца абмежавацца ўкоснымі, як-та: граматнасьць насяленьня і пашыранасьць некаторых прогрэсыўных культур.

**Граматнасьць** насяленьня ўзята намі паводле перапісу 1926 году і яе разьмяшчэньне прадстаўлена на картограме 13. Пры першым-жа знаёмстве з гэтай картограмай кідаецца ў вочы супадзеньне раёнаў граматнасьці з раёнамі капіталазабясьпечанасьці, залюднёнасьці, з разьмяшчэньнем прыродных ляндшафтаў. Сувязь гэтых элемэнтаў мае законамернае тлумачэньне. Рэдказаселеныя раёны з беднай прыродай і слабай капіталазабясьпечанасьцю горш абслугоўваюцца школамі, бо

ўжо з прычыны рэдкай заселенасьці маюць радзейшую школьную сетку, і ў выніку меншую граматнасьць. Беднасьць гэтых раёнаў, будучы функцыяй неспагадных прыродных умоў, благога рыначнага палажэньня і нізкой ступені разьвіцьця вытворчых сіл у мінулым, менш спрыяе разьвіцьцю ініцыятывы насяленьня ў школьнай справе і яшчэ больш ўзмацняе неспагаднасьць умоў для разьвіцьця граматнасьці. З другога боку трэба мець на ўвазе і адваротны ўплыў граматнасьці на павышэньне кваліфікацыі працаўніка і праз гэта на разьвіцьцё гаспадаркі і на ўзмацненьне тэмпу капіталанакапленьня.




Карт. 13.

Прасторы з павышанай граматнасьцю мы знаходзім пераважна ў пяці галоўных плямах: а) Менска-Слуцкай, б) ля Віцебску, в) ля Гомлю, г) ля Воршы і д) на захад ад Полацку — у Дрысеншчыне. Менска-Слуцкая пляма, па разьмерах найбольшая, ахапляе сабою прасторы пашырэньня лёсаватых суглінкаў з поўначы ад Лагойску да Слуцку і Старобіну на паўдні. Віцебская і Аршанская плямы зьяўляюцца толькі найбольш выдатнымі часткамі абшырнага масыву павышанай граматнасьці, які цягнецца ўздоўж усяе паўночна-ўсходняе

мяжы Рэспублікі ад Езярышча да Крычаву, а на захадзе даходзіць да Магілеву і Талачына. Дрысенская пляма павышанай граматнасьці супадае сваімі граніцамі з граніцамі лёасаватых суглінкаў. У Гомельшчыне залежнасьць гэтая менш выразная. Характэрна, што прасторы павышанае граматнасьці выцягваюцца ад Гомеля і Рэчыцы на паўднёвы захад у тым-жа кірунку, як ідзе Хойніцка-Брагінскі востраў лёэсавых глеб (Брагіншчына).

Найбольш нізкую граматнасьць мы знаходзім ва ўмовах тыповага палескага ляндшафту. Прыпяцкае і Пцічанскае Палесьсе, апроч бліжэйшых ваколіц Мазыра, дый Бярэзінскае Палесьсе маюць моцна зьніжаную граматнасьць (у паасобных раёнах мы тут бачым толькі 21-22% граматнага насельніцтва). З вышнявін Бярозы паласа нізкой граматнасьці ідзе ў Лепельшчыну і ў палескія мясцовасьці ўсходняе Полаччыны. Некалькі зьніжаную граматнасьць мае і паўднёвая Калініншчына.




Карт. 14.

Мы затрымаліся даўжэй на разглядзе географіі граматнасьці, у якой даволі неспадзявана змаглі пабачыцьадбіцьцё тых-жа прычын, якія кіруюць утварэньнем экономічных ляндшафтаў. Праўда, паказчык гэты трэба лічыць найменш трывалым. Сыстэматычная барацьба з няпісьменнасьцю, якая праводзіцца ў Беларусі з часоў умацаваньня ў ёй Савецкае ўлады ўжо ў бліжэйшыя часы павінна моцна згладзіць гэтую адзнаку. Аднак, для характарыстыкі сучаснага культурнага стану розных раёнаў, як выніку іх экономічнай і культурнай гісторыі,—гэты паказчык прадстаўляе значную цікавасьць.

Пяройдзем цяпер да пытаньня аб географіі паказчыкаў сельскагаспадарчай культурнасьці.

Дакладных вымернікаў сельска-гаспадарчае культурнасьці мы ня маем; наагул па гэтым пытаньні што-небудзь пэўнае можна было-б сказаць толькі на падставе спэцыяльнага дасьледваньня. Мы спрабуем, аднак, даць хоць-бы самы прыблізны адказ на гэтае пытаньне на падставе аналізу пашыранасьці некаторых прогрэсыўных элемэнтаў гаспадаркі. Да такіх можна аднесьці травасеяньне (асабліва на зьвязных глебах), зялёнае ўгнаеньне (асабліва на лёгкіх глебах) і зернаачышчэньне, аб разьмерах якога мы можам меркаваць паводле пашыранасьці арфы ў сялянскай гаспадарцы. Картаграма 10 паказвае, што пералічаныя прогрэсыўныя элемэнты без параўнаньня мацней пашыраны ў паўночнай палавіне Рэспублікі (да лініі Мсьціслаў—Чэрвень—Узда), чым у паўднёвай. Аднак і ў паўночнай Беларусі моцна адстае раён верхняй Бярозы (уся былая Барысаўская

акруга). У паўднёвай палавіне вылучаецца Случчына з бясспрэчна культурнай гаспадаркай і сумежныя з ёй з усходу палескія раёны, дзе пашыраецца зялёнае ўгнаеньне; апроч таго па некаторых адзнаках вылучаецца некалькі раёнаў Гомельшчыны.

На жаль, мы ня маем адпаведных паказчыкаў культурнага стану жывёлагадоўлі, як, прыкл., цёплыя хлявы, палепшаныя вытворнікі, мэтыснае быдла і г. д.; трэба думаць, што яны моцна ня зьменяць атрыманага малюнку. Так, геаграфія сячкарняў, наяўнасьць якіх сьведчыць аб пэўным поступе ў галіне кармленьня жывёлы—у асноўным супадае з геаграфіяй арфы, за выключэньнем аднак заходняга Палесься (бязмала ўсяе Мазырскае акругі), дзе сячкарня моцна пашырана.

Падагульняючы сказанае, трэба лічыць найбольш адсталымі з боку сельскае-гаспадарчае культуры Барысаўшчыну і большую паўднёвую частку Магілеўскае акругі (Быхаўшчыну і Калінiншчыну). Бабруйшчына, Гомельшчына і часткаю можа Мазыршчына займаюць пераходнае палажэньне. Наперадзе ўсіх краін ідзе Меншчына. Вывады гэтыя, аднак, даволі ўмоўныя і могуць быць выкарыстаны толькі як пэўны дадатак пры разглядзе экономічных форм сельскай гаспадаркі, бо даволі цяжка на падставе тых статыстычных даных, якімі мы распалагаем, высьветліць, наколькі тая або іншая прогрэсыўная зьява ў гаспадарцы залежыць ад культурнага стану раёну і наколькі ад яго соцыяльнага ўкладу.

Апроч усіх пералічаных фактараў і ўмоў раёнаўтварэньня трэба заўсёды мець на ўвазе яшчэ адзін магутны экономічны фактар, якім зьяўляецца экономічная і соцыяльная політыка пролетарскай дзяржавы. Роля гэтага фактару ўзрастае з кожным годам, асабліва-ж у сувязі з шыбкім ростам соцыялістычнага сэктару народнай гаспадаркі. Дзейнасьць гэтага фактару, аднак, разьмешчана па тэрыторыі даволі роўнамерна. Пад яго ўплывам растуць вытворчыя сілы ўсіх раёнаў—і прогрэсыўных і адсталых, прычым апошніх, наогул кажучы, нават шыбчэй, але ўсёж суадносіны паміж раёнамі, іх параўнаўчая роля і кірунак спэцыялізацыі звычайна захоўваюцца. У паасобных выпадках і ў паасобных галінах можна бачыць прыклады разгортваньня новых кірункаў спэцыялізацыі пад уплывам плянавага кіраўніцтва дзяржавай. Так будаўніцтва бэконнага заводу ў Воршы выклікала да жыцьця рыначную сьвінагадоўлю на ўсёй Аршаншчыне. Колёсальны ўплыў на ваколічную сельскую гаспадарку рабіць пабудова буйных саўгасаў, браварных і крухмальных заводаў (напр., у Талачыне), іншых прамысловых прадпрыемстваў і асабліва чыгунак.

Могуць уплываць на характар сельска-гаспадарчага ляндшафту і такія чыста політычныя прычыны, як правядзеньне дзяржаўных граніц. Так, заходняя дзяржаўная мяжа, адрэзаўшы шэраг раёнаў БССР ад бліжэйшых чыгуначных станцый, з якімі гэтыя раёны былі ўвесь час зьвязаны (напр., Капыльскі з ст. Замір'ем, Бягомльскі—з Пархвенавам і г. д.), відавочна затрымлівае экономічнае разьвіцьцё гэтых раёнаў.

# ГЕОГРАФІЯ ТЫПАЎ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

## 1. Інтэнсыўнасьць.

Калі прыняць даволі пашыраную формуліроўку[1]), што тып сельскай гаспадаркі вызначаецца яго інтэнсыўнасьцю, суадносінамі галін, рынчнасьцю і рынчнай спэцыялізацыяй, дык трэба згадзіцца, што ўсе гэтыя адзнакі тым часам ня могуць быць намі вычарпальна асьветлены дзеля браку матар'ялаў. Так, адносна інтэнсыўнасьці, калі устанаўляць яе на падставе вылічэньняў вышыні агуловага прыбытку на адзінку плошчы (як гэта прапануюць Студзенскі і Котаў), дык мы зможам тым часам карыстацца толькі вылічэньнямі агуловай продукцыі ад сельскай гаспадаркі, якія мы правялі для спэцыяльнай працы па бюджэтных гнёздах ЦСУ і прадстаўляем на картаграме 15, пашыраючы коэфіцыены інтэнсыўнасьці на ўсю тэрыторыю шляхам інтэрполяцыі пры дапамозе ізарытмаў. Картаграма паказвае найбольшую вышыню інтэнсыўнасьці ў Менска-Слуцкім раёне, дзе агуловая продукцыя (1925-26 г.) падымаецца да 120—190 руб. на 1 дзес. Значную вышыню агуловае продукцыі знаходзім яшчэ ў Гомельска-Жлобінскай (125—140 р.) і Віцебска-Аршанскай пляме (110 — 135 р.). Наадварот, найменшую вышыню продукцыі бачым ў паўднёвым Палесьсі (70 — 80 руб.), Калінінщчыне (каля 70 р.), Полаччыне, паўночнай Віцебшчыне і Барысаўшчыне (60—70 р.). Выходзіць, што паказчыкі агуловай продукцыі сельскай гаспадаркі, а значыць і інтэнсыўнасьці, ў гаспадарках аднаго тыпу (узяты серадняцкія гаспадаркі з асноўным сельска-гаспадарчым капіталам ад 400 да 900 р.) у паасобных раёнах хістаюцца ня менш як у тры разы, а быць можа і больш, калі бюджэтнае абсьледваньне не ахапіла полюсных раёнаў. Само разьмяшчэньне плям інтэнсыўнасьці продукцыі адпавядае ўжо вядомым нам даным аб умовах сельска-гаспадарчай вытворчасьці, у прыватнасьці—разьмяшчэньню асноўных сродкаў вытворчасьці.



Карт. 15.

Апроч гэтага паказчыка, які дае больш-менш просты і колькасны адказ на пытаньне аб інтэнсыўнасьці тыпаў сельскай гаспадаркі, але,

[1]) Гл. напр. А. Котов. Размещение сельского хозяйства и промышленности. С.-г. раёнаваньне.

нажаль, дзякуючы невялікай колькасьці бюджэтных гнёздаў, уяўляе толькі грубы малюнак географіі інтэнсыўнасьці і не дазваляе вылучыць дробных раёнаў, — мы будзем у далейшым пры разглядзе паасобных галін карыстацца шэрагам больш укосных адзнак інтэнсыўнасьці, якія ўсё-ж пры асьцярожным да іх падыходзе могуць істотна дапоўніць нашую характарыстыку інтэнсыўнасьці паасобных раёнаў.

Тэй-жа крыніцай, што для азначэньня інтэнсыўнасьці мы будзем карыстацца і для высьвятленьня географіі рыначнасьці сялянскіх гаспадарак. У 1925-26 г., за які мы мелі распрацаваныя бюджэтныя матар'ялы ЦСУ, рыначнасьць серадняцкіх гаспадарак у БССР наогул была нявысокай: продажы складалі толькі 17% агуловае продукцыі гаспадаркі. Паасобныя раёны розьняцца між сабою з гэтага боку даволі моцна. Найбольшыя паказчыкі рыначнасьці мы бачым на паўдні і паўднёвым захадзе Рэспублікі, а таксама і на поўначы. Тут рыначнасьць продукцыі перавышае 20% і даходзіць у Прыпяцкім Палесьсі да 31% (што трэба аднесьці пераважна на рахунак продажу валоў і наогул быдла). Найменшую рыначнасьць знаходзім на ўсходзе—у Аршаншчыне і Калініншчыне і ў Барысаўшчыне. Тут яна хістаецца ад 9 да 15%. Аднаўленьне рыначнага льнярства, трэба думаць, павысіла рыначнасьць паўночнай і усходняй частак Рэспублікі; аднак-жа такія раёны як Барысаўшчына або Калініншчына наўрад ці зьмянілі сваю адносную характарыстыку па рыначнасьці.

Пераходзячы цяпер да разгляду найважнейшых у гэтай нашай працы адзнак тыпу сельскай гаспадаркі, як суадносіны галін і рыначная спэцыялізацыя гаспадаркі, мы сваю ўвагу зьвернем на асноўныя галіны гаспадаркі — ральніцтва, гадоўлю быдла і сьвінарства; іншыя галіны, пры ўсёй іх важнасьці ў паасобных раёнах, іграюць наогул у экономіцы Беларусі другараднае значэньне. Па магчымасьці, аднак, мы будзем гаварыць і аб іх і аб раёнах іх найбольшае концэнтрацыі.

## 2. Сыстэма ральніцтва.

Свой разгляд мы пачынаем з ральніцтва, якое ляжыць у падставе сельскае гаспадаркі па ўсіх раёнах і дае найбольшую частку агуловай продукцыі [1]). Згодна бюджэтаў ЦСУ за 1925-26 г. паасобныя галіны займалі наступнае месца ў агуловай продукцыі сельскае гаспадаркі ў сялян: ральніцтва — 48%, сенажатніцтва — 8%, садоўніцтва і гародніцтва — 3% і жывёлагадоўля — 41%. Тып ральніцтва мы разгледзім як з боку яго тэхнічнае вышыні і інтэнсыўнасьці, так і з боку спэцыялізацыі.

Аб інтэнсыўнасьці ральніцтва ў паасобных частках БССР можна сабе злажыць уяўленьне на падставе бюджэтных данных ЦСУ. Картаграма 16 дае грубую схэму разьмяшчэньня паказчыка інтэнсыўнасьці ральніцтва (агуловая продукцыя ральніцтва на 1 га. ральлі), вылічанага для бюджэтных гнёзд і пашыранага шляхам інтэрполяцыі на ўсю тэрыторыю. Падобных данных па ўсіх адміністрацыйных раёнах пакуль што яшчэ няма (у данным часе праводзяцца работы па вылічэнью агуловае продукцыі для ўсіх раёнаў БССР), зачым даво-

[1]) Паводле бюджэтных данных 1925-26 г. найменшае значэньне ў складзе агуловае продукцыі мае ральніцтва ў паўднёвым Палесьсі і іншых экстэнсыўных раёнах, але і там яно дае ня менш 40% агуловай продукцыі; продукцыя жывёлагадоўлі нават у гэтых раёнах мала перавышае продукцыю ральніцтва.

дзіцца скарыстаць натуралістычныя паказчыкі для ўкоснай характарыстыкі сыстэмы ральніцтва.

З гэтых паказчыкаў найбольшую цікавасьць прадстаўляе падзел ральлі, які даецца веснавымі роспытамі даволі дакладна—прынамсі лічбы яго з году ў год хістаюцца ў верагодных разьмерах. Падзел ральлі гаворыць нам аб пашыранасьці такіх характэрных для розных сыстэм ральніцтва спосабаў аднаўленьня ўраджайнасьці глебы, якімі зьяўляюцца папар і аблога. Праўда, магчыма, што не заўсёды мясцовыя статыстычныя органы добра сабе усьведамляюць розьніцу паміж гэтымі дзьвюма катэгорыямі, асабліва, калі мець на ўвазе пераходныя раёны з кароткатэрміновай аблогай. Тамака нярэдка ужываецца тэрмін „параніна“ ў сэнсе пэўнае сыстэмы апрацоўкі, якая ўжываецца часта пад ярыну, або хоць і пад жыта, але па аблозе, а мясцовыя работнікі нярэдка лічаць, што яны маюць дачыненьне з „трохпалёўкай“, разумеючы пад гэтым тэрмінам наогул усе адмоўныя рысы неорганізаванай сялянскай гаспадаркі.




Карт. 16.

Тым часам відаць ёсьць у Беларусі раёны, якія да гэтуль яшчэ бадай ня бачылі трохпалёўкі, а вядуць ральніцтва па абложна-пярэстапалёвай сыстэме. З гэтага боку асабліва цікава пашыранасьць аблогі (картаграма 17). У 1928 годзе яна была асабліва моцна пашырана ва ўсёй Мазырскай акрузе, у Камарынскім раёне Гомельскай акругі. Меншыя разьмеры яе мы знаходзім у некалькіх, параскіданых па Рэспубліцы адм. раёнах — Рэчыцкім, Брагінскім, Парыцкім, Краснапольскім, Плешчаніцкім. Падобнае разьмяшчэньне аблогі мы бачым і ў папярэднія гады, а толькі ў некаторых раёнах (напр. у Парыцкім) яна была яшчэ больш падкрэсьлена. У паасобных адм. раёнах аблога займае да 40 і звыш % ральлі, тады як папару тут паказана 0—2% і радзей да 7—9% ад ральлі, прычым магчыма, што і гэтыя колькасьці папару перавялічаны. Усё гэта сьведчыць, што ў Прыпяцкім Палесьсі ніякае папарнае сыстэмы ральніцтва няма. Як паказаў наш досьлед [1]) і работы А. Котава [2]), тут мы знаходзім аблажнае ральніцтва па ўсіх аддаленных ад сялібы палёх, а пры сялібе „на пагноях“ беспапарную пярэстапалёўку з інтэнсыўным гнаеньнем і штогодняй культурай.

[1]) Нарыс сыстэмы ральніцтва Мазырскага Палесься.
[2]) Система полеводства и севообороты Белоруссии.

Гэты вельмі характэрны тып ральніцтва, які мы будзем называць абложна-пярэстапалёвым, пашыраны пераважна ў Мазыршчыне. Некаторыя меркаваньні дазваляюць спадзявацца яго існаваньня ў межах Бабруйскага і Рэчыцкага Палесься. Аблога ў гэтых краінах паказана ў значна меншых разьмерах, папар быццам мае перавагу над ёю, але ўпэўнена сказаць, што тут мы скрозь маем дачыненьне з папарнай трохпалёўкай і з якой яе формай можна будзе толькі пасьля спэцыяльнага дасьледу.




Карт. 17.

Калі выключыць з разгляду аблежную краіну, дык усё-ж разьмяшчэньне папару будзе даволі няроўным (картаграма 18). Хаця тут мы ў масавай гаспадарцы маем наогул трохпалёўку, але гэтая сыстэма знаходзіцца ў розных стадыях свайго раскладу і перараджэньня. Аб гэтым ужо сьведчаць разьмеры папару ў параўнаньні з плошчаю ральлі. На захад ад Бярозы папар у большасьці выпадкаў займае ня больш 15% ральлі, значыць можна наогул лічыць, што тут ня менш палавіны папарнай зьмяны займаецца пад розныя культуры; сярод апошніх вельмі відную ролю грае лубін. Такім чынам Менска-Слуцкая краіна можа быць названа краінаю занятага і лубіновага папару.

У усходняй Беларусі чысты папар перахаваўся ў шмат большых разьмерах: тут ён у большасьці выпадкаў займае звыш 25%; калі прыняць пад увагу наяўнасьць прысядзібных засеваў, якія не ўваходзяць у севазварот, але далічваюцца да ральлі і засеўнае плошчы, зьніжаючы тым процант папару, дык трэба лічыць, што тут у палёвай гаспадарцы звычайна існуе даволі чыстая папарная трохпалёўка. Апроч таго, у паасобных мясцовасьцях тут можа быць пашырана беспапарная двохпалёўка, што таксама моцна зьніжае % незанятага папару да усяе ральлі.

Толькі ў трох месцах намячаецца як быццам скарачэньне папару: у невялікіх прасторах бліжэйшых ваколіц Віцебску і Полацку і амаль не па ўсёй Магілеўскай акрузе. Тут папару ад 20 да 25%.

Для нашых мэт, аднак, важна устанавіць ня толькі самы факт скарачэньня або перахаваньня папару, але таксама і прычыны, якія яго непасрэдна выклікаюць. Дзеля гэтага разгледзім, якая доля ральлі занята пад засевам і пад лубінам і якую ролю ў засеўнай плошчы іграюць найбольш характэрныя элемэнты з аднаго боку збажжавое сыстэмы, з другога травапольнае і пладазьменнае сыстэм.

У агульных рысах процант ральлі пад засевам адбівае ў сабе тыя-ж асаблівасьці тыпу ральніцтва, з якімі мы ўжо пазнаёміліся разглядаючы географію папару і аблогі. Менска-Слуцкі раён і сумежны з ім з усходу вадазбор сярэдняга Пціча маюць звыш 75% ральлі пад засевам. Далей на ўсход і паўдня, ў Бярэзінскім і Прыпяцкім Палесьсі, гэты процант зьніжаецца. Нізкі ён і ў Гомельшчыне (ніжэй 70%) і наогул ва ўсёй усходняй Беларусі за выключэньнем ваколіц Магілеву, Віцебску і Жлобіну.




Карт. 18.

Засевы **лубіну** (карт. 14) пашыраны скольні-небудзь значна толькі ў Менскай акрузе і заходняй частцы Бабруйскай. Культура гэтая ўБеларусі пашыралася з захаду, найбольшых разьмераў яна дасягае ў Койданаўскім раёне і па меры прасоўваньня на ўсход яна ступянёва счазае. У сучаснасьці пачаткі яе можна пабачыць ў Мазырскай і Магілеўскай акругах. Некаторае павялічэньне разьмераў лубінавай культуры (каля 0,1%) можна заўважыць яшчэ на ўсходзе Гомельшчыны, куды яна прышла барджэй усяго з боку Навазыбкава і яго сельска-гаспадарчай дасьледчай стацыі, якая гэтак шмат зрабіла ў справе популярызацыі лубіну.

**Травасеяньне** (мал. 19) ў паасобных раёнах Беларусі дасягае такіх лічбаў, якія ўжо могуць быць характэрнымі для пладазьмену. Так, у Віцебскім раёне ў 1928 годзе травы займалі 19,3%, у Высачанскім 17,7, у Лязьнянскім 16,8%, у Узьдзенскім раёне 16,7%, у сумежных з ім раёнах Меншчыны — 15,7, 15,2%. З другога боку усё Прыпяцкае Палесьсе мае сусім нязначныя плошчы пад травамі — звычайна менш 1%, а ў паасобных выпадках (Лельчыцкі раён) менш 0,1%. Гэтыя колёсальныя розьніцы трэба тлумачыць розьніцамі як у прыродных умовах, так, пэўне, і ў гістарычных асаблівасьцях; у кожным разе яны знаходзяцца ў непасрэднай сувязі з тыпам гаспадаркі і дапамагаюць разабрацца ў яго модыфікацыях. Сапраўды, у вялікіх вёсках засеў канюшыны нярэдка азначае сабою скасаваньне трохпалёўкі і пераход да шматпалёўкі. З гэтага погляду цікава асобна разгледзіць географію аднагадовых траў і асобна канюшыны.

Шматгадовыя травы найбольш пашыраны ў паўночна-ўсходнім куце Рэспублікі—у ваколіцах Віцебску і Воршы і наогул на поўнач ад Дзьвіны. У гэтай-жа краіне моцна пашыраны і аднагадовыя травы—галоўным чынам віка. Шэраг прычын высоўваюць Віцебшчыну на першае месца ў Беларусі з боку травасеяньня. Цяжкія глебы і вільготны

клімат робяць культуру зімовага збожжа і бульбы менш пэўнымі, чым у рэшце Беларусі і адначасна вельмі спрыяюць росту кармовых траў. У гэтым-жа кірунку ўплывае пашыраная тут культура лёну і ўрэшце характар землекарыстаньня — адсутнасьць буйных вёсак, якія да часоў социялістычнага землеўпарадкаваньня наймацней перахоўвалі традыцыі трохпалёўкі.

Другім асяродкам пашырэньня травасеяньня зьяўляецца Менска-Слуцкі раён. Тут таксама значныя плошчы заняты канюшынаю (найбольш у Самахвалаўскім раёне — 8,7%), але ня менш моцна прадстаўлены аднагадовыя травы, сярод якіх віднае месца належыць сарадэлі. Кліматычныя і глебавыя умовы тут наогул больш спагадныя для культуры збожжа і бульбы і гэтыя культуры разьвіты тут наогул мацней чым у Віцебшчыне. Льнярства за тое ў Менска-Слуцкім раёне носіць амаль выключна натуральны характар і грае вельмі малую ролю ў гаспадарцы. Паўночная частка краіны дрэнна забясьпечана сенажацямі, што да пэўнай меры прымушае разьвіваць травасеяньне, але на паўдні, у Случчыне сенажацяў шмат. Наогул травасеяньне ў Менска-Слуцкай краіне, трэба думаць, зьвязана з павышанымі вымаганьнямі да кармовых рэсурсаў, якія ставіць інтэнсыўная жывёлагадоўля. І калі ў Віцебшчыне, ня гледзячы на значныя разьмеры травасеяньня, амаль не заўважаецца скарачэньня папару, што сьведчыць наогул аб захаванасьці некаторых экстэнсыўных перажыткаў, дык у Менска-Слуцкай краіне разьвіцьцё травасеяньня, як і разьвіцьцё лубінавай культуры, ідзе за кошт скарачэньня чыстага папару.




Карт. 19.

Да гэтага дадамо, што ў Менска-Слуцкай краіне культура бульбы значна мацней пашырана, чым ў Віцебшчыне. Так, у самым падгародні Віцебскім раёне на 1 гасп. прыходзіцца толькі 0,32 дзес. засеву бульбы, тады як у бліжэйшых да Менску раёнах бульбы сеюць

па 0,6—0,8 дзес. на 1 гаспадарку ў сярэднім па раёне. У Віцебшчыне праўда мацней пашыраецца культура кармовых караньплодаў, але яна нідзе яшчэ не дасягнула значнейшых разьмераў.

Падагульняючы сказанае, можна адзначыць, што сыстэму ральніцтва ўсей БССР апроч Палесься можна лічыць палепшанай збожжавай трохпалёўкай ў розных аднак ступенях зьмененай. Менска-Слуцкая краіна паводле арганізацыі свайго ральніцтва ўжо набліжаецца да інтэнсыўнага пладазьмену, а Віцебшчына (раён ваколіц Віцебску) ідзе сярэднім шляхам паміж пладазьменам і льняным траваапольлем, захоўваючы разам з тым вялікія абшары незанятага папару.

Асобна трэба сказаць некалькі слоў аб паўночнай Магілеўшчыне, дакладней аб Магілеўска-Мсьціслаўскай краіне. Паводле сваіх прыродных асаблівасьцяй яна мае шмат супольнага з Менска-Слуцкай краінай, але значна адстае ад апошняе дзякуючы менш выгоднаму геаграфічнаму палажэньню. Гэта адбіваецца і на тыпе ральніцтва. Хаця наогул тут мы бачым павялічаны процант ральлі пад засевам, але скарачэньня чыстага папару амаль што нязначна. Калі прагледзіць па тых-жа данных веснавога роспыту 1927 г. разьмеры засеваў у п а п а р н а й з ь м я н е, якіх вельмі многа можна знайсьці ў Менска-Слуцкай краіне, дык тут такіх простых паказаньняў аб заняцьці папару вельмі мала. І калі ўсё-ж плошча засеву ў параўнаньні з плошчай папару значна перавышае разьмеры, якія адпавядаюць трохпалёўцы, дык гэта мабыць трэба прыпісаць або разьвіцьцю прысялібных беспапарных севазваротаў (г. зв. а д с е в а ў), якія ў трохпалёвае зьменаваньне не ўваходзяць, або пашырэньню беспапарнае двохпалёўкі [1]). Канюшыны тут сеюць ня дужа многа (2—4%), за тое бывае шмат аднагадовых траў, а ўласьне вікі, прычым у адным з раёнаў — Мсьціслаўскім колькасьць яе засеву даходзіць да максымальнай па Рэспубліцы лічбы — 10,1%. Ральніцтва Магілеўшчыны відаць ідзе ў тым-жа кірунку, што і Меншчыны, але з пэўным адставаньнем.

Некаторае узмацьненьне травасеяньня можна яшчэ пабачыць у Гомельшчыне, дзе аднагадовыя травы даходзяць часамі да 4%, канюшыны-ж—нязначныя колькасьці. Гомельшчына па сваіх прыродных умовах крыху набліжаецца да Палесься, маючы ў той-жа час шмат больш спагадныя рыначныя ўмовы. Гэта дазваляе шляхам аналёгіі рабіць пэўныя меркаваньні аб кірунку разьвіцьця ральніцтва ў сумежных палескіх раёнах пры ўмовах палепшаньня ў іх шляхоў зносін і рыначнага палажэньня.

Найменш разьвіта травасеяньне а) у абложнай краіне Прыпяцкага Палесься, б) у паўднёвай Магілеўшчыне і в) ва ўсёй Барысаўшчыне і сумежных з ёй паўднёвых раёнах Віцебскай акругі. Апошнія дзьве краіны маюць да таго-ж слаба скарочаную плошчу папару, што дазваляе лічыць іх прадстаўнікамі найпаўней перахаванае трохпалёўкі.

Параўнаўчы разгляд картаграм усіх успомненых прызнакаў сыстэмы ральніцтва дазваляе нам вылучыць на прасторах БССР раёны сыстэм ральніцтва, паданыя на картаграме 20. I. *Пладазьменныя* (засеў займае больш 75 % ральлі, папар скарочаны, значнае травасеяньне, звычайна звыш 10%)—а) М е н с к а - С л у ц к і (папару менш 20%) і б) В і ц е б с к і (папару да—22%). II. *Раёны занятага папару* (пад незанятым папарам менш 20% ральлі, але травасеяньне слабаразьвітае — травы займаюць

---

[1]) Аб двохпалёўцы у гэтай краіне успамінае А. В. О з е р о в у кнізе „Белорусский скот". 1928 г. Стр. 82.

менш 5% засеўнае плошчы)—а) Глускі раён, б) Барысаўскі раён. III. *Папарныя раёны з травасеяньнем* (чыстага папару больш 20%, кармовых траў больш 5%—а) Полацка-Гарадоцкі раён, б) Варшанскі і в) Магілеўскі. Апошні займае пераходнае палажэньне, набліжаючыся да больш інтэнсыўнага I тыпу: разьмеры незасеенага папару мала перавышаюць 20% ральлі тады як палавіна адм. раёнаў




Карт. 20.

пад засеўнай плошчай мае больш 75% ад плошчы ральлі. IV. Папарныя раёны з слабым травасеяньнем. За нямногімі выключэньнямі чысты папар займае 20—25% ральлі, а кармовых траў менш 5%. Сюды належаць раёны—а) Халопеніцкі, б) увесь паўднёвы ўсход Рэспублікі—Гомельска-Бабруйска-Крычаўскі раён. V. *Абложна-пярэстапалёвы* Мазырскі раён.

### 3. Кірунак спецыялізацыі ральніцтва.

Апроч сыстэмы ральніцтва для нас, як ужо раней гаворана, мае важнае значэньне кірунак спэцыялізацыі ральніцтва, аб якім мы можам даведацца, разглядаючы галоўныя рыначныя галіны і культуры.




Карт. 21. Пераважныя сельскагаспадарчыя продукты чыстага вывазу (паводле М. Азбукіна).

Лічбы чыгуначных перавозак як за апошнія гады, так і за перадваенны час згодна з усімі іншымі паказчыкамі адносна таварнасьці беларускае сельскае гаспадаркі і данымі дынамікі гаспадаркі паказваюць, што асноўнымі таварнымі культурамі ў нас зьяўляюцца лён і бульба. Мясцамі наглядаецца і вываз збожжа, асабліва калі разглядаць лічбы, якія адносяцца да першых гадоў НЭП'у, часу продналогу і нятрывалай валюты. Але ўжо вельмі хутка па меры адбудовы гаспадарчага жыцьця збажжавая продукцыя ізноў, як і перад вайною, скарачаецца да разьмераў натуральных патрэб земляробчага насяленьня і часткаю — патрэб невялікіх гарадзкіх асяродкаў у найбольш ураджайных частках Рэспублікі. Прымаючы ўсё гэта пад увагу, аб спэцыялізацыі гаспадаркі таго або іншага раёну Беларусі ў кірунку збажжавое культуры гаварыць цяжка.

Каб не ўскладняць працы мы затрымаемся на важнейшых культурах, у напрамку якіх спэцыялізуецца сельская гаспадарка Беларусі і разгледзім, у якіх іменна частках тэрыторыі гэтыя культуры наймацней прадстаўлены, і асабліва, у якіх яны даюць найбольшую таварную масу. Мы затрымаемся перад усім на культурах бульбы, лёну і канапель.

Першую і вельмі ўдалую характарыстыку з гэтага боку паасобных частак Беларусі мы можам злажыць сабе на падставе праведзенай спэцыяльна для нашага раёнаваньня працы М. В. Азбукіна па геаграфіі чыгуначных перавозак. Усе сельска-гаспадарчыя продукты, якія фігуруюць у вывазе паасобных станцый за 1913 і 1926-7 г., ацэнены па адпаведных цэнах і аднесены да тэрыторыі, *якая цяжыць да кожнай з станцый*. Такім чынам прасторы Рэспублікі разьдзелены на значную колькасьць раёнаў паасобных чыгуначных станцый, дзівосныя граніцы якіх маюць, аднак, пад сабою рэальны грунт—сувязь з пэўнай чыгуначнай станцыяй. Відавочна, што гэта дае права нам усе лічбы, якія адносяцца да вывазу і прывозу станцыі, пашыраць на ўвесь яе раён. У супастаўленьні з іншымі крыніцамі гэты матар'ял дазваляе высьветліць сапраўдную лёкалізацыю рыначных галін гаспадаркі.

З багатых матар'ялаў азначанага досьледу мы тымчасам скарыстаем адну картаграму, якую і падаем у зьменшаным выглядзе (карт. 21). Яна паказвае, які з сельска-гаспадарчых продуктаў займае першае месца ў гэтым вывазе кожнае станцыі. Для магчымасьці параўнаньня ўсе продукты расцэнены па сярэдніх рэспубліканскіх цэнах адпаведнага году.

Хаця лішне рэдкая ў некаторых частках БССР чыгуначная сетка зацямняе і залішне схэматызуе малюнак картаграмы, усе-ж мы па сутнасьці атрымоўваем даволі добрае ўяўленьне аб разьмяшчэньні паасобных рэзка спэцыялізаваных раёнаў. Так, зусім добра выяўляюцца раёны валакняных культур; крыху горш — раёны бульбы, бо тут для поўнага малюнку не стае вывазу сьпірту і крухмалу, дый наогул культура гэтая ня мае такое рэзкае рыначнасьці, як валакняная. Збожжа, хаця і пераважала ў вывазе некаторых станцый яшчэ ў 1926-27 г., але відавочна, што гэта—раёны не ўзрастаючае, а спадаючае збажжавое культуры.

Пяройдзем цяпер да разгляду іншых дадзеных аб цікавых для нас культурах, прычым пачнем якраз з валакняных, дзе мы можам спадзявацца атрымаць найбольш пэўныя вынікі.

## 4. Валакняная спэцыялізацыя

Географія льнянай культуры як у наш час, так і перад вайною дае даволі падобны малюнак. Раёны таварнага лёну, наогул кажучы, ляжаць на ўсход ад Бярозы і Дняпра, тады як на захадзе Рэпублікі лён мае выключна натуральнае значэньне. Гэта адносіцца прынамсі да льнянага валакна, якое іграе сапраўды буйную ролю ў беларускім вывазе. Што-ж да льнянага і наогул алейнага семя, дык яно іграе ў гаспадарцы значна меншую ролю і яго таварныя лішкі мы можам знайсьці хоць і ў меншых разьмерах бадай ці не па ўсёй Беларусі. Але тут яго можна лічыць барджэй што пабочным продуктам, тады як асноўны продукт—валакно спажываецца тут самой гаспадаркай і ад патрэб апошняе залежаць самыя разьмеры льнянай культуры. На ўсходзе, зразумела, і таварныя лішкі семя будуць значна большыя (гл. табл. у канцы кнігі).

У падставу раёнаваньня мы кладзем таварнае валакно. Аб раёнах яго лішкаў нам гавораць ужо лічбы чыгуначных перавозак. Для удакладненьня граніц станцыйных раёнаў, якія могуць быць дзякуючы рэдкай сетцы чыгунак не заўсёды дакладнымі, возьмем данныя веснавога роспыту аб удзеле лёну ў засеўнай плошчы і аб разьмерах засеву лёну, якія прыходзяцца на 1 гаспадарку. Апошняя адзнака для нас асабліва важная. Параўнаўшы географію яе з даннымі чыгуначных перавозак, мы схіляемся да таго вываду, што ў раёнах натуральнага льнярства прыблізна прыпадае на гаспадарку менш 0,15 дзес. лёну Наадварот, вылучыўшы ўсе раёны, дзе на гаспадарку прыпадае больш 0,15 дзес., мы атрымоўваем даволі згодную з іншымі дадзенымі карту льняных раёнаў. Калі мы картаграфуем процант лёну ў засеўнай плошчы, дык тут малюнак будзе менш выразны, што і зразумела; для натуральнае гаспадаркі важна іменна пэўная колькасьць продукцыі і адпаведная пэўная плошча пад лёнам, а ня той ці іншы яе процант у засеве. Аднак і тут раёны бясспрэчна натуральнага льнярства маюць менш 4% лёну. У тых раёнах, якія маюць лёну вышэй гэтае лічбы, мы бачым звычайна выразнае таварнае льнярства; калі-ж лічбы перавозак не паказваюць таварнага льнярства, дык мы павінны ўсё-ж шукаць тых ці іншых прычын павышаных разьмераў гэтае культуры. Толькі для некаторых раёнаў мы можам растлумачыць у такіх выпадках пашыраныя разьмеры льнярства павялічанымі патрэбамі натуральнае гаспадаркі. Магчыма гэта сказаць напр., адносна некаторых раёнаў усходняга Палесься з разьвітым дамовым ткацтвам. У пераважнай-жа большасьці выпадкаў лічбы веснавога роспыту даюць саўсім дакладнае ўяўленьне аб раёнах таварнага льнярства.

Што гэта так, мы можам пераканацца, разглядаючы яшчэ адну крыніцу, верагоднасьць якое трэба лічыць высокай, — данныя аб контрактацыі і аб загатоўках лёну ў паасобных раёнах. Асаблівае значэньне маюць даныя аб контрактацыі лёну. Яны грунтуюцца на документальных матар'ялах адносна кожнай закантрактаванай гаспадаркі і атрыманы намі ў выглядзе дакладных падсумаваньняў па тэрыторыях паасобных адміністрацыйных раёнаў. Апроч таго, нам даводзілася ня раз карыстацца гэтымі данымі для іншых мэт у саўсім сырым відзе. Для пэўных абмежаваных тэрыторый мы высьвятлялі разьмяшчэньне контрактацыі лёну па асобных вёсках і ў выніку атрымоўвалі саўсім дакладную географію дробных гнёзд таварнага льнярства. Відавочна, што і раённыя падсумаваньні, якімі мы карыстаемся ў гэтай працы,

дадуць нам добрую географію асноўных гнёзд таварнага льнярства па Рэспубліцы.

Данныя аб загатоўках маюць менш агульны характар. Загатоўкі праводзяцца некалькімі організацыямі. Лічбаў па ўсіх організацыях мы дастаць не маглі. Да таго-ж лічбы гэтыя ў лепшым выпадку адносяцца не да дробных раёнаў загатоўкі, а да загатовачных пунктаў, якія сьцягваюць да сабе тавар нярэдка з значнай адлегласьці. Так мне самому даводзілася спаткацца з фактам таго, што лён паўднёва-ўсходняй часткі Лязьнянскага раёну ідзе на загатовачныя пункты ў Смаленшчыну — у Любавічы і Рудню; дробная розьніца цэн прымушае селяніна везьці свой тавар на значныя адлегласьці і здаваць яго далёка ад бліжэйшага загатовачнага пункту.

Данным аб контрактацыі можна зрабіць два закіды. Першы гэта той, што імі фактычна рэгіструюцца не стыхійныя зьявы масавае гаспадаркі, якія і падлягаюць нашаму вывучэньню, а пэўны від дзейнасьці дзяржаўных і коопэрацыйных органаў, накіраванай плянавымі меркаваньнямі. Другі закід — што не заўсёды контрактацыя цалкам выконваецца, асабліва, калі павялічэньне контрактацыі выклікана якімі-небудзь незвычайнымі умовамі — неабходнасьцю атрымаць крэдыт грашыма і насеньнем з прычыны неураджаю папярэдняга году ці якіх іншых выпадковых гаспадарчых патрэб.

Апошнія закіды часамі маюць пад сабою грунт і ў паасобных выпадках могуць крыху сказіць нашыя колькасныя ўяўленьні аб разьмяшчэньні таварнага льнярства. Што-ж да першага закіду, дык яго трэба адхіліць. Пляновая дзейнасьць дзяржавы і коопэрацыі ў данным выпадку выяўляе ўсе магчымыя таварныя лішкі лёну, да пэўнай меры форсіруе процэсы іх утварэньня, але тым часам не ставіла сабе задачай утварэньня льняных раёнаў, там дзе няма для гэтага належных прыродных і экономічных умоў. Яшчэ меншае значэньне тут могуць мець мясцовыя асаблівасьці дзяржаўнага і коопэрацыйнага апарату. Разглядаючы картаграму контрактацыі мы, праўда, можам пабачыць пэўную колькасьць законтрактаваных гэктараў у тыповых раёнах натуральнага льнярства. Магчыма, што мы тут бачым вынікі імкненьня мясцовага апарату абавязкова выканаць заданьні аб контрактацыі. Аднак, лічбы гэтыя застаюцца так непараўнальна меншымі ў параўнаньні з лічбамі контрактацыі сапраўды льняных раёнаў, што ня могуць ані трохі зьмяніць малюнку супраўднага разьмяшчэньня таварнага лёну. Наадварот, тыя рысы льняных раёнаў, якія выяўляліся намі пры дапамозе даных веснавога роспыту і чыгуначных перавозак, ня толькі пацьвердзіліся але сталі дзякуючы данным аб контрактацыі значна больш рэльефнымі, што і дазваляе даць на падставе ўсіх гэтых матарыялаў аб'яднаную картаграму льняных раёнаў.

У выніку сказанага аб льнянай спэцыялізацыі можам вылучыць перад усім моцна-льняныя раёны, у якіх таварнае льнярства выяўлена саўсім выразна і ў данных аб плошчах засеву ($>$4,5% лёну ў засеве або $>$0,15 дзес. на 1 гасп.), і ў данных аб контрактацыі, і аб чыгуначных перавозках. Такімі раёнамі можна лічыць а) Д р ы с е н с к і (4 адм. раёны), б) Шклоўска-Ляднянскі, в) Віцебскі. Апошні раён уласьціва трэба назваць Гарадоцкім, бо ў бліжэйшых ваколіцках Віцебску (Віцебскі і Высачанскі адм. раёны) лён у засеве займае нязначнае месца — амаль таксама, як у раёнах натуральнага льнярства. Моцна зьніжаецца тут і контрактацыя льнянага валакна, а значныя загатоўкі

такіх пунктаў як Віцебск відавочна адносяцца да больш далёкіх ад гораду мясцовасьцей, якія ўжо не ўваходзяць у ўспомненыя намі падвіцебскія адм. раёны. Растлумачыць гэтую зьяву можна ўплывам блізкага і моцнага рынку, дзякуючы якому лён з транспартабельнымі прадуктамі яго перапрацоўкі выцесьняецца спэцыфічнымі падгароднімі культурамі — бульбай і травамі, якія часткаю маюць самастойнае ры-




Карт. 22.

начнае значэньне, а перад усім служаць кармовай базай для інтэнсыўнай малочнай жывёлагадоўлі.

Калі адносна ваколіц Віцебску гэтае выгасаньне лёну лёгка даецца вытлумачыць, дык цяжэй гэта зрабіць адносна ваколіц такога параўнаўча невялікага гарадзкога цэнтру як Полацак або Ворша. Аднак, тут мы знаходзім раёны са зьніжаным льнярствам, абкружаныя амаль не з усіх бакоў выразна льнянымі раёнамі. Адносна Полацку яшчэ можна заўважыць, што ваколіцы гэтага гораду маюць пераважна пяшчаную глебу, якая не спагадае разьвіцьцю льнянай культуры. Аднак і на захад і паўдня ад Полацку на суглінiстых глебах Ветрынска-

га і Вушацкага адм. раёнаў таварнага лёну вельмі мала; за тое тут разьвіваецца травасеяньне. Значныя загатоўкі самога Полацку тлумачацца падвозам валакна здалёку.

Яшчэ цяжэй вытлумачыць заніканьне лёну ў ваколіцах Воршы і Талачына. Тым часам як на захад ад Воршы мы спатыкаем лёэсавыя і лёэсаватыя суглінкі, глебы як быццам цалкам адпаведныя вымогам льнянай культуры, аднак і тут лён выцясьняецца іншымі культурамі—перад усімі бульбай і травамі. Прыходзіцца лічыць, што абодва гэтыя раёны разьвіваюцца па тым-жа прыблізна кірунку, як і Менска-Слуцкая пладазьменная гаспадарка, хаця і маюць у сучаснасьці моцна-папарнае ральніцтва. Віцебскі-ж раён барджэй усяго ўжо пераждыў льняны кірунак і перайшоў да больш інтэнсыўных форм гаспадаркі. Шклоўска-Ляднянскі раён па меры прасоўваньня на паўдня к Магілеву і Чавусам таксама робіцца значна менш льняным. Тут, аднак, іграюць ролю больш лёгкія глебы, якія палягчаюць канкурэнцыю бульбе.

Апроч пералічаных вышэй буйных льняных раёнаў можна заўважыць яшчэ некалькі другарадных раёнаў з менш выразным льняным кірункам. Так на захад ад Аршанскага раёну, у Халопеніцка-Чарэйскім раёне мы бачым як павялічаныя разьмеры льняных засеваў, так і значную контрактацыю льнянага валакна і некаторы вываз праз адзіную чыгуначную станцыю раёну Крупкі. Трэба думаць, што значная частка льнянага валакна вывозіцца праз станцыі суседніх раёнаў (напр. праз Талачын, Барысаў).

Тады як усе папярэднія льняныя раёны разьвіваліся ў умовах хаця і папарнага ральніцтва, але пры даволі значным травасеяньні Халопеніцкі льняны раён адзначаецца нямаль поўнай адсутнасьцю травасеяньня і наогул захаванасьцю чыстай папарнай трохпалёўкі. Якія ўмовы спрыялі разьвіццю тут льнярства-сказаць тымчасам цяжка, бо гэты раён належыць да найменш вывучаных з боку свае прыроды і гаспадаркі.

Другі экстэнсыўны льняны раён ляжыць на ўсходзе Магілеўскай акругі. Сучасныя статыстычныя паказчыкі не выяўляюць тут асабліва значнага разьвіцьця льняных засеваў. Таксама слаба разьвіта тут дзеля нейкіх прычын контрактацыя льняных засеваў. Аднак загатоўкі льнянага валакна і семя дасягаюць значных разьмераў. Тут, аднак, побач з лёнам выступае таварная пянька, аб чым будзе сказана далей.

Нарэшце мы знаходзім льняныя раёны на поўначы Гомельшчыны, а часткаю і ў Рэчыцкім Палесьсі. Найбольшых разьмераў контрактацыі дае Уваравіцкі адм. раён; у Чачэрскім, Кашалеўскім адм. раёнах контрактацыя меншая, але статыстычныя паказчыкі льняных засеваў большыя. Тое-ж можна сказаць у меншай меры аб Рэчыцкім і Брагінскім адм. раёнах. У цэнтры Бабруйскай акругі паўз Бярозу цягнуцца раёны з павышанымі разьмерамі льнярства. Тут адбываецца значная кантрактацыя льнянага сяменьня. Падобную зьяву бачым у Слуцкім раёне. Контрактацыя лёну на валакно тут нязначная.

Падагульняючы сказанае, мы можам вылучыць I—*моцна-льняныя раёны:* а) Дрысенскі, б) Гарадоцкі, в) Шклоўска-Ляднянскі, II—*сярэдня-льняныя трохпалёвыя раёны:* а) Халопеніцкі, б) Краснапольскі, в) Уваравіцкі, III —*сярэдня і слаба льняныя раёны э травасеяньнем:* а) Полацкі, б) Віцебскі, в) Аршанскі, нарэшце IV—*раёны натуральнага льнярства:* а) Менска-Слуцкі, Барысаўскі, Глускі, Мазырскі, Рагачэўскі, паўднёва Гомельскі.

**Культура канапель** у невялікіх разьмерах (0,01 — 0,05 дз. на гаспадарку) пашырана па ўсей тэрыторыі Беларусі і ў большасьці раёнаў мае выключна натуральны характар. У паўднёва-ўсходнім баку Рэспублікі разьмеры гэтай культуры наогул большыя і ў некаторых раёнах мы спатыкаемся з рыначнымі каноплямі. Гэта цалкам зразумела. На паўднёвы ўсход ад Беларусі ляжыць найважнейшы канапляны раён СССР (Бранская губ., ЦЧО). Паўднёва - ўсходняя Беларусь




Карт. 23.

зьяўляецца працягам і заканчэньнем на захадзе гэтага раёну, які, звычайна лічаць, заходзіць да Дняпра. Аднак, беларускія канапляныя раёны ў сучаснасьці слабей выяўлены. З межаў БССР у 1924-5 г. вывезена ўсяго 736, а ў 1925-6—1126 тон пянькі, тады як з цэнтральнага канаплянага раёну ЦЧО—7160 Т [1])—у 7—10 разоў больш.

Найбольшых рэзультатаў культура канапель дасягае ў Магілеўскай акрузе, дзе ў Кармянскім раёне на 1 гасп. прыпадае 0,14-дз. канапель, і яны займаюць 3,5% агульнай засеўнай плошчы. Блізкія лічбы мы

[1]) Тутыхин. Центр. Черн. Обл. 1929.

бачым у Краснапольскім, Чачэрскім і Камарынскім раёнах (Гом. акр.). У гэтых раёнах (апроч Краснапольскага) наглядаецца і ўзрастаньне разьмераў канаплянай культуры. У іншых адм. раёнах усходняй Магілеўшчыны (б. Калініншчына) такога ўзрастаньня мы амаль што не наглядаем. Наадварот у 1916 г. культура канапель у вадазборы сярэдняга Сажа была шмат мацнейшай.

Статыстычныя даныя, ў тым ліку і статыстыка чыгуначных перавозак, на жаль, не заўсёды падае асобна лічбы на лён і пяньку, дзеля чаго мы змушаны абмежавацца ў меркаваньнях аб рыначнасьці гэтае культуры данымі аб загатоўках. Па важнейшых пунктах паўднёва ўсходняй Беларусі мы маем такія лічбы загатовак валакна ў 1927-8 г.

**Загатоўкі Дзяржгандлю ў паўдн.-ўсходн. Беларусі ў 1927-28 годзе ў тоннах**

| Пункты | Лён | Пянька | | Лён | Пянька |
|---|---|---|---|---|---|
| Ворша | 36,1 | 18,6 | | | |
| Ляды | 181,4 | 32,8 | Усяго па Магілеўскай акр. | 305,8 | 166,4 |
| Горкі | 32,6 | 13,7 | „ „ Гомельскай „ | 342,1 | 22,9 |
| Мсьціслаў | 32,5 | 35,7 | „ „ Аршанскай „ | 471,1 | 57,9 |
| Шклоў | 38,3 | — | | | |
| Магілеў | 14,5 | 20,2 | | | |
| Касьцюковічы | 7,4 | 122,8 | | | |
| Гомель | 34,1 | 8,4 | | | |

Як бачым, у шэрагу раёнаў паўднёва-ўсходняй Беларусі канапляная культура іграе немалую ролю. Тым часам характар і ўмовы гэтай культуры добра не дасьледжаны і затым мы пакуль што ня лічым магчымым рабіць выразную ўстаноўку на спэцыялізацыю ўсіх гэтых раёнаў ў канапляным кірунку. Аднак жа геаграфія гэтае культуры настолькі характэрная, а сама яна мае такое буйное значэньне ў народнай гаспадарцы, што ўсе раёны з 2 і больш % канапаль у засеве, з 0,05 і больш дзес. канаплі на гаспадарку — мы будзем умоўна лічыць канаплянымі. Вызначаная гэтымі паказчыкамі прастора займае ўсю ўсходнюю частку Магілеўскай акругі (Калініншчыну) і сумежныя раёны Аршанскае акругі. Апроч таго павышаныя разьмеры канапель мае паўднёвы захад Рэчыцкага Палесься (Камарын, Лоеў) і паасобныя раёны ў іншых Рэспублікі (Тураўскі і інш.). Тут, аднак, пянька нетаварная. З прычыны неспагадных умоў для культуры лёну ў паўднёвым Палесьсі пяньку тут прадуць і ткуць з яе палотны на бялізну і інш. патрэбы.

## 5. Бульбяная спэцыялізацыя.

Сярод асыпных расьлін у Беларусі саўсім выключнае значэньне належыць бульбе. Займаючы ў БССР 13% засёўнай плошчы, яна ў агуловай прадукцыі ральніцтва займае значна большае месца (паводле вылічэньняў НКЗема БССР да 24% [1]). Але яшчэ большай увагі чым павышаныя разьмеры культуры бульбы заслугоўвае яе роля ў рэарга-

[1]) Перспективный план развития сельск. і лесн. хоз. на 1925-6—1929-30 г.

назацыі гаспадаркі. Яшчэ аўтары мінулага веку[1]) заўважылі, што бульба, уваходзячы ў палявую гаспадарку, прымушае ламаць трохпалёўку. Сапраўды, бульба добра аплочвае гной і гаспадар пачынае класьці частку яго не пад жыта, як у трохпалёўцы, а пад бульбу, якую садзяць у яравой зьмяне. Але, мала гэтага,—поле з пад бульбы выходзіць добра апрацаваным і ўгноеным і зусім надаецца да засеву на ім на лета ярыны, а ў чыстым папары з яго карысьці ў сэнсе пашы для жывёлы мала; з гэтага вынікае патрэба займаць нейкай расьлінай (найчасьцей ячменем, або выкай) тую частку папару, на якой летась была бульба. Нарэшце часта практыкуецца, асабліва ў больш паўднёвых частках Беларусі, культура самой бульбы ў папары, пры чым на бульбяньні ўвосень сеюць жыта. Відавочна, што культура бульбы зьяўляецца адным з найбольш магутных фактараў скарачэньня чыстага папару і набліжэньня традыцыйнае збажжавое трохпалёўкі да пладазьмену.

Вельмі важна адзначыць нам многабаковасьць выкарыстаньня бульбы: яна ўжываецца беларускім сялянствам у значных разьмерах а) на харчаваньне людзей у самой гаспадарцы, б) на кармленьне ўсіх відаў жывёлы — сьвіней, быдла, коней, авечак, птаства, в) на продаж у гарады і мястэчкі, г) на тэхнічную перапрацоўку ў сьпірт і крухмал. Разьмеры натуральнага спажываньня бульбы сям'ёй гаспадара і жывёлай цяжка паддаюцца статыстычнаму падліку. А дзеля таго, што яно складае значна большую частку агуловай продукцыі, чым гэта мае месца ў валакняных культур, дык тут па разьмерах рыначнай часткі прадукцыі крыху цяжэй меркаваць аб бульбяной спэцыялізацыі раёну і прыходзіцца больш увагі зьвяртаць на самыя плошчы засеваў бульбы. Аднак, і ў гэтых матар'ялах нялёгка бывае арыентавацца з прычыны пераважна натуральнага характару спажываньня бульбы і зьменнасьці сярэдніх разьмераў засеўнай плошчы на 1 гаспадарку па раёнах. Дзеля апошняй прычыны трэба вельмі крытычна падыходзіць да лічбаў працантовага ўдзелу бульбы ў засеўнай плошчы. Калі разглядзець географію гэтае адзнакі, дык можа злажыцца не саўсім дакладнае ўяўленьне, напр., аб концэнтрацыі бульбяной культуры ў Палесьсі. Высокія %% бульбы ў засеве тут тлумачацца ня толькі разьвіцьцём абсолютных разьмераў бульбяное плошчы, але таксама значна зьменшанымі разьмерамі агульнай засеўнай плошчы, адносна якой нават нявысокія абсалютныя разьмеры бульбяного поля будуць даваць павышаныя працантовыя адносіны.

Калі мы цяпер для ўвядзеньня належных корэктываў возьмем разьмеры бульбяное плошчы на 1 гаспадарку, дык пабачым, што бульбяная культура прадстаўлена даволі моцна і ў больш паўночных раёнах. Усё-ж раёны найбольшага колькаснага разьвіцьця бульбяной культуры распалагаюцца якраз на паўдні. Усё Наддзвіньне, апроч бліжэйшых ваколіц Полацку, мае найменшыя засевы бульбы. Апроч таго малабульбяныя раёны сустракаюцца ўздоўж усходняй мяжы Рэспублікі (Ляды, Мсьціслаў, Касьцюковічы) і ў паўднёвым Палесьсі (Лельчыцы), у краіне абложнае гаспадаркі. У паўночнай і ўсходняй Беларусі малабульбянымі зьяўляюцца пераважна раёны таварнага льнярства. Можна думаць, што абедзьве гэтыя інтэнсыўныя культуры конкуруюць між сабою, змагаюцца з-за плошчы. Умовы гэтае конкурэнцыі мала высьветлены, але ўсе-ж кідаецца ў вочы, што на лёгкіх глебах і ў спагад-

[1]) Раевский М. Западный раён экспедиции по изучению хлебной торговли, ч. II.

ных рыначных умовах, асабліва ў ваколіцах гарадоў, перамагае бульба, — яна тут мае і значэньне кармовага сродку для інтэнсыўнай жывёлагадоўлі і непасрэдна рыначнага продукту. Наадварот, на цяжкіх глебах і ў пэўным аддаленьні ад гарадоў перамагаюць лён і каноплі.

Зразумела, што пры гэтых умовах раёны наймацнейшага разьвіцьця бульбы разьмяшчаюцца пераважна ў паўднёвай часьці Беларусі. Якраз Гомельшчына мае найбольш лёгкія глебы, даволі густую сетку шляхоў вадзяных і чыгуначных, а пры гэтых шляхох шэраг буйнейшых і драбнейшых паселішчаў гарадзкога тыпу: Гомель, Бабруйск, Жлобін, Рэчыца, Рагачэў і дзесяткі мястэчак. Тож-бо якраз тут мы знаходзім найбольшыя разьмеры бульбяной культуры. У шэрагу адм. раёнаў Гомельшчыны бульба займае ад 20 да 25% засеўнае плошчы і на сялянскую гаспадарку прыходзіцца больш $^3/_4$ дзес. бульбы.

Другая многабульбяная пляма ляжыць у ўсходняй часьці Менска-Слуцкае пладазьменнае краіны і ў сумежных з ёю палескіх прасторах па рацэ Пцічу. У паасобных адміністрацыйных раёнах мы і тут знаходзім больш 20% бульбы ў засеве, а ў сярэднім бульбяная плошча 1 гаспадаркі тут нават вышэйшая, чым у Гомельшчыне — у паасобных адм. раёнах да 0,9 дзес. На поўначы гэтая пляма падымаецца да шырыні Менску, на ўсходзе крыху не даходзіць да Бярозы, на паўдні дасягае Прыпяці.

Рэшта прасторы Рэспублікі мае 10—15% бульбы ў засеве і сярэднюю плошчу бульбы на 1 гаспадарку 0,4—0,5 дз.

Географія засеўнай плошчы бульбы ня можа цалкам задаволіць нас пры ўстанаўленьні раёнаў бульбяной спэцыялізацыі. Бульба мае некалькі відаў выкарыстаньня, разьмеры якіх у паасобных раёнах нам невядомы. З гэтай прычыны адносна бульбы мы ня можам меркаваць як адносна лёну, што пэўная колькасьць продукцыі або засеву на душу (ці на гаспадарку) здавальняе іх натуральныя патрэбы і што лішкі продукцыі (або плошчы) маюць на мэце таварную культуру. Затым у пытаньні аб бульбяной спэцыялізацыі асаблівага значэньня набываюць простыя паказчыкі таварнасьці.

Таварная бульба мае наступныя прызначэньні: а) непасрэднае забесьпячэньне бліжэйшых гарадзкіх рынкаў, б) забясьпячэньне больш далёкіх гарадзкіх рынкаў і в) забесьпячэньне бульбаапрацоўчай прамысловасьці. Аб колькасьці бульбы першага прызначэньня мы дакладных вестак ня маем. Статыстыка чыгуначных перавозак гаворыць нам аб колькасьці таварнай бульбы, якая ідзе на далёкія рынкі (пераважна сталовыя гатункі бульбы). Урэшце, даныя аб контрактацыі бульбы побач з весткамі аб бульбаапрацоўчай прамысловасьці (карт. 24) даюць нам географію бульбы індустрыяльнага прызначэньня.

Вываз бульбы па чыгунках мае месца ва ўсіх частках тэрыторыі рэспублікі, але не ў аднолькавых разьмерах. Рэзка вылучаецца з гэтага боку толькі Гомельшчына і Рагачэўшчына — разам узятыя яны вывозяць бульбы па чыгунках на 650—700 тыс. руб. (1926-27 г). Больш менш значны вываз яшчэ мае Магілеўшчына і Аршаншчына (30—80 тысяч рублёў кожная). Рэшта раёнаў мае нязначны вываз, асабліва паўночная частка Беларусі і Мазырскае Палесьсе.

Даныя аб контрактацыі засеваў бульбы выяўляюць нам яшчэ новыя раёны таварнае бульбы. На першае месца паводле разьмераў контрактацыі бульбы выходзіць паўночна-заходняя Аршаншчына з сваімі крухмальнымі заводамі і бравaрамі. У 1927-28 г. тут закантрактавана звыш 1800 га. бульбы. Значную контрактацыю мы бачым у Мен-

ска-Слуцкай краіне, у ўсходняй Магілеўшчыне (Калінішчына да 1000 га.), ў Рагачэўшчыне. Значна меншыя разьмеры контрактацыі мае паўночная Віцебшчына (Гарадоцкі раён), Барысаўскае Палесьсе, Пцічанскае Палесьсе. Паўночна-заходнія раёны (Полаччына) і амаль усе Прыпяцкае Палесьсе блізка што ня мелі контрактацыі бульбы.

Разьмяшчэньне контрактацыі бульбы пралівае новае сьвятло на даволі нявыразнае дагэтуль пытаньне аб раёнах бульбяной спэцыялізацыі.

**БУЛЬБААПРАЦОЎЧАЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ.**

*Вываз крухмалу і сьпірту па чыгунках у 1925-26 г. у тоннах і праектаваныя па 5-годняму пляну прадпрыемствы.*




Карт. 24.

Мы знаходзім перад ўсім выразны Талачынскі раён таварнае бульбы ў Аршаншчыне, хаця там звычайныя статыстычныя весткі аб бульбяной плошчы паказваюць толькі сярэднія разьмеры бульбяной культуры (10—13% агульнай засеўнай плошчы). Яшчэ да вайны там існавала даволі значнае гняздо крухмальных заводаў і бравароў; у сучаснасьці працуе там вялікі Талачынскі крухмальны завод, які адзін законтрактаваў 894 га. бульбы. Значэньне этага факт ў сельскай гаспадарцы Аршаншчыны дужа вялікае. Бульбаапрацоўчая-прамысловасьць

і культура бульбы ператвараюць дагэтуль пераважна збажжавую гаспадарку Аршаншчыны ў больш інтэнсыўныя і прыбытковыя формы.

Падобныя зьявы, але толькі ў больш слабой форме наглядаюцца ў Калінішчыне. Тут з даваенных гадоў існуе шмат бравароў, якія ў сучаснасьці перайшлі да контрактацыі бульбы. Бульбяная плошча тут таксама разьвіта ня дужа моцна, а бульбяной спэцыялізацыі прыхо-




Карт. 25.

дзіцца конкураваць з каноплямі і з лёнам. І ўсё-ж факт узмоцненай контрактацыі бульбы нельга не адзначыць, як паказчык аднаго з тых шляхоў, па якіх можа пайсьці далейшае разьвіцьцё сельскае гаспадаркі раёну.

Слабое разьвіцьцё контрактацыі ў Гомельшчыне відавочна зьвязана з недастатковым разьвіцьцём у гэтай краіне бульбаапрацоўчай прамысловасьці і узмоцненым вывазам сталовай бульбы з Гомельшчыны на далейшыя рынкі. Кідаецца ў вочы зусім нязначная контрактацыя ў такім моцнабульбяным раёне, як Пцічанскае Палесьсе. У даваеннай мінуўшчыне тут існавала густая сетка вялікіх бравароў, з якіх толькі нязначная частка перетрывала да нашага часу. Павялічаныя разьмеры бульбяной культуры ў гэтай краіне ўсё-ж нельга

тлумачыць толькі як гістарычны перажытак. Культура бульбы у гэтай краіне з лёгкімі глебамі, з даволі інтэнсыўнай жывёлагадоўлей дыктуецца самымі ўмовамі гаспадаркі. Бульба іграе тут ролю асноўнага кармовага і харчовага прадукту і ёсьць цэнтральнай культурай ральніцтва, ня гледзячы на свой натуральны характар; яна ў сучаснасьці і ў пэрспэктыве застанецца тут грунтам для інтэнсыўнай рыначнай жывёлагадоўлі.

Ня гледзячы на значныя разьмеры бульбяное плошчы, продукцыя бульбы ў гэтай краіне ледзьве пакрывае натуральныя патрэбы самой гаспадаркі, што відно ўжо хоць бы з таго, што ў раёнах з 18—20 процантамі бульбы ў засеве нялічныя бравары, якія існуюць у краіне, знаходзяць для сябе больш выгодным выпісваць з Украіны кіяхі і перавозіць іх коньмі за 40—50 км. ад чыгункі, чым закупляць бульбу у суседніх сялянскіх гаспадарках. Скрозь па Пцічанскім і Менска-Слуцкім бульбяных раёнах мы бачым гэтае-ж самае парадоксальнае зьявішча: бравары працуюць на прывезеных здалёку кіяхох. І хаця ў шэрагу выпадкаў гэта і можна тлумачыць памылкамі нашых гаспадарчых органаў, але ўсё-ж у падставе ляжаць высокія мясцовыя цэны на бульбу, выкліканыя адсутнасьцю значных таварных лішкаў яе ў гаспадарцы. Тое самае адносіцца і да Палесься Мазырскага і Рэчыцкага.

Наяўнасьць контрактацыі бульбы ў некаторых раёнах Віцебшчыны і Барысаўскага Палесься заслугоўвае ўвагі, як паказчык магчымага разьвіцьця бульбяной культуры ў гэтых раёнах пад уплывам прамысловасьці.

На картаграме 25 мы вылучаем наступныя бульбяныя раёны: I—выразныя *раёны таварнае бульбы* а) Гомельска-Рагачэўскі, б) Талачынскі, II *многабульбяныя натуральныя раёны* а) Глускі. III *сярэдне-бульбяныя раёны (з сярэдней таварнасьцю)* а) Менска-Слуцкі, б) Паўночна-Прыпяцкае Палесьсе, в) Калініншчына. IV *раёны з некаторым бульбяным ухілам* — а) Барысаўскае Палесьсе, б) Полацкі і V *малабульбяныя раёны* а) Паўночны, б) Ляднянска-Мсьціслаўскі, в) Паўднёва-Прыпяцкае Палесьсе.

### 6. Раёны ральніцтва.

Для характарыстыкі тыпу ральніцтва паасобных раёнаў БССР мы выкарысталі паказчыкі а) інтэнсыўнасьці і тэхнічнай вышыні ральніцтва, б) льнянай і канаплянай спэцыялізацыі і в) бульбяной спэцыялізацыі. Па кожнай з гэтых груп паказчыкаў шляхам крытычнага параўнаньня розных адзнак намі ўстаноўлены адпаведныя спэцыяльныя раёны. Цяпер астаецца нам аб'яднаць гэтыя тры сыстэмы раёнаў у сынтэтычныя раёны ральніцтва.

Зрабіць гэта будзе не цяжка ўжо таму, што сам крытычны характар разгляду кожнай з адзнак прымушаў нас зьвяртаць адразу ўвагу і на іншыя адзнакі. Тэхнічна выканаць такое аб'яднаньне мы зможам шляхам накладкі аднэй на адну ўсіх трох картаграм. Для гэтай мэты можам проста напісаць на плошчы кожнай адміністрацыйнай адзінкі адзнаку аб тым спэцыяльным раёне, да якога яна адносіцца. Такіх адзнак па ральніцтву для кожнай адзінкі будзе чатыры—адна аб сытэме ральніцтва і тры аб спэцыялізацыі бульбяной, льнянай або канаплянай. Для прастаты мы іх адзначаем першымі літарамі лацінскага альфа

бэту і распалагаем у пастаянным для ўсіх адміністрацыйных адзінак парадку. Значэньне літараў паказана пры картаграмах спэцыяльных раёнаў. Такім чынам напр. адзнака СЕА паказвае на раён папарнага ральніцтва з травасеяньнем, малабульбяны, але з моцным таварным льнярствам, ДАД—раён папарнага ральніцтва без травасеяньня, моцнабульбяны, з натуральным льнярствам.

Распалажыўшы паказаныя сумарныя адзнакі на картаграме (карт. 26), мы лёгка зможам аб'яднаць адміністрацыйныя адзінкі з аднолькавымі паказчыкамі. Яны у нас займаюць значныя суцэльныя тэрыторыі, што сьведчыць аб крытычнай прапрацоўцы і ўнутранай увязцы нашых спэцыяльных раёнаў. Нязначная колькасьць адміністрацыйных адзнак будзе мець свае асаблівыя, пераважна пераходныя адзнакі і іх мы аднясем да тых або іншых буйных масываў, маючы на ўвазе заўсёды найяўцней выяўленую адзнаку і таксама кіруючыся меркаваньнямі аб дынаміцы беларускага ральніцтва і яго спэцыялізацыі. Выходзячы з гэтых меркаваньняў мы будзем пры адначасова моцна выяўленай льнянай і бульбяной спэцыялізацыі раёнаў аддаваць перавагу бульбяной спэцыялізацыі. Як ужо вышэй адзначалася, звычайна пры палепшаньні рыначных умоў таварная бульба выцясьняе таварны лён (Віцебскі раён), а не наадварот. Таксама, калі даводзіцца вырашаць, да якога з раёнаў адносіць данную адміністрацыйную адзінку пераходнага тыпу да больш інтэнсыўнага ці да менш інтэнсыўнага, дык мы адносім звычайна яе да больш інтэнсыўнага масыву, кіруючыся таксама агульнай дынамічнай тэндэнцыяй ральніцтва да інтэнсыфікацыі. Аднак у падобных выпадках прыходзіцца лічыцца і з пэўнасьцю нашых вестак аб тэй або іншай адзнацы данае адміністрацыйнае адзінкі, з характарам прыродных і экономічных умоў і іншымі асаблівасьцямі тэрыторыі.

Стараючыся не павялічваць праз меру колькасьці аб'яднаных раёнаў ральніцтва, мы абмяжаваліся вылучэньнем 17 раёнаў, частку якіх можна ў далейшым нават лічыць толькі за падраёны. Каротка затрымаемся на характэрыстыцы гэтых раёнаў.

Менска-Слуцкі раён пладазьменнага тыпу з моцным разьвіцьцём травасеяньня, лубіну і наагул занятага папару мае сярэднія разьмеры таварнае бульбяное культуры і натуральнае льнярства. Ральніцтва тут зьяўляецца асновай інтэнсыўнай жывёлагадоўлі і самастойна выяўленага рыначнага значэньня ня мае. Бульба ў значнай меры ідзе па крухмальні і бравары. Дзякуючы добрым сугліністым глебам раён забясьпечаны сваім збожжам і часткаю нават яго вывозіць.

Віцебскі раён пладазьменнага тыпу мае ўсё-ж значныя разьмеры таварнага льнярства, з якім, аднак, конкуруюць бульба і травы.

Вакола Менска-Слуцкага раёну ляжаць бульбяна-збажжавыя раёны верхняга Палесься з моцна скарочаным папарам пры дапамозе культуры лубіну, але з вельмі слабым травасеяньнем у выніку перавагі лёгкіх пяшчаных глеб. Бярэзінскае Палесьсе мае больш падкрэсьлены натуральна-збажжавы характар. Разьмеры бульбы крыху павялічаны. Пцічанскае (Глускае) Палесьсе наадварот мае моцна разьвітую бульбяную культуру, відавочна, кармовага прызначэньня. Культура лубіну разьвіта слаба і скарачэньне плошчы гэтага папару можна растлумачыць разьвіцьцём беспапарнай збожжава-бульбяной трохпалёўкі і двухпалёўкі, або наогул пашырэньнем беспапарнай культуры паводле паўднёва-палескага пярэстапалёвага тыпу. У некаторых раёнах тут паказаны значныя плошчы аблогі (Парыцкі раён)

РАЁНЫ РАЛЬНІЦТВА

(1. Сыстэма ральніцтва. 2. Бульбяны кірунак. 3. Льняны кірунак. 4. Канапляны кірунак.)




Карт. 26. **Раёны ральніцтва.**

1. Сыстэмы ральніцтва.

a. Ральніцтва плодазьменнага тыпу
b. Раёны занятага папару без значнага травасеяньня
c. Ральніцтва папарнае з травасеяньнем
d. Ральніцтва папарнае без значнага травасеяньня
e. Ральніцтва абложна-пярэстапалёвае

2. Бульбяная спэцыялізацыя.

a. Раёны таварнае бульбы многабульбяныя
b. Сярэдня-бульбяныя таварныя раёны
c. Многабульбяныя натуральныя раёны
d. Раёны з бульбяным ухілам
e. Малабульбяные раёны

3. Валакняная спэцыялізацыя

a. Моцна-льняныя раёны
b. Сярэдне і слабальняныя раёны з травасеяньнем
c. Сярэдне і слабальняныя раёны без травасеяньня
d. Раёны натуральнага льнярства
k. Раёны таварных канапель

у іншых аблога таксама павінна быць больш пашырана, чым гэта паказваюць данныя веснавых роспытаў.

Прыпяцкае Палесьсе мае характэрную абложна-пярэстапалёвую сыстэму ральніцтва і нязначныя разьмеры льнярства натуральнага тыпу. Што да культуры бульбы, дык на поўнач ад Прыпяці яна разьвіта даволі моцна, але ня мае таварнага характару; на паўдня-ж ад Прыпяці неабходна вылучыць асабліва экстэнсыўны малабульбяны Лельчыцкі падраён. Глебы скрозь пяшчаныя.

Дрысенскі і Гарадоцкі раёны трэба характэрызаваць як папарныя малабульбяныя раёны з моцна разьвітым травасеяньнем на суглінках [асабліва выдатныя з боку таварнага льнярства. Паміж іх на больш лёгкіх глебах ляжыць невялікі Полацкі падраён, які адрозьнівецца ад іх значна зьменшаным і пераважна натуральным льнярствам і наадварот крыху павялічанымі разьмерамі бульбяной культуры. У Талачынскім раёне на паўночным захадзе мясцамі таварнае льнярства даволі моцна прадстаўлена, але асабліва зьвяртае на сябе ўвагу бульбяная культура, якая тут у сувязі з прамысловасьцю мае таварны характар.

Гары-Гарэцкі раён, як і папярэднія, характэрызуецца папарным ральніцтвам, але ўжо з крыху скарочаным папарам, з травасеяньнем, таварным льнярствам, і таварнай культурай канапель льнярства мацнейшае на поўначы раёну і зьніжаецца ў кірунку на паўдня. Раён наогул малабульбяны, але на паўдні разьмеры бульбяной культуры значна большыя ў сувязі лягчэйшымі глебамі.

Такі-ж пераходны характар, але яшчэ мацней выяўлены мы бачым і ў сумежным Магілеўскім раёне. Яго паўночная частка (Шклоў) належыць да найважнейшых таварна-льняных раёнаў БССР, у паўднёвай частцы льнярства слабейшае. Бульбяная культура наадварот моцна разьвіта і мае таварны характар на паўдні раёну, а на поўначы выяўлена шмат слабей. Нарэшце раён гэты, хаця і адносіцца да тыпу папарных, але тут, як і ў суседнім Гары-Гарэцкім раёне, папар скарочаны і засевы часта займаюць звыш 75% ральлі; трэба думаць, што гэтае пашырэньне плошчы засеву праходзіць шляхам беспапарнай культуры прысядзібных вучасткаў, бо „засеваў у папары“, а, значыць, занятага папару веснавыя роспыты паказваюць тут вельмі мала. Нязначна разьвіты і засевы на самой сядзібе.

Магілеўскі і Гары-Гарэцкі раёны, як бачым, маюць ральніцтва аднолькавага пераходнага тыпу і аднолькавы характар зьмен гэтага тыпу па меры прасоўваньня з поўначы на паўдня. Гэтая пераходнасьць ральніцтва адпавядае, відаць, пераходнасьці глебавых і кліматычных умоў, якія ў гэтай краіне, слаба забясьпечанай аж да апошніх гадоў палепшанымі шляхамі зносін, асабліва моцна павінны былі адбівацца на разьмяшчэньні тыпаў сельскай гаспадаркі. Правядзеньне новай чыгункі (Ворша-Унеча) і разьвіцьцё прамысловасьці, гарадзкога жыцьця і самой сельскай гаспадаркі у краіне ў пасьлярэвалюцыйныя гады зрушылі яе з адвечнай збажжавой падставы і прымусілі шукаць новых кірункаў спэцыялізацыі. У пэрспэктывах сельскай гаспадаркі вялікае значэньне павінна будзе мець пабудова заводаў фосфатных угнаеньняў. Тым часам кірункі спэцыялізацыі гаспадаркі ня ўсюды яскрава выявіліся, і гэта тлумачыць таксама пераходны характар раёнаў. Было-б магчыма абодвы гэтыя раёны аб'яднаць і разглядаць кожнага з іх як падраёны аднае пераходнае Магілеўскае краіны.

Паміж Барысаўскім Палесьсем і Аршаншчынай у аддалі ад чыгунак ляжаць адсталыя і экстэнсыўныя прасторы Халапеніцкага

раёну. Папарная збажжавая гаспадарка тут рэзка выяўлена, занятага папару, травасеяньня і бульбы вельмі мала. Але раён, прынамсі яго большая паўднёвая частка, мае даволі выразнае таварнае льнярства, якое і трэба лічыць аснаўным кірункам яго спэцыялізацыі.

Усходняя частка Магілеўскай акругі (б. Калінішчына) разам з Гомельшчынай і Рагачэўшчынай (усходняя частка Бабруйскай акругі) выразна адзначаюцца характарамральніцтва ад раёнаў, што ляжаць далей на поўнач. Тады як паўночная Магілеўшчына мае крыху скарочаны папар, тут занятага папару яшчэ меньш. Травасеяньне нязначнае. І ўсё-ж збажжавая гаспадарка тут саступае дарогу тэхнічным культурам—у першую чаргу бульбе. У Калініншчыне гэты бульбяны ўхіл найменш выразны:—перад усім ён саўсім не адбіваецца ў плошчах засеву бульбы; калі разважаць паводле апошніх, дык Калінішчыну трэба было-б прызнаць малабульбяной. Але культура гэтая выяўляе ўжо цяпер адзнакі рыначнасьці ў сувязі з контрактацыяй бульбы мясцовымі бравармі. З другога боку тут з даўных часоў перахаваліся таварныя валакняныя культуры лёну і асабліва канапель. Наяўнасьць апошніх павінна асабліва моцна адбівацца на характары ральніцтва, бо каноплі вымагаюць значнай калькасьці гною, якая адыймаецца ад іншых палявых культур. Гэты раён з таварнымі коноплямі і лёнам і нарастаючым бульбяным ухілам пры папарным ральніцтве бяз значнага травасеяньня мы вылучаем асобна ад моцна бульбянае Гомельшчыны. Для апошняй, а таксама і для Рагачэўшчыны характэрна максымальна ў Беларусі разьвітая таварная культура бульбы. На поўначы ў Рагачэўшчыне і на паўдні ля Гомлю бульбяная спэцыялізацыя зьяўляецца бясспрэчна пануючым кірункам ральніцтва. У сярэдзіне краіны (Увaравіцкі падраён), апроч бульбяной спэцыялізацыі, існуе даволі значнае таварнае льнярства. Такім чынам у Гомельска-Рагачэўскім раёне можна вылучыць тры падраёны: Рагачэўскі, Уваравіцкі і Гомельскі.

Паміж Гомельшчынай і Прыпяцкім Палесьсем ляжыць Рэчыцкі раён пераходнага тыпу. На грунце папарнай (а мясцамі і аблoжнай) гаспадаркі, якую тут паказваюць веснавыя роспыты, мы бачым моцна разьвітую культуру бульбы, якая тым часам не выяўляе моцнага рыначнага характару. Побач з бульбаю мы знаходзім тут мясцамі і таварнае льнярства, а ў частцы раёну значныя разьмеры канаплянай культуры, якая мае натуральны характар.

---

### 7. Сыстэмы прадукцыйнай жывёлагадоўлі.

Разгляд тыпаў прадукцыйнай жывёлагадоўлі ў паасобных раёнах Беларусі было-б мэтазгодна весьці тым самым шляхам, як гэта мы рабілі адносна ральнітва. Жывёлагадоўлю трэба характарызаваць як з боку суадносін яе галін, яе інтэнсыўнасьці і тэхнічнага стану, таксама і з боку яе спэцыялізацыі. Трэба сказаць, аднак, што выканаць гэтую праграму тут цяжэй, чым адносна ральніцтва. Сама статыстыка жывёлагадоўлі, паводле свае якасьці, стаіць значна ніжэй статыстыкі ральніцтва (мы напр. ня ведаем дакладна географіі малочнай прадукцыйнасьці быдла), а аб'ект, які падлягае вывучэньню, — сыстэма жывёлагадоўлі адзначаецца значна большай складанасьцю. Разам з тым дагэтуль няма добра распрацаваных генетычных клясыфікацый сыстэмы жывёлагадоўлі. Тут мы маем зусім іншае палажэньне, чым з сыстэмамі ральніцтва, клясыфікацыя якіх настолькі добра распрацавана, што

звычайна іх кладуць у падставу характэрыстыкі тыпаў усяе сельскае гаспадаркі (Скварцоў, Брінкман і інш.). Толькі Эрэбо даў больш менш-вытрыманую і унівэрсальную клясыфікацыю сыстэм жывёлагадоўлі, аснованую на характары кармленьня. На жаль, дзякуючы сваёй агульнасьці, яна мала дапаможа нам у працы над беларускім матар'ялам. Выходзячы з вынікаў нашых папярэдніх агронамічна-бюджэтных дасьледваньняў можна лічыць, што ў Беларусі магчымы даволі значныя з гэтага боку розьніцы паміж асобных раёнаў.

Калі ў падставу клясыфікацыі класьці, як гэта робіць і Эрэбо, спосабы забесьпячэньня кормам прадукцыйнай жывёлы і характар яе утрыманьня, дык мы павінны будзем вызначыць для Беларусі. наступныя тыпы жывёлагадоўлі: 1 — выпасовы (нагульны) тып пры наяўнасьці абшырных пасьвішчаў у агульна-экстэнсыўных умовах гаспадаркі, 2—папарна-гнаёвы—пры скарочанай плошчы пасьвішчаў, пасьцьбе на папары, і экстэнсыўным сена-саламяным зімовым кармленьні. Жывёлагадоўля тут натуральная без самастойнага рыначнага значэньня, 3—інтэнсыўны выганны тып з разьвітым травасеяньнем і рыначнай жывёлагадоўляй. У зімовым кармленьні відная роля належыць сену кармовых траў і караньплодам. 4—полустойлавы інтэнсыўны рыначны тып; улетк ужывёла на пашы, але з значным падкормам, зімовае кармленьне інтэнсыўнае з удзелам у кармавых даванках бульбы, караньплодаў і моцных кармоў і 5—стойлавы—рэгулярнае стойлавае кармленьне праз цэлы год, пасьцьба траціць сваё кармовае значэньне; мэта — інтэнсыўная прадукцыя, разьлічаная на блізкі рынак (прыкл. сьвежамалочная продукцыя ў ваколіцах гарадоў).

Клясіфікацыя гэтая можа быць прыстасавана у большай або меншай меры да ўсіх відаў прадукцыйнай жывёлы, хаця з аднаго боку ў межах Беларусі далёка не для ўсіх відаў жывёлы можна нагледаць усе ступені клясыфікацыйнае шкалы і з другога—не заўсёды ўсе віды прадукцыйнае жывёлы данага раёну або гаспадаркі знаходзяцца на аднэй клясыфікацыйнай ступені. Так, пры папарна-гнаёвай сыстэме гадоўлі быдла магчыма полустойлавае або стойлавае утрыманьне сьвіней і, наадварот, чыста выпасовае утрыманьне авечак. Затым у падставу вылучэньня раёнаў жывёлагадоўлі мы кладзем сыстэмы і кірункі гадоўлі быдла, якое з усіх відаў прадукцыйнае жывёлы зьяўляецца найбольш пашыраным, дае звычайна найбольшы прыбытак і адначасна мае найбольшую дыфэрэнцыяцыю з боку інтэнсыўнасьці па раёнах, зьяўляючыся галінай жывёлагадоўлі, асабліва залежнай ад прыродных і экономічных умоў раёну, ад тыпу яго ральніцтва.

Разгледзім цяпер асаблівасьці жывёлагадоўлі паасобных раёнаў Беларусі з боку кармленьне і утрыманьня быдла і наогул сыстэмы жывёлагадоўлі.

Характар ральніцтва і сенажатніцтва уплывае на сыстэму ўсяе жывёлагадоўлі і гадоўлі ўсіх відаў жывёлы, бо толькі нязначная частка гаспадарак можа грунтаваць сваю жывёлагадоўлю на прывозным корме. Прывозны корм, пераважна концэнтраваны, аднак, нярэдка выкарыстоўваецца і масавай гаспадаркай паасобных раёнаў Беларусі, як дадатак да сваіх уласных грубых і вадзяністых кармовых сродкаў. Падлічыць колькасьць концэнтраванага корму, як прывознага [1]),

[1]) Статыстыка чыгуначных перавозак не дае характэрных лічбаў у гэтай справе. Большасьць прывозу концэнтраванага корму ідзе ў гарады і барджэй усяго спажываецца жывёлагадоўляй гарадзкіх і падгародніх гаспадарак.

так і мясцовага, які ідзе жывёле, на падставе шырокіх масавых матар'ялаў было-б цяжка. Аб гэтым можна сабе зрабіць уяўленьне толькі на падставе спэцыяльнай распрацоўкі бюджэтных і іншых монографічнага тыпу дасьледаваньняў.

Больш паказальным у справе раёнаваньня зьяўляецца запас малатранспартабельных грубых і вадзяністых кармовых сродкаў. Аб географіі аднаго з гэтых сродкаў—бульбы гаварылася шмат у разьдзеле ральніцтва. Картаграма 27 прадстаўляе пашырэньне другой вельмі характэрнай асыпнай расьліны—кармовых караньплодаў. Яна сконцэнтравана (хаця і ня ў дужа вялікіх разьмерах) у ваколіцах двох найбольшых гарадоў Рэспублікі—Віцебску і Менску, але відавочна пашыраецца і на далейшыя адлегласьці ад гэтых цэнтраў.




Карт. 27.

Але асаблівае значэньне для мэт раёнаваньня мае географія грубых кармовых сродкаў—з ёю перад усім і зьвязана разьмяшчэньне сыстэм гадоўлі быдла. Сучасныя і даступныя нам статыстычныя матар'ялы яшчэ не дазваляюць па будаваць колькі небудзь выразнага кармовага балянсу для паасобных адміністрацыйных раёнаў. Затым прыходзіцца і ў данным выпадку карыстацца укоснымі паказчыкамі, якія нам даюць уяўленьне аб суадносінах паміж грубымі кармамі. Такімі паказчыкамі зьяўляюцца суадносіны ральлі і сенажаці ў сялянскіх гаспадарках (узятыя на падставе зямельнага перапісу 1917 г.), географія кармовых траў і ўрэшце вываз сена з паасобных чыгуначных станцый. На картаграме 28 мы бачым, што сенажатныя раёны распаложаны па тэрыторыі Рэспублікі двумя вялікімі масывамі Палескім і Дзьвінскім. Палесьсе ў выніку асушальных прац надзвычайна пашырыла плошчу сваіх балацяных, пераважна асаковых, сенажацей. Апроч таго тут ёсьць немалыя прасторы прырэчных сенажацей і аграмадныя прасторы пашы ў лясох. Вываз сена з Прыпяцкага Палесься быў і ёсьць нязначны. Запасаў грубага корму ледзьве хватае для прахарчаваньня значнай колькасьці быдла, якое дзержаць палескія сяляне. У ўсходняй часьці Палесься, у Гомельшчыне многа добрых прырэчных сенажацяй, а быдла менш. Гэта дазваляе Гомельшчыне і сумежным раёнам Бабруйшчыны вывазіць даволі вялікія колькасьці сена. Абшырнасьць прыродных сенажацяў у ўсёй паўднёвай Беларусі трэба лічыць аднэй з прычын слабых посьпехаў травасеяньня у гэтай краіне. Толькі раёны з найбольш інтэнсыўнай жывёлагадоўляй, як усходняя Случчына, ваколіцы Гомлю не абмяжоўваюцца ураджаем прыродных сенажацяў і разьвіваюць значную культуру сеяных траў.

Другі многасенажатны раён—Дзьвінскі (ахапляе сабою ўвесь вадазбор Дзьвіны) у сувязі з характарам свайго морэннага ляндшафту мае асабліва вялікія разьмеры сухадольных сенажацьцяў і параўнаўча мала-балотных. Непрапушчальная для вады морэнная гліна не дазваляе вясьці рэгулярнай палёвай гаспадаркі па зьніжэньнях рэльефу: азіміна, а нярэдка і ярына тут вымакаюць. Гэтыя кавалкі звычайна закідаюцца пад сенажаці і даюць пэўныя запасы сена. Ня гледзячы на гэта тут у процілегласьць Палесьсю мы бачым і значнае травасеяньне. Такі стан забясьпечанасьці грубым кормам дазваляе Дзьвінскай краіне ня толькі разьвіваць уласную жывёлагадоўлю, але і вывозіць некаторыя колькасьці сена па чыгунцы.




Карт. 28.

Цэнтральная Беларусь — краіна лёэсавых плято і сухіх верхняпалескіх нізін значна горш забясьпечана прыроднымі лугамі, чым папярэднія краіны. У кожным разе суадносіны ральлі і сенажаці тут наймений карысныя для апошняй. Гэты недахват прыроднай кармовай плошчы асабліва стымуляваў разьвіцьцё палёвага травасеяньня ў ва ўсіх—больш менш інтэнсыўных раёнах сярэдняе паласы Беларусі. Менскі, Слуцкі, Магілеўскі, Аршанскі раёны і некаторыя іншыя (гл. карт. 19) разьвілі значнае штучнае травасеяньне і гэтым спосабам пакрываюць дэфіцыты свайго кармовага балянсу. Больш далёкія ад рынкаў і чыгунак і наогул больш экстэнсыўныя раёны гэтае-ж паласы яшчэ не пасьпелі у належнай меры разьвіць травасеяньня і асабліва церпяць у наш час ад недахвату корму. Тут мы можам сустрэць тыповыя зьявы аджыўшай свой век трохпалёўкі—зьніжэньне укосаў сенажацей, здрабненьне і колькаснае скарачэньне жывёлы і г. д.

Колькасьць жывёлы і перад усім колькасьць быдла адбівае ў сабе большую ці меншую спагаднасьць кармовых умоў у данай мясцовасьці. Калі мы адзначым на картаграме (карт. 29) раёны, у якіх прыходзіцца на 100 гасп. менш 250 шт. быдла, ад 250 да 350 шт., і нарэшце больш 350 шт., дык мы пабачым даволі компактныя раёны, з якіх многажывёльны ляжыць у Прыпяцкім і Пцічанскім Палесьсі, сярэдняжывёльны ў Бярэзінскім Палесьсі, панад Дняпром ніжэй Магілеву, у Случчыне і ўрэшце на поўначы Віцебшчыны. Рэшта-ж тэрыторыі адносіцца да малажывёльных раёнаў.

Параўнаваўшы гэтую картаграму з картаграмай лясістасьці (карт. 30) і сенажацей (карт. 28) лёгка пераканацца, што паміж гэтымі зьявамі існуе нейкая сувязь: многалесныя, а часта і многосенажат-

ныя раёны аказваюцца і многажывёльнымі. Характар гэтае сувязі будзе зусім зразумелы, калі мы сабе ўявім, што значная частка лясоў, і то асабліва ў лясістых мясцох, зьяўляецца месцам пасьцьбы жывёлы, перад усім быдла. Там, дзе лясоў мала або доступ да іх для вясковага стада так ці іначай закрыты, астаецца два выхады — пасьцьба па папары праз усю вясну, або тая-ж пасьцьба па папары ці па сталым выпасе з больш менш значным прыкармліваньнем жывёлы, асабліва з вясны. Такое прыкармліваньне надае жывёлагадоўлі ўжо полустойлавы характар.




Карт. 29.

Нажаль, аднак, у нас няма выразных даных аб пашыранасьці летняга падкармліваньня. Некаторую орыентацыю можна зрабіць сабе паводле лічбаў аб кармленьні жывёлы, апублікаваных у Штогодніку ЦСУ[1]). З гэтых лічбаў выходзіць, што з 10 акруг БССР (бяз Гомельшчыны) найдаўжэй прыкармліваюць кароў з вясны ў Менскай, Слуцкай, Бабруйскай і Магілеўскай акругах, найменш—у Полацкай, Віцебскай і Барысаўскай. Розьніца у працяжнасьці стойлавага утрыманьня паміж Менска-Слуцкай і Мазырскай краінамі звыш месяца.




Карт. 30.

Калі разгледзіць склад зімовага кармленьня кароў, дык выходзіць, што найбольш концэнтраванага корму даюць каровам у Менскай і Аршанскай акругах, найменш у Мазырскай, Полацкай і Бабруйскай акругах, прычым у Полацкай акрузе найменш таксама ідзе ў корм каровам і бульбы, але за тое шмат сеяных траў. Лічбы па Полацкай акрузе, аднак, выглядаюць ня зусім пэўна.

Мала бульбы даецца ў корм і па Мазырскай, Бары-

1) Статыстычны штогоднік 1924-1925 вып. II, ч. I.

саўскай ды Віцебскай акругах і наадварот многа бульбы—па Слуцкай, Менскай і Аршанскай акр.

Сярод грубага корму звычайна пераважае сена, асабліва ў Палесьсі (Мазырская акр.), дзе саломе належыць саўсім мізэрнае месца ў кармовым рацыёне. Але ў аднэй акрузе—Калінінскай—салома стаіць на першым месцы. Калі-ж узяць сярэдні расход усіх відаў корму ў пераводзе на крухмальныя эквіваленты, дык можна і ў гэтай справе




Карт. 31. Сыстэма жывёлагадоўлі (a—палустойлавая, в—інт. выганная, c—выпасовая, d—папарна-гнаёвая, e—лесна-папарная).

заўважыць пэўныя розьніцы між акругамі. Найбольшы расход корму на 1 карову паказваюць Віцебская, Аршанская і Менская акругі (29-30 п.), найменшы—Мазырская і Калінінская (22 п.), далей Барысаўская, Магілеўская і Полацкая.

Паставіўшы побач усе данныя аб характары кармленьня і дадаўшы вядомыя з літаратуры характарыстыкі пераважна летняга кармленьня (Озеров, Бокун і інш.), мы можам вызначыць некаторыя характэрныя раёны (карт. 31). Так Прыпяцкае Палесьсе можна лічыць характэрным раёнам ляснога выпасовага тыпу; да яго набліжаецца Пцічан-

скае Палесьсе. Калінінскі раён можна лічыць прадстаўніком папарнага тыпу пашы і саломенага зімовага корму; Менска-Слуцкі і Віцебскі можна аднесьці да паўстойлавага тыпу. Бярэзінскае Палесьсе разам з Быхаўшчынай трэба лічыць раёнам лесна-папарнае пашы. Для папарна-гнаёвага-ж тыпу з большымі або меншымі агаворкамі трэба аднесьці і Гомельшчыну. Магілеўшчына і Аршаншчына застаючыся ў аснове раёнамі папарнае пашы, па некаторых адзнаках набліжаюцца да больш інтэнсыўнага паўстойлавага тыпу; у кожным разе пашыранае тут травасеяньне дае магчымасьць даволі значнага летняга падкорму жывёлы. На неабходнасьць падкорму паказвае між іншым і значнае скарачэньне ліку жывёлы пры больш інтэнсыўным яе зімовым кармленьні.

Полаччына, як і Віцебшчына, крыху лепш забясьпечаная прыроднай кармовай плошчай, хаця і церпіць ад недахвату концэнтраванага корму і змушана дзеля гэтага скарачаць стойлавы пэрыяд, усё-ж дзякуючы наяўнасьці значнага травасеяньня і значнага ўдзелу сеяных траў у рацыёне можа быць набліжана разам з Віцебшчынай да інтэнсыўнага выганнага тыпу.

Прыблізная схэма пабудаваных на гэтай падставе раёнаў даецца на карт. 31. Пытаньне гэтае, аднак, патрабуе яшчэ значнай прапрацоўкі.

## 8. Гадоўля быдла. Малочная спэцыялізацыя.

Статыстычныя даныя, якімі мы распалагаем, мала гаворацьаб тэхнічным стане і інтэнсыўнасьці гадоўлі быдла; больш матар'ялу яны даюць для меркаваньняў аб кірунку спэцыялізацыі гэтае галіны. Укосна, праўда, нярэдка можна паводле гэтых матар'ялаў меркаваць і аб інтэнсыўнасьці гадоўлі быдла.

У Беларусі можна заўважыць наступныя важнейшыя кірункі гадоўлі быдла: а) мясна-рабочы, б) мясны, в) мясна-малочны, г) малочна-масляны, д) сьвежамалочны. Апроч таго, належыць вылучыць натуральную гнаёвую гадоўлю быдла, натуральную малочную гадоўлю і натуральнае вырошчваньне. З большай або меншай пэўнасьцю можна вылучыць толькі раёны рыначнае спэцыялізацыі гадоўлі быдла, што для нас прадстаўляе і найбольшую цікавасьць. Асноўнымі відамі спэцыялізацыі гадоўлі быдла трэба лічыць малочную і мясную.

Малочная продукцыя зьяўляецца нагэтулькі пашыранай і звычайнай часткай масавай сялянскай жывёлагадоўлі Беларусі, што здавалася-б малочны ўхіл можна прыпісаць усім нашым раёнам, за выключэньнем хіба Прыпяцкага Палесься, дзе ў гадоўлі быдла на першы плян выразна выступаюць рабочы і мясны кірунак. Аднак, нельга ня лічыцца з даволі значнымі розьніцамі ў характары гэтае малочнае продукцыі. Побач з інтэнсыўнымі і таварнымі раёнамі мы спатыкаем раёны з вельмі нізкой малочнай прадукцыйнасьцю, якая ледзьве забясьпечвае скромныя нормы спажыцьця самога землеробчага насяленьня і ў кожным разе не дае ніякіх таварных лішкаў, або нават раёны, дзе і гэтыя натуральныя патрэбы яна ня можа задаволіць і дзе быдла трымаюць, паводле слоў сялян, „дзеля гною", дзе малако зьяўляецца толькі дадатковым продуктам пры галоўнай мэце жывёлагадоўлі—прадукцыі ўгнаеньня. Такая прасторавая дыфэрэнцыяцыя малочнае жывёлагадоўлі стаіць у залежнасьці ад мясцовых рыначных і прыродных умоў, а таму прадстаўляе сабою цікавасьць ня толькі пазнавальнага, але і практычнага характару. Для высьвятленьня яе за-

трымаемся на паказчыках тэхнічнага стану гэтай галіны і яе рыначнасьці.

Пры раёнаваньні малочнай жывёлагадоўлі звычайна шмат увагі надаюць паказчыкам працантовага ўдзелу кароў у стадзе быдла і колькасьці кароў на 1 гаспадарку або на 100 душ насяленьня. Апошні паказчык для нашых мэт не гадзіцца. Ён быў бы адпаведным пры поўным ізолёваньні прыродных умоў і зьвязаных з імі агульных разьмераў жывёлагадоўлі. Пры фактычных-жа ўмовах Беларусі ён дае якраз адваротны малюнак. Найбольшую колькасьць кароў на 1 гасп., мы знойдзем у Мазыршчыне (218,8) далей ідуць Бабруйшчына, Меншчына, а на астатку Аршаншчына, Магілеўшчына і Полаччына (весткі 1926 г.). Зразумела, што колькасьць кароў у Мазыршчыне тлумачыцца ніяк не малочным характарам гэта краіны, а толькі яе многажывёльнасьцю.

Разглядзіўшы другі статыстычны паказчык—% дойных кароў у стадзе быдла, мы ўбачым малюнак адваротны таму, што даваў папярэдні паказчык і значна бліжэйшы да супраўднасьці. Перад усім мы адразу-ж пабачым, што раёны палескія з мясной жывёлагадоўляй аддзелены ад інтэнсыўнага Менска-Слуцкага раёну выразнай ступеньню—у першых мы бачым менш 50% кароў у стадзе быдла, у другіх больш 60%. Прыняўшы гэтыя інтэрвалы, мы ўбачым што ўся паўночная і паўночна-заходняя частка Рэспублікі мае звыш 60% кароў у стадзе, тады як у паўднёва-ўсходняй пераважаюць ніжэйшыя паказчыкі. Апроч Прыпяцкага і Пцічанскага Палесься, дзе % кароў ніжэй 50, мы знаходзім зьніжаны % кароў у Рэчыцкім Палесьсі і паўночнай Гомельшчыне, у ўсёй Магілеўшчыне за выключэньнем бліжэйшых трох да Магілеву раёнаў, у некаторых раёнах над Бярозай (Бярэзынь, Клічаў, Чэрвень) і ў паасобных больш паўночных раёнах (Плешчаніцы, Халопенічы, Чашнікі, Дуброўна). Наадварот, раёны з павышаным % кароў (больш 60%) апрача Віцебшчыны, Полаччыны, Аршаншчыны, Менска-Слуцкага раёну і сумежных тэрыторый, уразаюцца далёка на паўднёвы-ўсход аднэй паласою, якая ўвесь час ідзе ўздоўж лініі Заходняй чыгункі і яе ўплывам можа быць растлумачана. Гэтая паласа складаецца з раёнаў Пухавіцкага, Асіпавіцкага і Сьвіслацкага, Бабруйскага, Рагачэўскага, Чачэрскага, Гомельскага і Веткаўскага. Апроч таго, у Магілеўшчыне такія-ж паказчыкі маюць два самых усходніх раёны—Крычаўскі і Клімавіцкі. Тыя літэратурныя зьвесткі, якія існуюць аб гадоўлі быдла, а таксама статыстычныя матар'ялы іншых крыніц пацьвярджаюць і тлумачаць шмат якія рысы толькі што пераказанай географіі. Так у Дубровенскі раён уваходзіць вялікая частка лясного і балотнага масыву, г. зв. Верацейскае Палесьсе, што дазваляе ўзмоцненае гадаваньне маладняку і зьніжае % кароў. У Плешчаніцкім раёне даволі многа рабочых валоў, Магілеўшчына мае значны вываз мяса і быдла, ня кажучы ўжо аб усім паўднёвым Палесьсі, немалочны характэр якога даволі вядомы.

Аб раёнах з высокім % кароў наўрад ці можна заўсёды з пэўнасьцю гаварыць, як аб малочных. Для таго няма яшчэ належных падстаў, а гэтыя падставы, трэба думаць, дасьць нам абсьледваньне жывёлагадоўлі, якое апошнімі гадамі праводзіцца ў Беларусі. У сучаснасьці мы не распалагаем весткамі аб малочнай прадукцыйнасьці быдла па адміністрацыйных раёнах і гэта значна затрудняе ўстанаўленьне раёнаў малочнай гадоўлі быдла. Некаторую арыентацыю ў гэтай справе можна атрымаць разглядаючы лічбы аб жывой вазе 1 ка-

ровы па раёнах, якія зьбіраны былі ЦСУ у 1925-26 г. і не ахапляюць Гомельшчыны. Лічбы гэтыя, калі толькі ім можна верыць, паказваюць павышаную жывую вагу ў Менска-Слуцкім раёне, у заходняй Полаччыне, у Аршаншчыне, Віцебшчыне, але паасобныя раёны з высокай жывой вагой мы бачым і ў Палесьсі (Калінкавіцкі, Тураўскі).

Зусім натуральна было-б спадзявацца, што ў раёнах з пэўнай спэцыялізацыяй—малочнай або мясной, раённыя лічбы жывой вагі




Карт. 32.

стаяць у пэўнай сувязі з прадукцыйнасьцю жывёлы, як мясной так і малочнай. Так, зьмізарнелае быдла гнаёвых раёнаў мае адначасна і нізкую жывую вагу (10—12 пуд.) і нізкую малочную прадукцыйнасьць. Раёны з мэтысным і наогул палепшаным быдлам маюць больш высокія абодвы паказчыкі. Э. Бокун [1]) у сваім дасьледваньні чырвонага беларускага быдла Меншчыны дае наступныя лічбы: для аборыгеннага быдла жывая вага ня больш 15-16 п. і гадавы ўдой 35,6 п., для палепшанага сялянскага—жывая вага 16—18 п., гадавы ўдой 53,5 п.

[1]) Э. Бокун. Предварительный отчет по качественному изучению литовско-белорусского скота.

Раўнаваць з гэтага погляду раёны р о з н а г а кірунку спэцыялізацыі быдла было-б рызыкоўна, зачым мы і абмяжоўваемся толькі раёнамі з высокім % кароў.

У раёнах з высокім % кароў у стадзе мы ў большасьці выпадкаў знаходзім жывую вагу каровы звыш 15 пуд., а ў некаторых раёнах паказана і значна большая жывая вага. Так у Ляднянскім раёне знаходзім 22 пуды, у Гары-Гарэцкім 21,5 пуд. у Самахвалаўскім, Валынецкім, Плешчаніцкім, Калінкавіцкім звыш 19 п. Усё гэта, відавочна, раёны пашырэньня мэтыснага або наогул палепшанага быдла. Але з другога боку мы знаходзім раёны з высокім % кароў, дзе жывая вага нязначная. Такімі раёнамі зьяўляюцца Барысаўшчына з сумежнымі раёнамі (апроч ваколіц самаго г. Барысаву), паўночная Віцебшчына і Полаччына, Бабруйскі і Рагачэўскі раёны. Тады, як у апошніх супадзеньне значнага % кароў у быдле і нізкой жывой вагі можна тлумачыць параўнаўча нядаўнім уплывам рыначнага фактару ў відзе чыгункі і гарадоў, якія пры ёй вырасьлі, на вакольную тэхнічна адсталую, прымітыўную жывёлагадоўлю, дык у Барысаўшчыне гэтае супадзеньне ёсьць барджэй ўсяго вынікам недастатковасьці кармовае плошчы і чыста натуральнага прызначэньня малочнае прадукцыі, якое не дае гаспадару належнага імпульсу для разьвіцьця свае жывёлагадоўлі. Урэшце на поўначы Віцебшчыны і Полаччыны нізкая жывая вага, а значыць і нізкая малочная продукцыйнасьць могуць часткаю нам тлумачыць пераважна мясны ухіл гэтых раёнаў.

Пытаньне аб раёнах малочнай спэцыялізацыі найлепш, аднак, асьвятляецца разглядам непасрэдных паказчыкаў рыначнасьці гэтае галіны. Устанавіць рыначнасьць гаспадарак з індывідуальным збытам даволі цяжка. Але ў наш час перамoжнага пасуваньня наперад вытворчае кооперацыі, якая ахапляе бадай ці ня большую частку тварнага малака і стварае новыя раёны тварнае малочнае продукцыі, мы можам абмяжавацца вылучэньнем раёнаў кооперацыйнага малачарства. Мы маем даволі абшырныя весткі аб кооперацыйным збыце малака і малочнае продукцыі [1]) амаль не па ўсіх раёнах Рэспублікі. Гэты дужа цікавы матэрыял, які яшчэ чакае свайго дасьледчыка, мы часткова скарыстаем у сваіх мэтах.

Перад усім мы можам вымерыць інтэнсыўнасьць рыначнага малачарства процантам гаспадарак, ахопленых гэтым відам кооперацыі па асобных раёнах. На першае месца тут выходзяць бліжэйшыя да Менску, Віцебску і Магілеву адм. раёны, дзе гэты процант даходзіць да 20 і звыш (Заслаўскі раён 20,9%, Высачанскі 20,1% і інш.). Аднак такіх раёнаў ня шмат; большасьць раёнаў малочнай кооперацыі мае значна ніжэйшыя паказчыкі кооперaванасьці. Узяўшы ўсе адм. раёны, якія маюць больш 3% кооперaваных гаспадарак, мы атрымаем даволі выразны малюнак раёнаў тварнага малака. Да такіх раёнаў належыць Менска-Слуцкі раён (апроч паўзьмежных частак, дзе кооперaванасьць ніжэйшая), шырокая паласа ад Віцебску на Полацак, якая, аднак, захапляе і паўночную Віцебшчыну (Гарадоцкі раён), Магілеўска-Аршанскі раён (паўночная частка Магілеўскае акр. і амаль уся Аршанская акр.), бліжэйшыя да Гомлю раёны.

Вельмі цікава, што значнае разьвіцьцё малачарскае кооперацыі мы знаходзім у некаторых палескіх і поўпалескіх раёнах. Асабліва з гэтага

---

[1]) Весткі гэтыя атрыманы намі ад Бел. Малочна-Жывёл. Союзу.

боку вылучаецца Парыцкі раён, дзе малачарскай коопэрацыяй ахоплена 13,3% гаспадарак; з гэтага боку Парыцкі раён выпярэджвае ня толькі сумежныя палескія раёны, але і большасьць інтэнсыўных раёнаў чыста малочнага характару, нават раёнаў блізкіх да гарадзкіх асяродкаў (напр. ваколіцы Гомлю маюць толькі 8-9% коопэраваных у малочнай коопэрацыі гаспадарак). Разьвіваецца, але значна слабей, малачарская коопэрацыя і ў іншых палескіх раёнах. Прыклад Парыцкага раёну з яго пераважна палескай прыродай, звычайным мясцовым быдлам і ня вельмі спагаднымі рыначнымі ўмовамі, раёну дзе перахавалася яшчэ да 12% аблогі (1927) сьведчаць аб магчымасьці шырокіх пэрспэктыў для малачарства ў Палесьсі ўжо ў бліжэйшыя годы.

Даныя аб малачарскай коопэрацыі дазваляюць яшчэ нам высьвятліць самы характар малочнай продукцыі. У ваколіцах вялікіх гарадоў (Менск, Віцебск, Магілеў, Гомель), дзе мы ўжо заўважылі найбольшы процант коопэраванасьці, малачарскія таварыствы збываюць на рынак пераважна сьвежае малако і часткаю масла. Такім чынам тут лёкалізаваліся найбольш інтэнсыўныя раёны малочнай жывёлагадоўлі, апошняя здольна заняць тут дамінуючае палажэньне ўва ўсёй сельскай гаспадарцы, надаючы яе ральніцтву пладазьменную або нават вольную сыстэму. Далей ад гарадоў малачарскія коопэратывы выпрацоўваюць або сыры або масла. І ў гэтай справе заўважваецца пэўная законаўпарадкаванасьць. Уся Віцебшчына і Полаччына, Гомельшчына і Палесьсе, а таксама часткаю ўжо ўспомненыя падгародныя раёны выпрацоўваюць масла. Сыры выпрацоўваюць два сплашных раёны— адзін у заходняй Магілеўшчыне, другі ў Случчыне. Асаблівасьці гэтае вузкае спэцыялізацыі растлумачыць мы тым часам не бярэмся, магчыма што тут уплывала і сьвядомае плянаваньне тых або іншых установ, або гістарычныя прычыны, зьвязаныя, напрыклад, з адпаведным абсталяваньнем, якое асталося яшчэ ад даваенных часоў.

Разглядаючы цяпер сумесна паказчыкі малочнае спэцыялізацыі мы бачым, што ў асноўных раёнах яны даюць адзін і той самы малюнак.

Мы можам вылучыць на іх падставе наступныя раёны: раёны *інтэнсыўнай рыначнай малочнай жывёлагадоўлі:* а) Менскі сьвежамалочна-масьляны, б) Слуцкі раён сырнай продукцыі, в) Віцебскі сьвежамалочны, г) Гомельскі сьвежа-малочна-масьляны, д) Полацкі—масьляны, е) Гарадоцкі масьляны, ж) Аршанска-Магілеўскі сырны і масьляны, з) Крычаўскі масьляны. *Раёны палескага малачарства* і) Парыцка-Пцічанскі масьляны раён і к) паасобныя адм. раёны Прыпяцкага і Рэчыцкага Палесься. *Раён натуральнага малачарства* л) Барысаўска-Халопеніцкі.

## 9. Мясная спэцыялізацыя.

Найбольш экстэнсыўнай формай рыначнай гадоўлі быдла трэба лічыць мясна-рабочую. Рабочае быдла (валы) даўней было моцна пашырана ў Беларусі; ў наш час рабочыя валы ў значнай колькасьці засталіся толькі ў Прыпяцкім палесьсі (карт. 33). Тут яны яшчэ і цяпер не бяз посьпеху конкуруюць з рабочым канём; прынамсі за час вайны колькасьць іх моцна ўзрасла. Аднаўленьне лясных заробкаў у апошнія гады дало значную перавагу рабочаму каню і колькасьць рабочых валоў перастала ўзрастаць. Тым часам у большасьці раёнаў Мазырскай акругі колькасьць рабочых валоў перавышае колькасьць

рабочых коней. Рабочыя валы ў усіх раёнах Мазыршчыны, у Камарынскім і Лоеўскім раёнах Гомельшчыны і ў Парыцкім раёне Бабруйскае акругі складаюць больш 10% ад усяго стада быдла. Другое невялічкае гняздо рабочых валоў засталося на поўначы Барысаўшчыны— разам з старажытнаю сахою. Што-ж да паўднёвага палескага раёну пашырэньня рабочых валоў, дык ён надзвычайна блізка супадае




Карт. 33.

з раёнам пашырэньня аблогі. Абедзьве гэтыя зьявы відаць маюць супольныя прычыны, а імі ёсьць характар землекарыстаньня—значны абшар лясных пасьвішчаў і сялянская ральля, параскіданая невялікімі кавалкамі па лесе на значных адлегласьцях ад вёскі.

Рабочыя валы выконваюць, аднак, ня толькі функцыю рабочае жывёлы, але адначасна і мясное. Пасьля некалькіх гадоў працы ў гаспадарцы валы адкормліваюцца і ідуць на продаж ці выменьваюцца з прыдачай на маладыя валы або бычкі.

Дзякуючы гэткаму парадку гадоўля быдла ў Прыпяцкім палесьсі зьяўляецца моцна рынычнай галіною; яна фактычна дае пераважную частку рынычнага звароту палескай гаспадаркі. Праўда, ў продаж

ідуць ня толькі валы, але і каровы, мясцамі ялавіцы і маладняк; у кожным разе валом належыць у гэтай справе першае месца. Каровы у палескай гаспадарцы маюць сваім прызначэньнем дастаўленьне гною, гэтак патрэбнага тут для гнаеньня беспапарных прысядзібных кавалкаў, і вырошчываньне маладняку. Малочная продукцыя кароў звычайна вельмі нізкая, пры тым $^0/_0$ кароў у стадзе невялікі і значная іх частка застаецца ялавіцамі. Процант малочных кароў у стадзе быдла хістаецца тут ад 20 да 38, а ялавіц даходзіць да 14$^0/_0$ Разам з тым мы бачым тут значную колькасьць маладняку старэй году (да 23$^0/_0$ ад стада быдла). Даныя-ж чыгуначных перавозак сьведчаць аб тым, што якраз з Мазырскага Палесься ідзе найбольшы вываз жывога мяснога быдла. Усе гэтыя меркаваньні апраўдваюць характэрыстыку Прыпяцкага палесься як мясна-рабочага раёну.

Калі рабочае быдла за межамі папярэдняга раёну пашырана вельмі мала, дык таго нельга сказаць аб мясным кірунку. На картаграме 33 паказаны важнейшыя раёны вывазу мяса і быдла. З яе можна зрабіць такі вывад, што апроч Прыпяцкага Палесься, значныя колькасьці мяса вывозіць паўночная Віцебшчына (Гарадоцкі раён), дый шэраг станцый сярэдняй паласы Рэспублікі таксама вывозіць у большаі ці меншай колькасьці мясныя продукты. Каб разабрацца ў гэтай справе, разгледзім іншыя матар'ялы па даным пытаньні.

Кірунак спэцыялізацыі гадоўлі быдла адбіваецца на яго складзе. Пры інтэнсыўным малочным кірунку (напр. у гарадох і мястэчках) стада складаецца амаль што не з адных кароў, маладняк гадаваць у гаспадарцы неаплатна, таксама няма рахунку трымаць у гаспадарцы якое небудзь немалочнае быдла; ялавых кароў напр. стараюцца адразу збыць з гаспадаркі. У менш інтэнсыўным малочным кірунку гадуецца ў гаспадарцы такая колькасьць маладняку, якая неабходна для рэмонту свайго ўласнага стадку. Калі-ж у складзе стадку ёсьць звышрэмонтны маладняк, дык гэта трэба лічыць адзнакай вырошчаваньня для рынку на мяса або на гадоўлю. Такое вырошчаваньне ў умовах Беларусі толькі ў паасобных абмяжаваных раёнах можа мець на мэце дастаўку малочных кароў у раёны інтэнсыўнае малочнае гаспадаркі, якія самі вырошчаваньня для рэмонту не вядуць. Запатрабаваньне мясцовага рынку на малочнае быдла дагэтуль было яшчэ ня гэткае шырокае, каб стварыць абшырныя спэцыялізаваныя ў гэтым кірунку раёны; да таго-ж гэта павінна быць высокапрадукцыйнае заводзкае або мэтыснае быдла. Гнёздаў такога быдла ў Беларусі ня шмат. З іх вылучаецца на першае месца Самахвалаўскі раён, як асяродак чырвонае беларускае пароды. Але статыстычныя лічбы веснавых роспытаў яшчэ не адбіваюць у сабе таго кірунку заводзкае жывёлагадоўлі, які разьвіваецца ў Самахвалаўскім раёне; $^0/_0$ маладняку старэйшага 1 году тут быў ніжэйшы чым у большасьці сумежных з паўдня і з усходу раёнаў. Наадварот, тут значна павялічаны $^0/_0$ кароў у стадзе, што сьведчыць аб інтэнсыўным малочным кірунку, разьлічаным на збыт сьвежага малака і інш. малочных продуктаў на блізкі Менскі рынак.

Прыведзены прыклад Самахвалаўскага раёну паказвае, што звышрэмонты маладняк быдла ў Беларусі мае звычайна мясное прызначэньне. Разгледзім яго разьмяшчэньне.

Значныя прасторы ў сярэдней паласе Рэспублікі маюць маладняка старэйшага 1 году — 14-17%. Паласа гэтая, як ужо адзначалася, слаба забясьпечана сенажацьмі і для яе гадаваньне звышрэмонтнага малад-

няку прадстаўляла-б пэўныя цяжкасьці. З другога боку прывозу адкуль небудзь з боку значнай колькасьці быдла чыгуначныя перавозкі не адзначаюць. З гэтага мы можам зрабіць вывад, што такая колькасьць маладняку ст. 1 году (каля 15%) якраз здавальняе патрэбы рамонту свайго стадку. Гэты вывад пацьвярджаецца і апрыорнымі меркаваньнямі. Калі будзем лічыць, што каровы звычайна целяцца ў Беларусі ў 2-3 гады і што на мяса яны ідуць у 8—10 гадоў, дык, адкінуўшы нормальны адход, будзем мець такі склад стадку быдла: 70% дарослага быдла, 17% маладняка ст. 1 году і 12% цялят. З прычыны аднак выбракоўкі ня толькі старых але і немалочных кароў і, быць можа, павялічанага адходу ў умовах дрэннага гадаваньня трэба яшчэ павялічыць норму маладняку да разьмераў, якія цалкам забясьпечылі-б рэмонт свайго стадку. Для вылучэньня больш выразных мясных раёнаў мы возьмем за норму—20%. Тады мы атрымаем даволі характэрную картаграму звышрэмонтнага маладняку. Асноўныя яго масы распалагаюцца а) у Прыпяцкім Палесьсі, б) у Пцічанскім і в) у Рэчыцкім Палесьсі і ў паўночнай Гомельшчыне, г) у Полаччыне і сумежных частках Віцебшчыны, д) у невялікім раёне паміж Друцьцю і Бярозай і е) у паасобных адм. раёнах Магілеўшчыны і Меншчыны.

Раўнуючы гэтыя раёны з пунктамі вывазу мяса на карт. 33 мы ў шэрагу выпадкаў пабачым супадзеньне. Трэба мець на ўвазе, што быдла звычайна ў нас загатаўляецца гарадзкімі цэнтрамі, пераганяецца туды па грунтовых шляхох і адпраўляецца па чыгунцы са станцый, якія ляжаць далёка ад месца яго паходжаньня. Гэтым напр. трэба тлумачыць вялікі вываз мяса і быдла такімі гарадамі як Слуцак або Бабруйск. Сюды, відавочна, сьцягваецца быдла з усіх прастораў Пцічанскага Палесься, а можа і Друцкага (у Бабруйск) ды нават Прыпяцкага (у Слуцк) Палесься. Вываз мяса станцыямі чыгункі Жлобін-Ворша паходзіць, відаць, з раёнаў звышрэмонтнага маладняку па Друці і з паўднёвай Магілеўшчыны.

Адносіны ў паўночнай Беларусі менш зразумелыя. З аднаго боку, багатая на маладняк Полаччына вывозіць вельмі мала мяса і, наадварот, вельмі вялікі вываз мяса з Гарадоцкага раёну не адпавядае быццам колькасьці там звышрэмонтнага маладняку. Растлумачыць гэтую супярэчнасьць у даны момант нам не давядзецца; магчыма, што ў Полаччыне прычынаю гэтае зьявы трэба лічыць якія небудзь працэсы аднаўленьня статку, або познасьпеласьць быдла, але даных, якія-б аб гэтым выразна сьведчылі, мы тым часам ня маем. Што да Гарадоцкага раёну, дык аб ім гутарка будзе яшчэ ніжэй.

Разьмяшчэньне я л а в а к па раёнах БССР таксама можа тлумачыць зьяўленьне пэўных таварных колькасьцей мяса. Пашыранасьць ялавак можна разглядаць з боку тэхнічнага, як паказчык пэўнага культурнага і тэхнічнага роўню жывёлагадоўлі, але больш слушна здаецца нам падысьці з боку экономічнага. Мы бачым, што ў раёнах з малочным кірункам гадоўлі ялавак не трымаюць; наадварот, у мясных раёнах ялаўкі зьяўляюцца даволі звычайнай і нармальнай зьявай. Пры выпасовай жывёлагадоўлі іх пасуць разам з усім немалочным быдлам, ганяюць далёка ад дому і ня рэдка нават пакідаюць начаваць у полі ці ў лесе ў „кашарах". У іншых больш інтэнсыўных раёнах, дзе ёсьць многа ялавак, іх таксама можна разглядаць, як быдла мяснога прызначэньня.

Найбольш пашыраны ялаўкі ў раёнах выпасовае жывёлагадоўлі Прыпяцкага Палесься. Тут іх колькасьць даходзіць да 14% ад агуль-

нае колькасьці быдла і да палавіны колькасьці дойных кароў. Таксама павялічаную колькасьць ялавак мы бачым у Рэчыцкім Палесьсі (да 18%) і ў паўночнай Гомельшчыне (там-жа многа і маладняку старэй 1 году). Павялічана колькасць ялавак у Глускім раёне (Пцічанскае Палесьсе). Але спэцыяльна з гэтага боку вылучаецца паўднёва-ўсходняя Магілеўшчына (Калінінщчына), якая вывозіць мяса, а таксама і ўсходняя Бабруйшчына; магчыма, што ў падставе гэтага вывазу якраз і ляжыць значная колькасьць ялавак.

У некаторых раёнах, можна думаць, існуе спэцыяльны рыначны выкарм (выпойваньне) цялят меншых году. Зусім зразумела будзе існаваньне такога выкарму ў паўночна-ўсходняй Беларусі — аналёгічна сумежным часткам РСФСР, у якіх існуе выпойваньне целят і пад уплывам тых самых рынкаў збыту (Ленінград, Масква). Для высьненьня разьмяшчэньня раёнаў выкарму цялят мы адзначылі на катаграме 33 тыя адм. раёны, ў якіх колькасьць цялят у 1927 і 1928 г. перавышае колькасьць маладняку старшага 1 году. Калі целяты астаўляюцца толькі да восені і тады ідуць на зарэз, дык у часе веснавога роспыту іх павінна быць больш, чым маладняку ст. 1 году. Раёны з перавагай цялят на працягу 1927 і 1928 гадоў ляжаць найбольш у паўночна-ўсходняй Віцебшчыне і заходняй Меншчыне. Зразумела, што з аднаго факту перавагі целят над старэйшым маладняком яшчэ нельга быць упэўненым аб рыначным выкарме целят, аднак апошні, калі ён ёсьць, павінен концэнтравацца іменна ў гэтых раёнах, што мы будзем мець у далейшым на ўвазе пры характарыстыцы раёнаў.

Мы разгледзелі шэраг матар'ялаў, якія больш ці менш укосна сьведчаць аб мясным кірунку гадоўлі быдла ў розных раёнах Беларусі. Шмат пытаньняў толькі паўстала перад намі, адказ на якія магло-б даць хіба спэцыяльнае дасьледваньне раёнаў рыначнага мяснога быдла. Тым часам мы можам толькі збольшага орыентавацца ў гэтых пытаньнях. На картаграме 33 адзначаны ўсе тэрыторыі рэспублікі, якія па тых ці іншых даных маюць адзнакі мяснога быдла. Разглядаючы разам, сумесна гэтыя адзнакі і прымаючы пад увагу вылучаныя намі раёны малачарства можна вылучыць наступныя раёны мясной жывёлагадоўлі: 1) мясна-рабочы раён Прыпяцкага Палесься ў якім можна вылучыць падраёны а) паўднёвы больш экстэнсыўны рабоча-мясны і б) паўночны або левабярэжны—з крыху меншым значэньнем рабочага быдла і павялічанымі колькасьцямі звышрэмонтнага маладняку, таксама тут разьвіваецца ў невялікіх разьмерах і малачарства. Да гэтага-ж падраёну можна аднесьці і Рэчыцкае Палесьсе. 2) Мясны раён Пцічанскага Палесься з значным гадаваньнем маладняку і ялавак і слаба выяўленым рабочым быдлам. Наяўнасьць значнага рыначнага малачарства дазваляе лічыць гэты раён мясна-малочным. 3) Краснапольска-Быхаўскі мясны раён з значнай колькасьцю ялавак, а мясцамі і павялічанымі разьмерамі гадоўлі маладняку. 4) Гарадоцкі мясны раён з значным вывазам мяса, які аднак слаба адбіваецца на складзе стада быдла бліжэйшых ваколіц чыгункі і магчыма паходзіць з больш далёкіх мясцовасьцей[1]). Але ў заходняй частцы раёну павялічана колькасьць звышрэмонтнага маладняку, а ў паўночнай і ўсходняй — цялят. У меншай меры падобная зьява адно-

---

[1]) Трэба адзначыць, што ў даваены час Гарадоцкі мясны раён вывозіў пераважна сала сьвіное і сьвініну і інш. мяса. Магчыма, што сучасны вялікі вываз мяса быдла трэба лічыць часовай зьявай.

сіцца да Аршаншчыны, дзе таксама значны вываз мяса і быдла супадае з немясным складам быдла. Наадварот, Полацкі раён мае павялічаныя разьмеры звышрэмонтнага маладняку, але не дае скольві небудзь значнага вывазу мяса ці быдла.

Нарэшце на захад ад Менску і на ўсход ад Віцебску ляжаць раёны з павялічанай колькасьцю цялят.




Карт. 34.

Разьмеры вывазу мяса і быдла з пералічаных раёнаў дазваляюць лічыць спэцыялізаванымі ў гэтым кірунку толькі Прыпяцкае і Пцічанскае Палесьсе, дый Гарадоцкі раён, хаця аб апошнім, як адзначалася, весткі ня зусім адназгодныя. Што-ж датычыць іншых раёнаў з вывазам мяса, або з тымі ці іншымі статыстычнымі паказчыкамі мяснога кірунку, дык тут наяўнасьць запасаў таварнага мяса можа быць зьявай часовай і не характэрнай. Магчыма, што гэтыя запасы ўтвараюцца з выбракаваных жывёл, або з лішкаў выгадаванага ў часы пасьляваеннай агульнай натуралізацыі гаспадаркі быдла, якое пры наступленьні нармальных рынычных і наогул гаспадарчых умоў аказваецца нявыгодным або немагчымым трымаць у гаспадарцы. З другога боку маг-

чыма зьяўленьне новых мясных раёнаў больш інтэнсыўнага характару, якія ўтворацца ў процэсе рэконструкцыі гаспадаркі. Устанаўленьне іх штандорту вымагае больш грунтоўнай прапрацоўкі пытаньня, чым на тое дазваляюць разьмеры гэтай працы.

---

Аб'яднаўшы нашыя малачарскія і мясныя раёны, і падраёны, атрымаем сумарныя раёны гадоўлі быдла. На паўдня ад Прыпяці (карт. 34) знаходзім 1) Лельчыцкі рабоча-мясны раён, далей на поўнач 2) Мазырскі мясна-рабочы, 3) Глускі мясна-малочны дый падобны раён 4) у Рэчыцкім Палесьсі. Уздоўж Заходняй чыгункі ідзе 5) Гомельскі раён сьвежа-малочнай і масьлянай прадукцыі і 6) Жлобінскі слаба рыначны малочна-мясны раён. Далей на паўночны усход знаходзім даўгую паласу ад Касьцюковіч да Быхаву і Клічаву,— 7) Краснапольскі многаскацінны раён гнаёвага і слаба рыначнага мяснога быдла. Уздоўж усяе верхняе і сярэдняе Бярозы ляжыць абшырны 8) Барысаўскі раён натуральнай малочнай і гнаёвай гадоўлі быдла. На захад ад гэтае паласы ляжаць інтэнсыўныя малочныя раёны 9) Менскі сьвежамалочны і масьляны і 10) Слуцкі сыраварны раён. На усход ад Барысаўскае паласы бачым 11) Аршанскі дый невялікі 12) Крычаўскі масьляныя раёны і 13) Магілеўскі сыраварны раён. У вадазборы Дзьвіны знаходзім 14) Віцебскі сьвежамалочна-масляны з падгадоўваньнем цялят раён, 15) Полацкі масьляны з узмоцненым вырошчваньнем маладняку і 16) Гарадоцкі мясна-малочны раён.

## 10. Раёны сьвінагадоўлі.

Гадоўля сьвіней у Беларусі мае агульнапрызнанае вялікае значэньне. Для уматываваньня гэтага значэньня звычайна выходзяць з лічбаў аб колькасьці сьвіней і меркаваньняў аб найбольш рэнтабельным скарыстаньні бульбы у масавых гаспадарках, а ў пэрспэктыве таксама і адкідаў малачарства. Бюджэтныя дасьледваньні апошніх гадоў даводзяць, што агульны прыбытак ад сьвінагадоўлі нярэдка бывае большы, чым ад гадоўлі быдла. Так, у 1925-6 г. бюджэты ЦСУ знайшлі гэтую зьяву ў 5 гнёздах з агульнага ліку 20 (Барысаўскае, Самахвалаўскае, Слуцкае, Магілеўскае і Рэчыцкае). Ня гледзячы на усе гэтыя матывы, стан сьвінагадоўлі у Беларусі далёкі ад дасканаласьці. У большасьці раёнаў гэтая галіна застаецца пераважна натуральнай і экстэнсыўнай, а мясцамі і проста прымітыўнаю.

На жаль, у нас дагэтуль лішне мала вестак як аб тэхнічным, так і аб эканомічным стане сьвінагадоўлі ў паасобных раёнах. Для мэт раёнаваньня мы можам скарыстаць толькі нязначны лік статыстычных паказчыкаў і то з агаворкамі адносна іхняй вартасьці. Вельмі важная тэхнічная прымета — скорасьпеласьць сьвінагадоўлі адбіваецца ў статыстычным паказчыку аб складзе сьвінога стада. Тут-жа трэба адзначыць, што гэты склад наўрад ці можа быць дакладна і пэўна выяўлены веснавымі роспытамі, якімі мы тут найбольш карыстаемся дзякуючы параўнаўча хуткаму звароту гэтых жывёл у гаспадарцы, нявысокай каштоўнасьці і значнай сьмяротнасьці маладняку. Найбольш пэўнымі данымі будуць лічбы старых сьвіней — старэйшых за 1 год. Павялічаныя колькасьці гэтае катэгорыі адносна усяго сьвінога стада мы знаходзім у усім Прыпяцкім і Рэчыцкім Палесьсі, у усходняй Гомельшчыне і Магілеўшчыне і бадай у усім Бярэзынскім Палесьсі (карт. 35). Тут бясспрэчна мы маем раёны найбольш экстэнсыўнае сьвінагадоўлі —

старых сьвіней тут больш 35% усяго стадку. З літаратурных апісаньняў вядома, што у паўднёвым Палесьсі сапраўды пераважае познасьпелая сьвіньня, якая большую частку году праводзіць на пашы, па далёкіх ад вёскі дубровах, дзе нярэдка пасецца самапасам. Для існаваньня такое формы сьвінагадоўлі патрэбны абшырныя выпасы і ад іх разьмераў залежыць колькасьць сьвіней, якая прыпадае на 1 гаспа-




Карт. 35.

дарку. У больш паўночных раёнах пашы менш, але сьвіньні усёж застаюцца познасьпелымі і усё лета пасуцца ў полі з малым падкормам або без яго.

Хаця раёны экстэнсыўнае сьвінагадоўлі звычайна многасьвінныя, аднак экономічны эфэкт гэтае галіны малы і яна мае выключна натуральны характар. Бярэзынскі раён познасьпелай сьвінагадоўлі дзеліць раёны інтэнсыўнае сьвінагадоўлі на тры групы — заходнюю Менска-Слуцкую, усходнюю Магілеўска-Аршанскую і паўночную Прыдзьвінскую. Менска-Слуцкая група разам з Пцічанскім Палесьсем належыць да многасьвінных і адносна інтэнсыўных раёнаў з высокай ры-

начнасьцю данае галіны. Сапраўды, Случчына займала да вайны і займае цяпер першае месца у БССР паводле вывазу жывых сьвіней. Побач з ёю могуць быць пастаўлены і падменскія раёны. Процант старых сьвіней у стадку зьніжаецца да 30 і менш.

Падобны склад стадку і многасьвіннасьць мы маем і ў Магілеўшчыне, але тут рыначнасьць гэтай галіны шмат меншая. У ўсёй паўночнай, прыдзьвінскай краіне процант старых сьвіней яшчэ ніжэйшы — часта ён ніжэй 20%, што выразна паказвае на тое, што тут фактычна гадуюць найбольш падсьвінакаў. Тут, аднак, і адносная колькасьць сьвіней найменшая.

Некаторую дадатковую характэрыстыку могуць нам даць весткі аб жывой вазе кормнага кабана па адм. раёнах за 1926 г. (бяз Гомельшчыны), якія мы атрымалі ад ЦСУ. Якасьць гэтых матар'ялаў наўрад ці высокая, аднак дазваляе вылучыць некаторыя характэрныя плямы. Так Менска-Слуцкі раён разам з Пцічанскім Палесьсем маюць сярэднюю жывую вагу звыш 8 пуд. Такой-жа вагі кабаны і ў паўночнай Віцебшчыне і Полаччыне, а часткай і ля Воршы. У Магілеўшчыне, Барысаўшчыне, Бабруйшчыне жывая вага значна меншая (б. ч. менш 7 пудоў). У Палесьсі жывая вага ў большасьці раёнаў вышэй-сярэдняй. Гэтыя зьвесткі пацьвярджаюць нашую характарыстыку Менска-Слуцкага раёну і паказваюць з другога боку, што у цэнтральнай і усходняй частках БССР ня гледзячы на іх многасьвіннасьць тэхнічны стан гэтае галіны нявысокі. Наадварот у паўночнай Беларусі, ня гледзячы на яе маласьвіннасьць, можна спадзявацца сустрэць даволі інтэнсыўныя раёны з высокай тэхнікай.

Даныя аб рыначнасьці сьвінарства, якімі мы можам распалагаць, ня вельмі значныя. Статыстыка чыгуначных перавозак за апошнія гады чамусьці мала цікавілася продуктамі гэтай галіны, а за даваенны час паказаны вываз жывых сьвіней пераважна з Менска-Слуцкага раёну, дый з Віцебшчыны і Полаччыны—вываз сьвініны і сьвінога сала. Ведома, аднак, што і шэраг іншых раёнаў дастаўляе адкормленых сьвіней на мясцовыя рынкі, якія маюць значны попыт на сьвініну. Гэтыя раёны таксама неабходна было-б вылучыць, бо уплыў рынку, хаця-б і абмежаванага, павінен быў адбіцца на структуры і інтэнсыўнасьці сьвінагадоўлі.

Пэўнае сьвятло на гэтую справу могуць праліць данныя аб к о н т р а к т а ц ы і сьвіней, якая праводзіцца ў апошнія гады для патрэб бэконных заводаў. Праўда, тым часам контрактацыя гэтая яшчэ не пасьпела разьвіцца ў цалкам закончаную сыстэму, дый статыстычныя лічбы, якія мы змаглі па ёй атрымаць, вельмі няпоўныя і разрозьненыя. Усё-ж па 5 акругах, па якіх нам удалося дастаць параённыя лічбы, апошнія даволі добра вылучаюць раёны рыначнае сьвінагадоўлі. Па Магілеўскай і Гомельскай акругах контрактацыя сьвіней разгарнулася слаба і да таго-ж мы маем толькі акруговыя лічбы, а па Мазырскай контрактацыі не праводзілася. Па гэтых акругах мы адзначаем на карт. 35 некаторыя адм. раёны, у якіх па розных іншых вестках можна спадзявацца на існаваньне таварнае сьвінагадоўлі.

На першым месцы сярод раёнаў сьвінагадоўлі трэба паставіць Менска-Слуцкі, асабліва самую Случчыну, якая і да вайны вывозіла шмат жывых сьвіней і цяпер аднавіла гэты вываз і разьвіла значную контрактацыю (у Слуцкім адм. раёне напр. да 4000 шт. сьвіней). У сувязі з пабудовай бэконнай фабрыкі ў Воршы Аршанская акруга разгарнула значную контрактацыю сьвіней у раёнах уздоўж чыгункі Ма-

сква-Менск. Таксама моцна пайшла контрактацыя ў Мсьціслаўшчыне і, трэба думаць, у сумежных частках Калінiншчыны, дзе жывая вага сьвіней даволі высокая і сьвіньні, як быццам, даволі скарасьпелыя. Можна спадзявацца ўзмоцненай таварнай сьвінiгадоўлі ў ваколіцах Магілеву. Невялікі раён таварнае сьвінагадоўлі разьвіваецца ў ваколіцах Крупак.

На поўначы контрактацыя сьвіней асабліва пашырылася ў Полаччыне ды на поўначы Віцебскай акругі. Тут мы бязумоўна маем раён інтэнсыўнай рыначнай сьвінагадоўлі з скорасьпелымі сьвіньнямі пры невялікай параўнаўча колькасьці сьвіней. У падвіцебскіх раёнах контрактацыя невялікая. Сяляне, відаць, тут прывыклі дастаўляць сьвіней або сьвініну непасрэдна на гарадзкі рынак.

У Гомельшчыне трэба спадзявацца ўзмоцненага разьвіцьця рыначнай сьвінагадоўлі ў паўночна-заходняй часьці акругі (Гомельскі, Рэчыцкі адм. раёны). Апроч контрактацыі бэконных сьвіней тут вядзецца вялікая загатоўка сьвініны і сала Белмясгандлем. Толькі за 3 кварталы 1928 29 году загатоўлена Гомельскім аддзяленьнем гэтай організацыі 201,5 тон сьвініны і сала—г. зн. больш чым ва ўсіх іншых аддзяленьнях апрача Слуцкага.

Раёны экстэнсыўнай сьвінагадоўлі з значнай колькасьцю (>35%) дарослых сьвіней у стадзе амаль што не выяўляюць адзнак рыначнае сьвінагадоўлі. Іхняя многасьвіннасьць ніяк ня сьведчыць аб разьвіцьці сьвінагадоўлі, а толькі аб яе экстэнсыўным познасьпелым характары і павольным звароце капіталу, што вымагае таксама і большай колькасьці маладняку для нормальнага папаўненьня сьвінога стада і для пакрыцьця страт ад сьвіных эпізотый. Затым мабыць пералічаныя вышэй раёны экстэнсыўнай сьвінагадоўлі ня вывозяць сьвіней і сьвініны і амаль не праводзяць контрактацыі сьвіней. Толькі ў Рэчыцкім раёне, ня гледзячы на агульную познасьпеласьць стада, сьвінагадоўля набывае больш ці менш рыначны характар. Таксама і ў некаторых раёнах Пцічанскага Палесься разьвіваецца контрактацыя сьвіней.

Наагул-жа раёны сьвінагадоўлі выпадала-б падзяліць на тры галоўныя групы: 1) *раёны інтэнсыўнай рыначнай сьвінагадоўлі*—Менска-Слуцкі, Аршанска-Магілеўскі, Полацкі, Гарадоцкі і Віцебскі, Гомельскі, 2) *раёны натуральнае скорасьпелае сьвінагадоўлі*—Лепельскі, Быхава-Прапойскі, 3) *раёны познасьпелае натуральнае сьвінагадоўлі*—Прыпяцкае Палесьсе, Бярэзінскае Палесьсе.

## 11. Другарадныя галіны жывёлагадоўлі.

У дадатак да географіі галоўных галін продукцыйнае жывёлагадоўлі нам астаецца яшчэ коратка затрымацца на некаторых яе другарадных галінах. Такімі галінамі ва ўмовах Беларусі трэба лічыць гадоўлю коней, птушніцтва і аўчарства. Першыя дзьве галіны ў некаторых частках Рэспублікі ствараюць характэрныя раёны з выразным рыначным характарам і ўплываюць на склад агуловай продукцыі і яе грашовай часткі і наагул на ўвесь характар сельскае-гаспадаркі.

А ў ч а р с т в а па ўсёй Беларусі застаецца амаль выключна натуральнай галінай і яго пасляваеннае разьвіцьцё зьвязана найбольш з недахватам фабрычных тканін. Але ўсё-ж у складзе сялянскае гаспадаркі яно іграе пэўную ролю, сьведчачы аб большай ці меншай захаванасьці натуральнага ўкладу. Картаграма 36 паказвае сярэдні лік

авечак на гаспадарку. Раёнамі найбольшага пашырэньня аўчарства аказваюцца Прыпяцкае, Рэчыцкае і Пцічанскае Палесьсе і б. Калінінушчына. Шмат авечак яшчэ ў Слуцкім і Гарадоцкім раёнах. Такім чынам, раёны аўчарства ў значнай меры супадаюць з раёнамі мяснога, мясна-рабочага і мясна-малочнага быдла. Наадварот, усе малочныя раёны маюць зьніжаную колькасьць авечак. У гэтых раёнах, відавочна, авечка, як конкурэнт малочнай каровы ў справе зімовага корму, саступае апошняй сваё месца.




Карт. 36.

Гадоўля коней ў БССР таксама носіць пераважна натуральны характар. Мэта яе — дастаўленьне рэмонту цягавай сілы для сваёй гаспадаркі і для блізкіх рынкаў. Некаторыя раёны выяўляюць павышаныя паказчыкі гадаваньня маладняку. Так, пры звычайным для большасьці раёнаў адношаньні маладняку старэй 1 г. да дарослых коней, як 10—15 на 100, пры якім відавочна патрэба ў рамонце свайго конскага табуна зусім задавальняецца, ёсьць шэраг раёнаў, дзе гэтае адношаньне падыймаецца да 20 і больш. Суцэльныя такія раёны мы знаходзім перад усім на захадзе — гэта большая частка Менска-Слуцкага раёну і захад Пцічанскага Палесься. Другі значны раён ляжыць на ўсходзе Магілеўскай акругі. Разрозьненыя-ж адм. раёны з павышаным % маладняку параскіданы амаль не па ўсёй Рэспубліцы. Вельмі характэрна, што яны звычайна супадаюць з раёнамі, дзе ёсьць асабліва значны лік бясконных гаспадарак, з боку якіх утвараецца пэўны попыт на коні. Так, у важнейшых гнёздах бясконных гаспадарак—Лепельскім, Плешчаніцкім, Бабруйскім — мы адначасна знаходзім і павялічаныя разьмеры гадаваньня маладняку.

Тыповым раёнам рыначнай конегадоўлі можна лічыць Менска-Слуцкі, асабліва-ж Случчыну.




Карт. 36.

Адгэтуль яшчэ да вайны вывозілася значная колькасьць коней (ст. Койданаў, Замір'е, Рудзенск). У сучаснасьці выва́з коней з гэтага раёну значна ўзрос (1925-6 г.). Таксама разьвіваецца шэраг іншых дробных раёнаў з вывазам коней. Так, значны вываз дае (1925-26 год) Магілеўшчына і ўсходняя Бабруйшчына, Полаччына і інш. Гэтыя раёны, як ужо адзначалася, маюць павышаны % конскага маладняку толькі ў некоторых сваіх частках. Лічбы чыстага вывазу, аднак, ня бываюць нідзе асабліва значнымі, апроч Менска-Слуцкага раёну. Бясспрэчна большая роля належыць унутранаму гандлю коньмі на розных ярмарках і таргох. Паколькі мы яго тым часам улічыць ня можам, дык і вызначэньне раёнаў рынчнай конегадоўлі можа быць толькі ўмоўным, абапёртым пераважна на укосных адзнаках. Сталым раёнам рынчнай конегадоўлі можна лічыць Менска-Слуцкі.

Птушніцтва да вайны было аднэй з найбольш рынчных галін. Яго продукты, — жывое і бітае птаства, яйкі,—ў значных колькасьцях вывозіліся за граніцу. У сучаснасьці вываз птаства яшчэ належна не зарганізаваны[1]). Наадварот, вываз яек разьвіўся даволі моцна. Затым для характарыстыкі галіны мы возьмем даныя аб вывазе птаства за 1913 год, аб вывазе яек за 1926-27 г.

Вываз птаства выразна концэнтраваўся ў двох асноўных раёнах Бабруйска-Гомельска-Рэчыцкім на паўднёвым усходзе і Полацкім на паўночным захадзе. Апроч таго назначаўся невялікі раён вывазу птаства ў усходняй Барысаўшчыне. З прыложанай картаграмы 38 відно, як разьмяшчаўся вываз птаства. Прымаючы пад увагу цану гэтага продукту, трэба прызнаць, што значэньне яго ў грашовым балянсе гаспадаркі пералічаных раёнаў было даволі вялікім.




Карт. 38.

Вываз яек разьмешчаны па тэрыторыі Рэспублікі больш роўнамерна. Вылучаюцца, праўда, больш іншых паўночная і ўсходняя Магілеўшчына і Аршаншчына (да 200 тыс. руб. у 1926-27 г.), Полаччына (да 100 тыс. р.), Случчына (130 тыс. руб.).

Падагульняючы, можна сказаць, што найбольшае значэньне птушніцтва мае ў Бабруйска-Гомельскім, Полацкім і Магілеўскім раёнах. У ўсходняй Магілеўшчыне, Барысаўшчыне, Рэчыцкім Палесьсі і Случчыне гэтая галіна таксама павінна быць адзначана.

## 12. Раёны жывёлагадоўлі.

Падсумуем цяпер і паспрабуем аб'яднаць сказанае

[1]) Вываз жывога птаства з БССР у 1925-6 г. быў 163 т., тады як у 1913 г. 525 т (Стат. штогоднік ЦСУБел.)

аб раёнах паасобных галін жывёлагадоўлі. Калі палажыць у аснову ўжо вылучаныя намі раёны гадоўлі быдла і накласьці на іх раёны сьвінагадоўлі і другарадных рынчачных галін жывёлагадоўлі, а таксама параўнаць іх схэму з раёнамі кармовых умоў, дык атрымаем у агульных рысах наступную географію жывёлагадоўлі (карт. 39).

Менска-Слуцкі раён—з моцна разьвітай сьвінагадоўлей і з малочным быдлам. Пад горадам распалагаецца сьвежамалочная продукцыя, крыху далей малочна-масьляная, у Случчыне-ж сыраварэньне. З другарадных галін разьвіта рынчачная конегадоўля. Кармленьне інтэнсыўнае. Прыродная кармовая плошча на поўначы невялікая, на паўдні большая, але скрозь моцна разьвіта травасеяньне і культура корнеклубнеплодаў. Так сама гэтыя культуры разьвіты і ў Віцебскім раёне сьвежамалочнае і масьлянае продукцыі. Прыродная кармовая плошча тут больш значная; гадоўля коней асабліва не вызначаецца. Магілеўска-Аршанскі раён таксама мае малочна-сьвінаводны характар. Кармовая плошча невялікая, травасеяньне слабей разьвіта, чым у папярэдніх раёнах. Затым выступае кармовае значэньне папару. Полаччына пры падобным характары гадоўлі быдла мае наогул кажучы большую плошчу сенажацяй і выганаў, дый часткаю можа карыстацца з лясное пашы (на паўночным усходзе раёну). Тут-жа мы знаходзім моцна разьвітае рынчачнае птушніцтва, вываз птаства і яек. Гомельска-Бабруйская краіна мае ўжо не заўсёды рынчачную сьвінагадоўлю і менш выразны малочны характар гадоўлі быдла. Мацней яшчэ крыху ён выяўлены ля гарадоў — Гомлю — Бабруйску, а пасярэдзіне ля Жлобіну і Рагачэву жывёлагадоўля прыймае мясна-малочны характар. Па ўсім раёне да вайны моцна разьвіта рынчачнае птушніцтва. Прыродная кармовая плошча недастатковая. Для пашы шырака выкарыстоўваецца папар.

Рынчачная мясна-малочныя раёны з разьвітай сьвінагадоўлей мы знаходзім на поўначы — Гарадоцкі раён і на поўдні — Глускі раён. Сюды-ж можа быць аднесены і Рэчыцкі раён, хаця ў ім сьвінагадоўля менш рынчачная. У Гарадоцкім раёне шмат сенажацей і значнае травасеяньне, у двох апошніх — значныя лясныя пасьвішчы і вялікія сенажаці, якія дазваляюць трымаць шмат скаціны у тым ліку і немалочнай (ялаўкі) і авечак. Наогул гэтыя раёны вызнаюцца сваёй многажывёльнасьцю.

Таварны раён мясна-рабочага быдла—Прыпяцкае Палесьсе— мае значную прыродную кармовую плошчу лясных пасьвішчаў і сенажацяй. Зімовае кармленьне беднае, найбольш сеннае. Гэты раён асабліва шматскацінны; сьвінагадоўля экстэнсыўная і натуральная, шмат авечак.

Краснапольска-Быхаўскі раён пры недахваце пашы і лугоў захоўвае значныя колькасьці папару, але вельмі мала сее кармовых траў. Гадоўля быдла тут экстэнсыўная і слабарынчачная з мясным ухілам; шмат ялавак, авечак. Сьвінагадоўля натуральная, экстэнсыўная.

Барысаўскі раён мае лясныя пасьвішчы, але мала сенажацей і сеяных траў. Гадоўля быдла — пераважна натуральная з мясным ухілам. Сьвінагадоўля экстэнсыўная і натуральная. Толькі ля самога Барысаву жывёлагадоўля робіцца больш інтэнсыўнай; тут-жа мы спатыкаем таварную сьвінагадоўлю і некаторы вываз птаства. Разьвіта сьвінагадоўля ў суседнім Халопеніцкім раёне, які па характару гадоўлі быдла падобен да Барысаўскага, мае менш лясных пасьвішчаў, але больш сенажацей. Травасеяньня тут яшчэ менш, чым у папярэднім раёне і мацней разьвіта папарная паша.




Карт. 39. **Раёны жывёлагадоўлі:**

1. Сыстэма жывёлагадоўлі.

a. Мала-і сярэднескацінныя травапольныя раёны, мала сенажацяў
b. Мала-і сярэднескацінныя травапольныя раёны, шмат сенажацяў
c. Лясныя многаскацінныя раёны (выпасовы тып)
d. Папарныя маласкацінныя (папарна-гнаёвы тып)
e. Лесна-папарныя сярэднескацінныя (лясны папарна-гнаёвы тып)

2. Гадоўля быдла

a. Рыначна-малочныя раёны
b. Мясна-малочныя
c. Натуральная гадоўля малочна-мяснага быдла
d. Мясна-рабочае таварнае быдла
d' Рабоча-мяснае таварнае быдла

3. Сьвінагадоўля

a. Рынчачная інтэнсыўная
b. Натуральная скорасьпелая
c. Натуральная познасьпелая

5. Другарадныя галіны

p Раёны рынчачнага птушніцтва
k. Раёны узмоцненай конегадоўлі

Нашы кароткія характарыстыкі раёнаў зьмяшчаюцца ў відзе ўмоўных формул па кожным раёне на прыложанай картаграме 39.

## 13. Вытворчыя асаблівасьці калектыўных і савецкіх гаспадарак.

Статыстыка буйнога земляробства паказвае, што ў асноўным яно захоўвае той раённы кірунак спэцыялізацыі, які намі вызначаны на падставе вывучэньня масавае сялянскае гаспадаркі. Аднак, тып буйное гаспадаркі ў БССР даволі выразна адзначаецца ад тыпаў сялянскай гаспадаркі як разьмерамі капіталазабясьпечанасьці, так асабліва сваім больш рацыянальным тэхнічным і арганізацыйным ладам. Розьніцы ў абсолютных разьмерах капіталазабясьпечанасьці тым часам яшчэ згладжаны ў даны момант дзякуючы таму, што значная частка буйных гаспадарак—і то ня толькі калгасаў, але і саўгасаў, арганізавана параўнаўча нядаўна і не пасьпела ў належнай меры абсталявацца ні жывым ні мёртвым інвэнтаром. Гэта тлумачыць і пэўныя статыстычныя неспадзяванкі, якія можна ўгледзіць, вывучаючы забясьпечанасьць буйных гаспадарак капіталамі па асобных акругах [1]). Так спаміж калгасаў найлепш забясьпечаны капіталамі калгасы Гомельскай, Полацкай і М а з ы р с к а й акруг, найгорш—Аршанскай і М е н с к а й. Падобны-ж малюнак і адносна саўгасаў, дзе Менская акруга стаіць ніжэй у справе капіталазабясьпечанасьці, чым усе іншыя акругі, апрача Мазырскай. Гэтая адзнака разьмешчана ў буйных гаспадарках як быццам проста процілежна таму, што мы бачылі адносна сялянскіх гаспадарак. Прамысловым абсталяваньнем найлепш забясьпечаны саўгасы Мазыршчыны, Аршаншчыны і Бабруйшчыны. Аднак, наўрад ці гэтыя лічбы можна прызнаць характэрнымі: яна залежыць барджэй усяго ад індывідуальных выпадковых фактаў, якія моцна адбіваюцца на сярэдніх, дзякуючы малой колькасьці об'ектаў вывучэньня.

**Арганізацыйна-вытворчыя паказчыкі буйных гаспадарак БССР па акругах На 1-VI—1928.**

| АКРУГІ | Склад засеўнае плошчы ў %% | | | | | | | | Кошт усіх сродкаў вытворчасьці на 1 га. засеўнае плошчы руб. | | У тым ліку | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Саўгасы | | | | Калгасы | | | | | | Кошт мёртвага інвэнтару | | Кошт прамыслов. абсталяваньня | |
| | Бульба | Лён | Кармовыя травы | Збожжа | Бульба | Лён | Кармовыя травы | Збожжа | Саўгасы | Калгасы | Саўгасы | Калгасы | Саўгасы | Калгасы |
| Полацкая . . | 5,4 | — | 42,4 | 47,9 | 7,0 | 5.4 | 26,2 | 54,9 | 284,6 | 251,3 | 38.5 | 34,5 | 21,8 | 11,0 |
| Віцебская . . | 9,2 | 0,8 | 41,8 | 42,5 | 7,8 | 5,7 | 25,2 | 53,0 | 414,0 | 226,9 | 78,9 | 25,0 | 38,6 | 3,7 |
| Аршанская . | 13,2 | 0,3 | 36,1 | 46,7 | 11,4 | 2,0 | 24,6 | 57.3 | 365,9 | 166,3 | 80,0 | 29,2 | 47,0 | 12,1 |
| Менская . . | 16,3 | — | 31,5 | 47,6 | 11,6 | 0,3 | 24,5 | 55,1 | 246,3 | 210,0 | 66.4 | 33,9 | 32,2 | 9,2 |
| Магілеўская . | 19,8 | 0,2 | 31,5 | 43,8 | 17,4 | 2.5 | 20,8 | 54,5 | 354,8 | 215,7 | 70.7 | 48,0 | 32,2 | 21,0 |
| Бабруйская . | 19,1 | 0,1 | 32,6 | 42,5 | 18,1 | 1,7 | 21,1 | 48,5 | 255,8 | 215,2 | 84,0 | 35,4 | 47,1 | 8,3 |
| Мазырская . | 18,7 | — | 27,7 | 46,9 | 17,5 | 1,6 | 15,9 | 47,2 | 202,0 | 229,8 | 92,7 | 32,6 | 58,1 | 7,7 |
| Гомельская . | 17,7 | — | 35,4 | 40,6 | 17,0 | 1,0 | 27,2 | 43,3 | 331,5 | 312,8 | 84,5 | 46,9 | 34,6 | 13,7 |

У в а г а. Абсолютныя лічбы ўзяты з выд. ЦСУ Бел: Белорусская ССР в цифрах. 1929.

[1]) Белорусская ССР в цифрах. Выд. ЦСУ БССР. 1929.

Мала характэрны і лічбы аб складзе стада ў буйных гаспадарках, бо ў большасьці як саўгасы, так і калгасы маюць яшчэ замала жывёлы, асабліва маладняку. У стадзе быдла выразную перавагу маюць каровы—66% у саўгасах і 70,5% у калгасах, тады як у сялян толькі 60,1%. Хаця ў гэтых лічбах адбіваецца большае значэньне малочнага кірунку ў буйных гаспадарках у параўнаньні з дробнымі, але магчымы ўплыў і недаўкомплектаванасьці стада. Гэтым толькі можна растлумачыць, што найбольшы % кароў у стадзе быдла мы знаходзім ізноў-жа ў саўгасах Мазыршчыны (69,3) і найменшы ў саўгасах Аршаншчыны (58,2), тады як па калгасах лічбы цалкам адваротныя—найбольш у Аршаншчыне (79,4) і найменш у Мазыршчыне (63 %).

Паказчыкі ральніцтва буйных гаспадарак значна больш адпавядаюць раённым характарыстыкам масавае гаспадаркі. Найбольшую розьніцу з апошнімі мы бачым у разьмерах травасеяньня. Плошча пад травамі ў саўгасах займае ў паасобных акругах да 42% агульнае засеўнае плошчы, а ў калгасах да 27%, тады як акруговыя лічбы па сялянскіх гаспадарках дасягаюць толькі 10—12%. Перавага буйных гаспадарак тут відавочна, і тлумачыцца прынятай імі пладазьменнай і травапольнай сыстэмай ральніцтва. Характэрна, што разьмяшчэньне гэтага паказчыка па акругах добра адпавядае тыпу масавае гаспадаркі—найменшы % траў і па калгасах і па саўгасах у Мазырскай акрузе (хаця і тут мы бачым 28% і 16% пад травамі), найбольшы—у Полацкай, Віцебскай і Гомельскай акругах. Таксама цалкам законамерна і разьмяшчэньне бульбы, якая найбольшае месца займае ў паўднёвай Беларусі (Магілеўская, Бабруйская, Мазырскаа і Гомельская акругі з 17—19% бульбы) і найменшае ў паўночнай часьці Рэспублікі (Полацкая і Віцебская акругі 5—9%).

Валакняныя культуры ў буйных гаспадарках прадстаўлены тым часам даволі слаба, асабліва ў саўгасах, у якіх нават па Віцебскай акрузе мы знаходзім толькі 0,8% лёну. У калгасах лёну больш і разьмяшчэньне яго адпавядае агульнаму эканомгеографічнаму ляндшафту: найбольш лёну мы знаходзім у калгасах Віцебшчыны і Полаччыны (5,4-5,7%), найменш у Меншчыне (0,3%), дзе ён відавочна не забясьпечвае нават уласных патрэб насельнікаў калгасу. Яшчэ мацней скарочаны разьмеры канаплянай культуры, але і па ёй максымум мы знаходзім якраз у Магілеўскай акрузе.

Паводле пашыранасьці збажжавых культур на першыя месцы высоўваюцца: Менская, Аршанская і Полацкая акругі, на апошнім Гомельская. Такім чынам, дзякуючы слабай выяўленасьці льнярства, у буйных гаспадарках змагаюцца між сабою за плошчу з аднаго боку збажжавыя культуры і травы, з другога—бульба, прычым на больш зьвязных глебах перамагаюць першыя, на лягчэйшых—другая.

Ужо гэты кароткі разгляд вытворчых асаблівасьцяй буйных гаспадарак БССР пераконвае нас, што яны, захоўваючы асноўныя рысы раённай характарыстыкі, арганізаваны пераважна паводле травапольна-малочнага тыпу на поўначы і захадзе і пладазьменнага бульбяна-заводзкага тыпу на паўдні. У абодвых выпадках мы маем высокапрадукцыйную таварную гаспадарку, якая, нават ня скончыўшы яшчэ свайго арганізацыйнага пэрыоду, значна выпярэджвае сваім народагаспадарчым эфэктам і высокай вытворчасьцю працы поўнатуральную сялянскую гаспадарку ўсіх групаў. Апошняя, дзякуючы сваёй тэхнічнай і

арганізацыйнай разрозьненасьці і слабасьці, змушана ў найбольшай меры лічыцца з прыроднымі, эканамічнымі і соцыяльна-гістарычнымі ўмовамі раёну, якіх яна ня можа перасіліць; Гэтым тлумачыцца выразнасьць географічных тыпаў масавай гаспадаркі і законамернасьць іх разьмяшчэньня.

———

## 14. Сынтэтычныя сельска-гаспадарчыя раёны.

Мы разгледзілі географію важнейшых паказчыкаў спэцыялізацыі і інтэнсыўнасьці масавае сельскае гаспадаркі БССР і ўстанавілі шляхам сапастаўленьня і параўнаньня шэрагу крыніц папярэднія спэцыяльныя раёны па аснаўных галінах. Пасьля гэтыя раёны аб'яднаны намі ў дзьве групы: раёнаў ральніцтва і раёнаў жывёлагадоўлі. Цяпер астаецца зрабіць далейшы крок у гэтым аб'яднаньні і ўтварыць праект раёнаў вышэйшага парадку—сынтэтычных або інтэгральных раёнаў сельска-гаспадарчай вытворчасьці.

Для характэрыстыкі гэтых раёнаў у першым прыбліжэньні будзе даволі даных аб разьмяшчэньні ральніцтва і жывёлагадоўлі, асабліва прымаючы пад увагу, што географія сенажатніцтва намі ўкосна ўлічвалася ў раёнах жывёлагадоўлі. Такім чынам намі ахоплена каля 97% агуловае продукцыі сельскае гаспадаркі (лічачы паводле бюджэтных даных ЦСУ).

Самую пабудову сынтэтычных сельска-гаспадарчых раёнаў мы будзем весьці тым самым спосабам накладаньня пры дапамозе ўмоўных літараў, значэньні якіх выпісаны на картаграме. Першая літара ў кожным раёне абазначае сабою тып ральніцтва, другая тып жывёлагадоўлі. Апроч таго трэцяй літарай адзначаем характар і інтэнсыўнасьць неземляробчых заробкаў. Увядзеньне гэтага дадатковага паказчыка выдаецца нам патрэбным з тае прычыны, што гэты від дзейнасьці з аднаго боку конкуруе з сельскай гаспадаркай, адрываючы ад яе людзкую і конскую працу, а з другога боку істотна дапаўняе грашовы прыбытак ад сельскай гаспадаркі і нярэдка пакрывае яе дэфіцыты. Дзякуючы гэтым сваім асаблівасьцям неземляробчыя заняткі ў раёнах асаблівага іх разьвіцьця неразрыўна ўвязваюцца з усім тыпам сялянскай гаспадаркі і патрабуюць супольнага з ёю разгляду.

Правёўшы неабходныя адзначэньні, мы лёгка знойдзем на карце больш ці менш значныя групы адміністрацыйных адзінак з аднолькавымі літарнымі характарыстыкамі або з дужа падобнымі. Мы злучаем іх у адзін раён і разьмяркоўваем паміж сумежных раёнаў адзінкі з пераходнымі характарыстыкамі. Вылучанаму раёну даецца характарыстыка супольная для найбольшай колькасьці аб'яднаных у ім адзнак. На гэтым статыстычная і картаграфічная работа вылучэньня раёнаў спыняецца.

Атрыманыя сынтэтычныя сельска-гаспадарчыя раёны трэба спраўдзіць, вывучыць, трэба растлумачыць іх эканамічны ляндшафт. Гэта вымагае абшырнай навуковай працы, вынікі якой можна будзе ўлічыць толькі пры канчатковым раёнаваньні. У гэтай-жа працы мы пастараемся толькі даць больш-менш увязаную характэрыстыку вылучаных раёнаў з боку выяўленьня ў кожным з іх паасобных элементаў

гаспадаркі, і паспрабаваць вылучыць асноўныя тыпы сельска-гаспадарчых ляндшафтаў, тыя „чыстыя лініі", якія мяшаючыся між сабою і ўскладненыя рознастайнымі староньнімі адзнакамі ўсё-ж найбольш моцна адчуваюцца ў эмпірычнай характарыстыцы раёну, як пэўны лейтмотыў.

Сынтэтычных с. г. раёнаў намі вылучана 13. Пяройдзем да іх характарыстыкі.

AA'C. *Менска-Слуцкі.* Плодазьменна-бульбяны, інтэнсыўна-жывёлаводны (сьвіньні, малочнае быдла, на паўдні коні), непрамысловы.

Пладазьменнага тыпу ральніцтва з значным травасеяньнем (пад травамі 10,4% засеву), з асабліва моцным разьвіцьцём занятага папару і лубіну (4,2% ад ральлі) рэзка высоўваюць наперад гэты раён, надаючы яму выразнае аблічча. Пладазьмен тут звычайна неўпарадкаваны, разьвіваецца на базе трохпалёвае арганізацыі тэрыторыі ральлі. Сярод глеб пераважаюць лёэсавыя суглінкі, шмат ёсьць, аднак, і морэнных суглінкаў і супескаў і розных гатункаў пяскоў. Аднак, на паўдні гэтыя глебы ляжаць на ніжэйшых гіпсомэтрычных узроўнях, у сувязі з чым у шырокіх і пляскіх рэчных далінах тут шмат сенажацяй, тады як на поўначы сенажацяй мала. Гэтая асаблівасьць, а таксама больш мяккі клімат і больш багатыя глебы патрабуюць вылучэньня Слуцкага падраёну. Паўночны, Менскі падраён мае горшыя кармавыя і кліматычныя ўмовы, але больш выгоднае рынечнае палажэньне з прычыны блізкасьці вялікага гораду і некалькіх чыгунак, якія пераразаюць гэты падраён.

Самастойнае рынечнае значэньне ральніцтва ня дужа высокае: раён мае пэўныя збажжавыя лішкі, якія пераважна ідуць на Менскі рынак і апроч таго дастаўляе значныя колькасьці бульбы крухмальным і сьпіртавым заводам. Валакняныя культуры маюць выключна натуральны характар; збываюцца толькі пэўныя колькасьці льнянога семя. Асноўнае прызначэньне ральніцтва—забесьпячэньне кормам высокаінтэнсыўных галін жывёлагадоўлі. Рынечная гадоўля сьвіней у раёне, асабліва ў Случчыне, дасягае найбольшых у Беларусі разьмераў. У Менскім падраёне здаўна існуе рынечная сьвежамалочная, а далей ад гораду масьляная продукцыя; у апошнія гады тут вырасла моцная малочная коопэрацыя (якой ахоплена ў некаторых адм. раёнах да 20% гаспадарак). Урэшце ў раёне і таксама найбольш у Случчыне разьвіта рынечная гадоўля завадзкіх коней (пераважна ардэнаў).

Да ўсяго гэтага трэба адзначыць павышаную агульную і земляробчую культурнасьць насяленьня (павышаны процант граматных сярод насяленьня, пашыранасьць палепшаных сельска-гаспадарчых прылад і машын, найбольшае развіцьцё прогрэсыўных культур і тэхнічных спосабаў). Тут мы знаходзім значную забясьпечанасьць капіталамі (паводле бюджэтных даных — звыш 100 р. асноўнага с. г. капіталу на 1 гасп.), што трэба лічыць вынікам экономічнае гісторыі гэтае старое земляробчае краіны. Тут-жа мы знаходзім узмоцненую дыфэрэнцыяцыю вёскі, вылучэньне поўкапіталістычных элемэнтаў, значны наём парабкоў, які ахапляе месцамі да 11% усіх гаспадарак. У раёне наймацней разьвіта буйное земляробства савецкіх гаспадарак, плошча засеву якіх мясцамі складае да 7% ад сялянскага засеву. Таксама ёсьць шэраг земляробчых комун. Наагул-жа колектывізацыя ў раёне адстае ад іншых раёнаў.

## СЫНТЭТЫЧНЫЯ С.-ГАСП. РАЁНЫ



**Сынтэтычныя сельска-гаспадарчыя раёны**

1. Ральніцтва

a. Пладазьменнае з бульбяным або льняным ухілам
b. Раёны занятага папару з бульбяным ухілам
c. Таварна-льняныя раёны; c′- тое-ж з бульбяным ухілам
d. Экстэнсыўная льняныя раёны
e. Канапляныя раёны
f. Таварна-бульбяныя раёны
f′. Бульбяныя раёны з льняным ухілам
g. Абложна-пярэстапалёвыя раёны
g′. тое-ж з бульбяным ухілам

2. Жывёлагадоўля

a. Інтэнсыўныя малочна-сьвінагадоўчыя раёны
a′. Тое-ж з конегадоўлей
b. Рыначныя малочна-птушніцкія
b′. Мясна-малочныя з рыначным птушніцтвам
c. рыначныя мясна-малочныя і сьвінагадоўчыя
c′ Тое-ж з конегадоўлей
d. Мясна-малочныя з экстэнсыўнай сьвінагадоўляй
e. Раёны з натуральным быдлам і рыначнай сьвінагадоўляй
f. Натуральныя папарна-гнаёвыя раёны
g. Раёны мясна-рабочага быдла і экстэнсыўнай сьвінагадоўлі

3. Неземляробчыя промыслы

a. Раёны мясцовых промыслаў
b. Раёны адходных (і мясцовых) промыслаў
c. Слаба-прамысловыя раёны

Продукцыйнасьць гаспадаркі тут найбольшая ў Беларусі: паводле бюджэтных даных да 150 руб· на 1 дзес., што таксама можна лічыць лішнім довадам інтэнсыўнасьці гэтае стараны.

ВГА. *Барысаўскі.* Раён палепшанай трохпалёўкі (заняты папар, лубін), з некаторым бульбяным ухілам; натуральная гнаёвая жывёлагадоўля; разьвітыя лясныя промыслы.

Бедныя пяшчаныя глебы ўздоўж Бярозы і дрэннае рыначнае палажэньне (звыш 60% тэррыторыі ляжыць далей 20 клм. ад чыгункі, што зьвязана з правядзеньнем тут саўсім штучнае мяжы польскае дзяржавы, якою значныя тэррыторыі паўночнай Барысаўшчыны адрэзаны ад бліжэйшай чыгункі) законсэрвавалі тут экстэнсыўныя формы гаспадаркі (на поўначы пераважае саха). Але з сумежнага Менскага раёну сюды заходзяць заняты папар, травасеяньне (траў 4,7%), лубін, якога на поўначы ёсьць да 7% і палепшаны інвэнтар. Наогул заходнія ўзьмежжы раёну маюць лепшыя глебы і больш інтэнсыўную гаспадарку.

Паводле пашыранасьці культуры лубіну паўночная і цэнтральная частка раёну займае адно з першых месц у Беларусі. На паўдні трохпалёўка захавалася больш, мясцамі нават счазае заняты папар. Гэта, магчыма, трэба паставіць у сувязь з асабліва моцна разьвітымі тутляснымі зарабкамі, якія даюць значны грашовы прыбытак--на гаспадарку да 73,8 руб. (у Сьвіслацкім адм. раёне) і відавочна конкуруюць з землеробствам.

Жывёлагадоўля натуральная і экстэнсыўная; толькі ля чыгункі і гарадоў (ля Барысаву) пачынаюць зьяўляцца малочныя арцелі, рыначнае сьвінарства і рыначнае птушніцтва. У вывазе фігуруюць амаль не выключна лясныя тавары; характэрных сельска-гаспадарчых продуктаў у вывазе вельмі мала—крыху бульбы (якая, аднак, займае тут наогул 13% засеўнай плошчы) і лёну, наогул тут натуральнага; магчыма, што ён трапляе сюды з сумежнага льнянага Халопеніцкага раёну.

Пералічаныя асаблівасьці раёну дазваляюць думаць, што ён у пэрспэктыве будзе разьвівацца паводле тыпу папярэдняга Менскага раёну. Таксама як у апошнім, на поўначы Барысаўскага раёну шмат гаспадарак з парабкамі (да 14,8% у Плешчаніцкім адм. раёне), але адначасна тут-жа на поўначы мы знаходзім вельмі многа (максымум) гаспадарак бяз рабочай жывёлы (да 22%), што прыпамінае сумежную з поўначы Полаччыну.

DEB. *Халопеніцкі.* Папарна-трохпалёвы раён таварнага льнярства з экстэнсыўнай жывёлагадоўляй.

Раён гэты мае больш зьвязныя глебы, але яшчэ горшае рыначнае палажэньне, чым Барысаўскі (да 80% тэррыторыі аддалена ад чыгункі больш як на 20 км.). Гэта стварае тут экстэнсыўны тып гаспадаркі—папарна трохпалёвае ральніцтва (26,2% ральлі пад чыстым папарам), амаль што без травасеяньня, бяз лубіну, з нізкой землеробчай тэхнікай (сохамі аруць 6—12% гаспадарак, каштоўнага інвэнтару мала) і зьніжанай продукцыйнасьцю. Збажжавыя займаюць 79% засеўнай плошчы але маюць толькі натуральнае прызначэньне. Затое раён мае выразны таварна-льняны ўхіл. Лён займае 4,1% зас. плошчы, вывозіць валакно і семя. Аб разьмерах льнянай культуры можна меркаваць паводле таго, што ў 1927 г. закантрактавана 1336 га лёну на валакно; з гэтага боку раёну належыць 5-е месца ў БССР.

У раёне шмат лугоў і гэта дазваляе часамі вывозіць сена. Жывёлагадоўля-ж тут экстэнсыўная, натуральная, найбольш гнаёвая. Апошнімі часамі ў поўднёвай частцы раёну разьвіваецца контрактацыя бэконных сьвіней. Мясцовыя неземляробчыя промыслы разьвіты слаба, але ў паўночна-ўсходняй частцы раёну (Чашнікі, Чарэя) разьвіты адыходныя промыслы. У паўночна-заходняй часьці раёну (Лепель, Вушач) асабліва шмат бясконных гаспадарак (да 22%). Граматнасьць зьніжаная ў параўнаньні з сумежнымі раёнамі (апроч Барысаўскага).

Гэта глухі і адсталы раён мала зьвяртае на сябе ўвагі, бо падзелены паміж чатырох акруг—Полацкай, Віцебскай, Аршанскай і Менскай. Тым часам тут, можна лічыць, ляжыць асяродак культурна-гаспадарчых перажыткаў, кшталтам трохпалёўкі, змаганьне з якімі тут магло-б даць найбольшы эфэкт.

САВ. *Полацкі.* Т р а в а п о л ь н а - л ь н я н ы, с л а б а м а л о ч н ы з р а з ь в і т ы м і н е з е м л я р о б ч ы м і п р о м ы с л а м і.

Ральніцтва захавала тут шмат папару (25,5%), але разам з тым разьвіваецца значнае травасеяньне (9,2% траў у засеве), у якім на ўсходзе першую ролю іграе віка (да 7,8%), на захадзе больш канюшыны (да 8% у Валынецкім адм. раёне). Наогул паводле свае прыроды і экономікі раён лёгка можа быць падзелены на 2 падраёны. Заходні падраён (Д р ы с е н с к і) з цяжкімі глебамі (лёэсаватымі і морэннымі суглінкамі) рэзка вылучаецца сваім таварным льнярствам. Лёну тут да 16% у засеве (Дрысенскі адм. раён), праводзіцца вялікая контрактацыя [1]), загатоўка і вываз льнянага валакна. На ўсходзе глебы больш лёгкія, а рынкавае палажэньне лепшае, бо бліжэй г. Полацак і праходзіць цэлы шэраг чыгунак, якія зьвязваюць раён з Віцебскам, Ленінградам і інш. буйнымі цэнтрамі. Тут таварнага лёну менш, а ля самага Полацку і на паўдня ад яго—лён толькі натуральны і гаспадарка прыймае інтэнсыўна-жывёлаводны ўхіл: да 6% гаспадарак ахоплена малочнай коопэрацыяй, ёсьць прыметы таварнае сьвінагадоулі бульба займае да 13% зас. плошчы, што на поўначы Беларусі спатыкаецца ня часта. Аднак і тут ёсьць гнёзды таварнага льнярства (ля Вулы), выпадкі-ж заніканьня таварнага льнярства ў блізкасьці гарадзкіх рынкаў мы пабачым і далей (ля Віцебску, Воршы). Гэта і дазваляе нам аб'яднаць абодвы падраёны ў адзін Полацкі раён.

Тэхніка ральніцтва ў раёне нявысокая. Сохамі арэ да 4-5% гаспадарак, каштоўнага інвэнтару мала, ураджайнасьць жыта мінімальная (31 п. з га). На базе травасеяньня і багацьця на лугі разьвіваецца ў цэнтры і на ўсходзе малочная жывёлагадоўля, гадоўля сьвіней. Раён аднак маласьвінны, па ўзьмежжах з значным гадаваньнем маладняку. Лясісты паўночны ўсход раёну мае шмат промыслаў, наогул-жа з усяго раёну, апроч паўднёва-заходняга яго краю існуе значны адыход у заробкі на старану—перадусім у Ленінград (у паасобных адм. раёнах звыш 13 чалавек адыходнікаў на 100 гаспадарак). Характэрны малюнак уяўляюць з сябе соцыяльна-экономічныя адносіны раёну. Тут асабліва шмат бясконных і наогул бядняцкіх гаспадарак, што наогул адпавядае нізкай продукцыйнасьці глебы. Але побач з гэтым мы тут-жа знаходзім значны наём батракоў (да 11% гаспадарак з наймам у Валынецкім адм. раёне), у некаторых частках раёну і значную забясьпечанасьць зямлёю і капіталам. Усё гэта сьведчыць аб значнай дыфэ-

---

[1]) Па ўсім раёне контрактацыя дала ў 1927 г. максымальную па БССР лічбу — да 6.000 га.

рэнцыяцыі сялянства, якую ізноў-жа нельга не паставіць у сувязь з моцным разьвіцьцём таварнага земляробства, як гэта ўжо даўно адзначалася для старых льняных раёнаў Расіі.[1])

ССВ Гарадоцкі. Травапольна-льняны, мясна-малочны раён з разьвітымі адыходнымі промысламі. Раён мае даволі многа зьвязных, моцна ападзоленых глеб (пераважна морэнныя суглінкі), але даволі далёка ляжыць ад гарадоў, а паасобныя яго часткі і ад чыгунак. Ральніцтва тут перахавала найбольшы процант папару (26,5), але побач з тым мы знаходзім і значнае травасеяньне (9,1%). Паводле разьвіцьця рыначнага льнярства раёну належыць адно з першых месц у БССР. Контрактацыя лёну на валакно дасягнула ў 1927 г. 4350 га, вываз валакна на суму 363 тыс. руб. Раён багаты на сенажаці, як і ўся морэнная краіна. Гэта дазваляе разьвіцца значнай рыначнай мясной жывёлагадоўлі з найбольшым у Беларусі вывазам мяса (на 788 т. р.). Да вайны існаваў значны вываз адгэтуль сьвіного сала і сьвініны (у 1911-13 г. па 250 тон у год), у сучаснасьці вываз сьвініны меншы. Лічбы веснавых роспытаў характарызуюць раён, як адзін з найбольш маласьвінных, але з параўнаўча скорасьпелым сьвіным стадам. Зьвяртае на сябе ўвагу некалькі павялічаная адносная колькасьць цялят да 1 году, што дазваляе спадзявацца іх спэцыяльнай гадоўлі для рынку. Побач з гэтым разьвіваецца малочная коопэрацыя—у паасобных адм. раёнах яна ахапляе звыш 6% гаспадарак; можна думаць, што пэрспэктывы яе тут неблагія. Гэта надае жывёлагадоўлі раёну характар мясна-малочны.

У некаторых частках раёну моцна разьвіты адыходныя промыслы (Езярышчанскі адм. раён мае 18,5 чал. на адыходных промыслах на 100 гасп.).

ААВ. *Віцебскі.* Пладазьменна-льняны, інтэнсыўна-жывёлаводны (малочны).

Раён ляжыць у бліжэйшых ваколіцах вялікага гораду (Віцебск — звыш 100 тыс. нас.) і выгодна зьвязаны з ім шляхамі зносін. Такое выгоднае рыначнае палажэньне, засланяючы сабою ўсе іншыя фактары (напр. глебы) утварае тут інтэнсыўнае пладазьменнае ральніцтва з моцна разьвітым рыначным льнярствам. Паводле вывазу валакна раён займае першае месца ў Беларусі (часткова, можа, коштам іншых сумежных раёнаў, у якіх вядзе загатоўкі Віцебск). З боку контрактацыі лёну раён ужо саступае першае месца іншым раёнам (2059 га ў 1927 г.).

Ня гледзячы на багацьце на сенажаці раён мае моцна разьвітае травасеяньне. Травы займаюць да 16,8% засеўнае плошчы, у тым ліку 9,5% пад шматгадовымі. Папар скарочаны ў параўнаньні з сумежнымі раёнамі (21% ральлі), хаця і не ў такой меры, як можна было-б спадзявацца. Правільныя шматпалёвыя севазвароты спатыкаюцца тут даволі часта; відаць, яны таксама пакідаюць значныя плошчы пад чыстым папарам. Бульбяная культура выяўлена даволі слаба (пад бульбай толькі 8,5% засеву), за тое шмат (найбольш у Беларусі) караняплодаў (1,7%).

Рыначнае льнярства сапраўды моцна выяўлена толькі на ўсходзе раёну (Лёзна), найбольш аддаленым ад Віцебску. У непасрэднай-жа блізасьці Віцебску гэтая галіна моцна сьціскаецца, урэшце занікае. На першы плян тут выступае малочная гаспадарка, разьлічаная, як на збыт сьвежага малака ў Віцебску, так і на збыт масла і сыру на больш далёкіх рынках. Апошні кірунак малачарства (масьляна-сырны) пашы-

[1]) Гл. у гэтай справе: Ленін. т. III стр. 225.


Сельска-гаспадарчыя раёны БССР 1927-28 году.
Промыслы
а Развітыя мясцовыя
в Развітыя адыходныя
с Слаба развітыя
CAB
C'AB
Палацак
CCB
Віцебск
AAB
DEB
BFA
FAB
Ворша
CAB
Менск
C'AC
Магілеў
AAC
EFB
Бабруйск
FBB
BCC
G'GA
Гомель
FBB
Мозыр
F DA
GGA
Ральніцтва
а Пладазьменнае
в З занятым папарам
cd Папарна-льнянае
е Папарна-канаплянае
f Папарна-бульбяное
д Абложна-пярэстапалёвае
g Рабоча мясная
Жывёлагадоўля
а Інтэнс. малочна-сьвінаводная
в Рынчна-малочная
в' Малочна-мясная
с Рыначная мясна-малочная
d Экстэнсыўная мясна-малочна-рабочая
е Натуральная гадоўля быдла, рыначная свінагадоўля
f Натуральная жывёлагадоўля

раны па ўсім раёне, уключаючы і яго ўсходнія ўзьмежжы. У раёне наймацней разьвіта малочная коопэрацыя, якою ахоплена наогул 15% усіх гаспадарак раёну; у паасобных мясцовасьцях гэты процант ахопу шмат большы. Склад стада быдла малочны (71% кароў у стадзе быдла); на ўсходзе раёну, аднак, у вывазе фігуруе як масла, так і мяса. Магчыма, што яно паходзіць з сумежных рэдказаселеных і лясных раёнаў. Сьвіньні ў раёне, большае, чым у суседнім, жывое вагі, збываюцца на Віцебскі рынак.

Тэхніка ральніцтва, капіталазабясьпечанасьць і продукцыйнасьць гаспадаркі стаіць у Віцебскім раёне высока. Тут мы знаходзім у значнай колькасьці палепшаны і каштоўны інвээнтар: арфы, сячкарні, малатарні мае да 20% гаспадарак. Разам з тым мы тут бачым і значную дыфэрэнцыяцыю вёскі. На агульным фоне малазасеўнай і часта бясконнай сялянскай гаспадаркі высіцца моцная заможная верхавіна, якая наймае парабкоў. Гаспадарак з наймам парабкоў ёсьць у паасобных частках раёну да 23% (найбольшыя разьмеры найму ў Беларусі). У той жа час да 17-18% бядняцкіх гаспадарак ня маюць рабочай жывёлы і відавочна прадаюць сваю рабочую сілу, як на месцы ў сельскай гаспадарцы заможнага сялянства, так і на старане на адыходных неземляробчых промыслах (6.3 чал. на 100 гасп.).

Культурны стан насяленьня, калі меркаваць паводле граматнасьці, высокі (граматных сярод насяленьня 43%, максымальны процант на БССР).

FAB *Талачынскі.* Папарна-травапольны таварна-бульбяны раён, мясцамі з разьвітым льнярствам. Малочная жывёлагадоўля.

Самы паўночны раён таварнае бульбы, якая контрактуецца ў значнай колькасьці (1838 га) мясцовымі крухмальнымі і сьпіртавымі заводамі. Аднак, у прапорцыі культур бульба займае ня вельмі віднае месца (11,0%). Раён зрэзаны чыгункамі (з Воршы яны разыходзяцца цяпер у 6 кірунках), але ляжыць даволі далёка ад вялікіх гарадоў. Глебы — пераважна багатыя лёэсавыя суглінкі. Ральніцтва захавала шмат чыстага папару (24,4%) і збажжавых культур (75,7%), але разам з тым мае значнае травасеяньне (7,4%), пры чым шматгадовыя травы пераважаюць; на поўначы раёну травасеяньне слабейшае, але там шмат сенажацяў. У заходняй часьці раёну (Талачын, Сянно) мацней разьвіта рынічнае льнярства. Контрактацыя лёну на валакно ў 1927 г. дала 1009 га, існуе значны вываз валакна (186,9 тыс. р.) і семя (на 134,7 тыс. р.).

Тэхніка ральніцтва і капіталазабясьпечанасьць вышэйшая, чым у сумежных трохпалёвых раёнах. На паўночным усходзе раёну даволі пашыраны і больш каштоўны інвэнтар.

Склад стада быдла — малочны, разьвіваецца малочная коопэрацыя ў паасобных адм. раёнах ёю ахоплена да 10% гаспадарак. У вывазе, аднак, значную ролю грае мяса (на 280 тыс. руб.). Магчыма, што быдла пераганяецца сюды з сумежных экстэнсыўных раёнаў. Сьвіньні познасьпелыя, нявысокай жывой вагі. Апошнімі часамі ў сувязі з пабудовай бэконнага заводу ў Воршы моцна разьвіваецца контрактацыя сьвіней.

Дыфэрэнцыяцыя сялянства, наём парабкоў, адыходныя промыслы выяўлены ў гэтым раёне слабей, чым у папярэдніх паўночных раёнах. Раён наогул пераважна земляробскі, малатаварны, сярэдне забясьпечаны сродкамі вытворчасьці. Моцна разьвіваецца тут колектывізацыя.

САС *Магілеўскі.* Папарна-травапольны, малочны з льняным і часткаю бульбяным ухілам.

Раён мае добрыя лёэсавыя глебы на ўсходзе, на пд. захадзе—супяскі. Рыначнае палажэньне даўгі час было неспагаднае; яно рэзка зьмянілася з правядзеньнем чыгунак. З гэтай мусіць прычыны тып гаспадаркі як быццам канчаткова не сформаваўся і не лёкалізаваўся. Папарная трохпалёўка (папару 23%) парушана разьвіцьцём адсеваў, мясцамі занятага папару і кармовых траў (7,9), сярод якіх на ўсходзе (у Амсьціслаўшчыне) пераважаюць аднагадовыя (віка). Лён займае 5,1% засеўнай плошчы і творыць некалькі моцных таварных падраёнаў (Ляды, Шклоў), у якіх ідзе контрактацыя (3174 га) і вываз валакна (на 242 тыс. руб.) і семя (216 тыс. руб.). Шмат семя ідзе на мясцовыя аляярні. На усходзе ідуць загатоўкі пянькі. Бульба ля Магілеву і ўздоўж чыгункі мае віднае значэньне (да 16%), далей ад чыгункі на ўсходзе толькі 6–8%. Контрактацыя (519 га) і вываз яе (30 т. р.), аднак значна меншыя, чым лёну на валакно.

Лугоў мала. Малочная жывёлагадоўля мясцамі, напр., ля гораду, моцна разьвіта (Лупалаўскі раён мае 18% коопэраваных гаспадарак). Праз станцыі раёну вывозіцца, аднак, шмат і мяса (218 тыс. рубл.) і быдла (на 74 т. р.). Матар'ялы для гэтага вывазу складаюцца бязумоўна ня толькі з бракоўнай жывёлы, яго дае і гадаваньне маладняку ў менш інтэнсыўных частках гэтага раёну і сумежных.

Тэхніка ральніцтва крыху падвышаная; у цэнты раёну даволі многа малатарань і арфаў. На ўсходзе ўсё-ж большая ўраджайнасьць, дзякуючы лепшым глебам. Наогул краіна земляробская. Промыслаў мала; наём парабкоў нязначны.

EFB. *Краснапольскі.* Папарна-трохпалёвы, канаплянальняны, з бульбяным ухілам, экстэнсыўнай гнаёвай жывёлагадоўляй і адыходнымі промысламі.

Раён займае ўсход Магілеўскае акругі. Глебавае акрыцьцё пярэстае. Астравы лепшых глеб чаргуюцца з значнымі прасторамі пяскоў. Рыначнае палажэньне благое. Звыш 60% тэрыторыі ляжыць далёка (>20 км.) ад чыгункі Ворша—Унеча, якая да таго-ж толькі нядаўна пачала функцыянаваць. Ральніцтва папарнае (папару 23,6%), трапляецца мясцамі і аблога; занятага папару мала, травасеяньне неразьвіта (пад травамі, пераважна аднагадовымі, толькі 3% засеву). Пад бульбай 12,3% плошчы засеву; праводзіцца значная контрактацыя яе для мясцовых сьпіртавых заводаў (970 га). Гэта паказвае на пэўны бульбяны ўхіл гаспадаркі. У сучаснасьці ўсё-ж большае значэньне належыць валакняным. Тут мы знаходзім максымальныя па БССР засевы канапель (у Кармянскім адм. раёне 3,5%), вядуцца значныя загатоўкі пянькі. Так, адзін толькі Касьцюковіцкі пункт Дзяржгандлю загатовіў у 1927-28 г.—122,8 тон пянькі дый ня менш пэўна загатавала і сельска-гаспадарчая коопэрацыя і інш. загатоўцы. Апроч таго мясцамі сеюць шмат і лёну (да 5% і больш) і вывозяць валакно і семя. Усяго валакна канаплянага і льнянага вывезена на 303 тыс. р. і семя на 220 т. р. Апроч таго значны вываз гэтых тавараў з раёну ідзе праз станцыі сумежных раёнаў.

Жывёлагадоўля экстэнсыўная. У стадзе быдла шмат ялавіц (да 12%), шмат авечак; вывозіцца некаторыя колькасьць мяса (на 54 т. р.). У паўночна-ўсходняй часьці раёну ля Крычаву разьвіваецца малочная коопэрацыя (ахоплена там ёю звыш 5% гаспадарак); у іншых частках раёну гэты рух саўсім слабы.

Тэхніка земляробства адсталая, капіталазабясьпечанасьць слабая. Продукцыйнасьць жывёлы нізкая. Ураджай жыта ніжэй 40 пуд. на

дзес. Наём парабкоў нязначны; бясконных гаспадарак мала. Шмат якія серадняцкія гаспадаркі маюць па два кані. Вельмі моцна разьвіты адыход на заработкі на старану (да 13 чал. на 100 гасп. у Хоцімскім і Краснапольскім раёнах), пераважна ў капальні Донбасу. Культурны стан насяленьня нізкі, граматнасьць ледзь дасягае 30--35%. На ўсходзе раёну, аднак, узмоцнена разьвіваецца колектывізацыя. (Клімавіцкі адм. раён-з гэтага боку займае ў БССР першае месца).

FВВ. *Гомельскі*. Таварна-бульбяны папарны раён, мясцамі з льняным ухілам, з малочнай і малочна-мясной жывёлагадоўляй і адыходнымі промысламі.

Раён перасякаюць даліны некалькіх вялікіх рэк (Дняпро, Сож, Бяроза, Іпуць, Беседзь), уздоўж якіх ляжаць багатыя заліўныя лугі. Глебавае акрыцьцё даволі пярэстае. Мясьціны з ураджайнай сугліністай глебай і густым насяленьнем чаргуюцца з рэдказаселенымі пяшчанымі прасторамі, пакрытымі лесам, і з сенажацямі. Тып гаспадаркі ў гэтых мясьцінах будзе пэўне ж розны — ў першым выпадку больш земляробскі, у другім — жывёлаводны, аднак, вылучэньне адпаведных гэтым тыпам дробных раёнаў справа далейшых прац і спэцыяльных дасьледваньняў. Зараз-жа мы злучаем гэтыя прасторы ў адзін раён, грунтуючыся на нашых асноўных меркаваньнях, на тым значэньні, якое мы надаем рыначнай спэцыялізацыі.

Рознастайнасьць прыродных умоў у Гомельшчыне нівэліруецца ў значнай меры магутным уплывам рынку. Сам Гомель зьяўляецца буйным рынкам і актыўным гандлёвым асяродкам. Увесь раён праразаюць чыгункі, рэкі, шосы, пры якіх павырасталі значныя паселішчы гарадзкога тыпу. Усё гэта стварае спагадныя рыначныя ўмовы для сельскай гаспадаркі раёну[1]) і дапамагае яе таварнай спэцыялізацыі. Асноўным продуктам збыту зьяўляецца бульба, засевы якой дасягаюць 21% агульнай засеўнай плошчы (максымум у Беларусі). Праводзіцца значная контрактацыя бульбы (1200 га), шмат бульбы (сталовай) вывозіцца па чыгунцы на далёкія рынкі, шмат яе збываецца ў мясцовых гарадох і йдзе ў корм жывёле. Гэтае значэньне культуры бульбы зьяўляецца найбольш характэрнай адзнакай земляробства раёну. Апроч таго ў паасобных мясьцінах разьвіваецца таварнае льнярства — на паўднёвым усходзе найбольш продукцыя валакна, на паўночным захадзе — льнянага семя, якое збываецца на мясцовыя аляярні і вывозіцца (вываз семя на 65 т. р., контрактацыя на семя 2174 га, вываз валакна з раёну на 228 т. р., контрактацыя на валакно 700 га).

Ня гледзячы на значную таварнасьць, ральніцтва захавала трохпалёвую форму з чыстым папаром (24,6% ральлі), пачаткамі травасеяньня (3,3%) і культуры лубіну. Тэхніка і продукцыйнасьць ральніцтва астаюцца нізкімі. Гэта тым больш дзіўна, што значная частка раёну ўжо даўно земляўпарадкавана.

Жывёлагадоўля не адзначаецца вялікай інтэнсыўнасьцю. Тольк ля гарадоў — Гомлю, Бабруйску і інш. і ў некаторых іншых частках раёну (Уваравіцкі адм. раён) разьвіваецца рыначная малочная гаспадарка; тут малочная коопэрацыя ахапіла звыш 8% насяленьня; у рэшце раёну гэты процант ня вышэй 3, а на паўночных узьмежжах (Быхаўшчына) ёсьць значныя прасторы саўсім ня ахопленыя малочнай коопэ-

[1]) Згодна бюджэтных даных ЦСУ іменна тут дасягаецца найвышэйшая рыначнасьць ральніцтва.

рацыяй, што да пэўнай меры тлумачыцца пераважна мясным тыпам жывёлагадоўлі. Якраз з Быхаўшчыны вывозіцца па чыгунках шмат мяса і продукт гэты па сваёй вартасьці пераваже ў вывазе. Таксама мясныя і малочна-мясныя мясцовасьці можна вылучыць і ў іншых частках раёну (Буда-Кашалёўскі адм. раён, поўдзень Гомельскага адм. раёну і г. д.). Наяўнасьць іх тлумачыцца добрай забясьпечанасьцю сенажацямі і пашай у паасобных частках раёну. Гадоўля сьвіней пераважна экстэнсыўная, познасьпелая, але мясцамі — бліжэй да гораду і чыгунак разьвіваюцца і больш інтэнсыўныя формы гэтае галіны; да вайны вывозілася адгэтуль шмат жывога птаства (на 57 т. р. у 1913 г.), у сучаснасьці па гэтай галіне збыт яшчэ належна неарганізаваны.

Трэба яшчэ адзначыць моцнае разьвіцьцё ў раёне прамысловага садоўніцтва і значны вываз яблык. З іншых прадукгаў сельскай гаспадаркі вывозіцца даволі многа сена.

Густое насяленьне раёну (у некаторых яго частках да 80 чал. на кв. км.) значна адцягнута ў неземляробчыя промыслы — часткаю мясцовыя кустарныя промыслы або заробкі у лесе, а часткаю адыходныя промыслы. Апошнія асабліва моцна разьвіты ў Веткаўскім, Церахоўскім і Рагачэўскім адм. раёнах; ў першым, напр., у заробкі ходзіць 26 чал. на 100 гасп.

Каштоўнага інвэнтару ў сялянскіх гаспадарках параўнаўча мала. Наём парабкоў паводле данных 1927 году слаба разьвіты.[1]) Некаторыя адм. раёны маюць даволі многа бясконных гаспадарак (Жлобін, Бабруйск), іншыя, наадварот, забясьпечаны коньмі шмат вышэй сярэдняга ўзроўню.

F'DA. *Рэчыцкі.* Папарна-збажжавы з бульбяным і мясцамі льняным ухілам. Многаскацінны з мясным быдлам. Лясныя промыслы.

Раён займае ўсходнюю частку палескае катлíны і мае прыродныя ўмовы пераходнага характару паміж Прыпяцкім Палесьсем і Гомельшчынай. На асноўным фоне пяшчанага і балотнага Палесься тут, як і ў Гомельшчыне, вырысоўваюцца абшырныя густазаселеныя астравы суглінкаў. Такім востравам зьяўляецца ўраджайная Брагіншчына, Засьпенска-Холмецкая паласа ўздоўж правага берагу Дняпра і інш. Гэтыя густазаселеныя вастравы надаюць характар усяму раёну: у іх жыве пераважная большасьць насяленьня, яны у значнай меры эксплёатуюць і палескія прасторы: там ляжаць іхнія сенажаці, а іншы раз і пасьвішчы. У значнай часьці раёну складаюцца даволі спагадныя ўмовы для гаспадаркі: ральніцтва на ўраджайным суглінку і жывёлагадоўля на базе абшырных частцай заліўных, частцай балацяных сенажацяў. Менш спагадныя рыначныя умовы. Вялікіх гарадоў тут няма. Значная частка раёну ляжыць далёка ад чыгунак; тыя чыгункі, што ёсьць, пабудаваны нядаўна і не пасьпелі разьвіць значнага грузазвароту, таксама не выкарыстоўваецца ў належнай меры і рэчны транспарт. У выніку ўсіх гэтых умоў у раёне пераважна захавалася папарная збажжавая гаспадарка. Чысты папар займае да 29% ральлі. А ў палескіх мясьцінах з пяшчанай глебай мы спатыкаем многа аблогі і часта тыповую аблажна-пярэстапалёвую гаспадарку. Травасеяньне нязначнае (3,3%) пераважна на земляўпарадкаваных плошчах. Лубіну амаль што ня сеюць. Судзячы паводле вывазу і контрактацыі

---

[1]) Магчыма, аднак, што гэтая зьява належна не адбілася ў матар'ялах веснавых роспытаў, дзякуючы ня зусім правільнаму выбару аб'ектаў для апісаньня.

значную ролю іграе тут культура збожжа, якая нярэдка мае рыначны характар. Але найбольш характэрная роль у засеве належыць бульбе, якая займае 20,2%; контрактацыя яе, аднак, разьвіта слаба (у 1927-8 годзе толькі 156 га); таксама і разьмеры вывазу не адпавядаюць ролі бульбы у засеве. Тлумачыцца нізкая тарварнасьць бульбы пераважна слабым разьвіцьцём бульбаапрацоўчай прамысловасьці, моцна прадстаўленай тут да вайны сьпіртовымі бравaрамі. У сучаснасьці тут будуюцца два вялікіх крухмальных заводы.

Гадоўля быдла носіць пераважна мясны, або мясна-малочны характар. Быдла тут трымаюць шмат, мясцамі трымаюць і рабочых валоў, якіх пасьля некалькі год работы прадаюць на мяса. Вываз мяса дасягае 69 т. р. быдла 17 т. р. Апошнімі часамі разьвіваецца тут патроху і малочная коопэрацыя. Яна ахапляе пакуль што толькі 1,3% гаспадарак. Мясцамі спатыкаецца рыначная сьвінагадоўля (ля Холмечу), наогул жа гэтая галіна мае тут экстэнсыўны і натуральны характар. У раёне моцна разьвіты мясцовыя лясныя промыслы. Адыходныя промыслы, наадварот, выяўлены слаба.

ВС'С *Глускі*. Інтэнсыўна-жывёлаводны раён з мясна-малочным быдлам, рыначнай сьвінагадоўляй і конегадоўляй. Малапапарнае ральніцтва бульбянога кірунку.

Раён займае прасторы верхняга або Пцічанскага Палесься. Уздоўж рэк і на вялікіх вадападзельных балотах тут шмат сенажацяў. Балотнае сена разам з бульбаю, якая іграе тут значную ролю ў ральніцтве (займае 18,7% засеву) зьяўляецца асноўнай базай жывёлагадоўлі. Глебы раёну пераважна лёгкія і бедныя, рыначная палажэньне благое; толькі на поўначы і паўночным усходзе праходзяць дзьве чыгуначныя галіны ды шоса; на паўдні і паўднёвым захадзе ня рэдкасьць мясьціны, аддаленыя ад чыгункі звыш 90—100 клм. Усё-ж блізасьць інтэнсыўнага Менска-Слуцкага раёну і беспасярэдная з ім сувязь праз колёнізацыйны паток, які адтуль накіроўваўся ўвесь час у Пцічанскае Палесьсе, праз заўсёдны абмен прадуктамі — ляснымі і лугавымі з аднаго боку, земляробчымі з другога, спрыяла падвышэньню гаспадарчай тэхнікі і укараненьню некаторых прогрэсыўных зьяў. Так тут мы знаходзім толькі 16,5% чыстага папару. Аблогі даныя веснавых роспытаў паказваюць мала (3,5% за 1928 г., а ў папярэднія гады крыху больш [1]) таксама мала і занятага папару. У раёне побач з звычайнай пашырана беспапарная 3-х палёўка (азімая і дзьве яравыя зьмены), мясцамі 2-хпалёўка. Кармовыя травы пашыраны слаба (пад імі 2,0% ад засеву). Мясцамі сеюць шмат лубіну — па раёне ён займае 2,2% усяе ральлі.

У жывёлагадоўлі мы таксама бачым значныя зрушэньні. Экстэнсыўны мясны кірунак гадоўлі быдла, з гадаваньнем валоў і звышрамонтнага маладняку, складае і цяпер пераважную частку вывазу (праз станцыі раёну вывезена ў 1926/27 г. мяса на 32 т. р., быдла на 81 т. р.; ня менш, пэўне, прайшло праз станцыі сумежных раёнаў — асабліва праз Слуцак і Бабруйск). Аднак, побач з ім шыбка разьвіваецца малочная коопэрацыя; у паасобных раёнах яна дасягае значных лічбаў (у Парыцкім адм. рнёне ахоплена ёю 13,3% гаспадарак). У заходняй палавіне раёну разьвіта рыначная сьвінагадоўля; мясцамі павялічаная да рыначных памераў гадоўля конскага маладняку (да 28% маладняку старэй 1 году адносна рабочых коняй). Наогул-жа жывёлы тут шмат, і

[1]) Таксама большыя лічбы аблогі для гэтага раёну дае і досьлед экспэдыцыі вывучэньня экономікі мэліорацый: па ўсходняй частцы 17,1% ральлі, па заходняй 14,7%. Мат. экспэдыцыі для вывучэньня экономікі мэліорацый на Беларусі. Вып. 2.

гэта дазваляе мацней гнаіць зямлю, абыходзячыся пры гэтым без папару.

На рынак паступаюць пераважна продукты жывёлагадоўлі. Рыначнасьць бульбы нізкая. Контрактацыя яе мала разьвіта (усяго 199 га) і вельмі мала яе адгэтуль вывозяць па чыгунцы (на 8 тыс. руб.). Неземляробчыя промыслы мацнейшыя на ўсходзе і слабейшыя на захадзе. Гаспадарак з наймам парабкоў многа на захадзе (Старобінскі адм. раён звыш 8%). Заходняя-ж частка раёну найбольш забясьпечана і каштоўнымі сродкамі вытворчасьці. Пры агульнай многаскацiннасьці некаторыя адм. раёны (Стара-Дароскі) маюць высокі % бясконных (16,0% усіх гаспадарак).

GGA. *Мазырскі.* Экстэнсыўна-жывёлаводны з рыначным мясна-рабочым быдлам. Ральніцтва абложна-пярэстапалёвае. Моцна разьвітыя лясныя промыслы.

Раён займае моцназабалочную і рэдказаселеную нізіну Прыпяцкага Палесься. Ральля раскідана па пяшчаных палянах паміж лясоў і балот на значных нярэдка адлегласьцях ад вёскі. Шмат балотных сенажацяў нявысокай якасьці і абшырныя звычайна пасьвішчы дазваляюць трымаць шмат жывёлы. Аднак, бедныя глебы і надзвычайна неспагадныя рыначныя ўмовы, выкліканыя аддаленасьцю ад гарадоў, рэдкасьцю чыгуначнай сеткі і благімі грунтовымі дарогамі ствараюць тут найбольш экстэнсыўны ў Беларусі тып гаспадаркі з агуловай продукцыяй 70—80 р. на гэктар і асноўным вытворчым капіталам 65—70 р. на дзес. Асноўнай рыначнай галіной зьяўляецца гадоўля мяснога і рабочага быдла. Валы складаюць значную частку стада быдла (18,9%) і звычайна зьяўляюцца галоўнай рабочай жывёлай; пакрысе, аднак, валоў выцесьняюць коні. Малочная коопэрацыя разьвіта слаба і пераважна ў блізкіх да рынкаў або чыгункі мясцох. Сьвіньні познасьпелыя (у стадзе 41% сьвіней старэй 1 году), усё лета праводзяць на пасьвішчах, нярэдка бяз усякага догляду.

Значны лік жывёлы дазваляе інтэнсыўна гнаіць зямлю. У сувязі з гэтым на бліжэйшых да вёскі кавалках зямлі вядзецца беспапарнае пярэстапалёвае ральніцтва з частым і моцным гнаеньнем. На далёкіх палянах, куды вазіць гной неаплатна нават зімою, вядзецца абложная гаспадарка з засевамі жыта і грэчкі і шматгадовай аблогаю. Аблогі ў раёне 32,1%. Папар спатыкаецца толькі як выключэньне і на ўзьмежжах раёну. Травасеяньне пашыраецца вельмі слаба (пад травамі 0,7%), культура лубіну — таксама займае толькі 0,2% ральлі. Культура бульбы ў паўночнай частцы моцна пашырана (да 18% ральлі); на паўдня ад Прыпяці бульбы менш 10%. Тут пануе збажжавая гаспадарка з перавагай засеву жыта, грэчкі і проса.

Тэхніка ральніцтва ў раёне наогул нявысокая; адпаведна ёй нізкая продукцыйнасьць. Капіталазабясьпечанасьць вышэй на паўночным захадзе. Тут-жа мы знаходзім даволі значны % гаспадарак з наймам парабкоў. Асабліва значны наём парабкоў адзначаны на паўднёвым усходзе (Камарынскі раён). У раёне моцна разьвіты лясныя промыслы; яны даюць значны грашовы прыбытак (напр. у Тураўскім раёне—83 р. на 1 гасп.). Наогул грашовы прыбытак сялянскай гаспадаркі ў гэтым раёне складаецца амаль не выключна з сум ад продажу быдла і ад заробкаў. Усе іншыя галіны захоўваюць натуральны характар.

---

Канчаючы на гэтым характарыстыку вылучаных намі сельскагаспадарчых раёнаў, мы павінны былі-б на завяршэньне даць балянс

сельска-гаспадарчай продукцыі па кожным з іх. Паколькі, аднак, схэма нашых раёнаў канчаткова ўстаноўленай ня можа лічыцца, рабіць складаныя балянсавыя разрахункі было-б немэтазгодна. Усё-ж для атрыманьня некаторага агульнага ўражаньня аб характары і меры спэцыялізацыі раёнаў мы даем на далучанай картадыяграме разьмяшчэньне вывазу па чыгунках галоўных продуктаў сельскай гаспадаркі ў валёрыстычным выражэньні за 1926-27 год. Гэтая картадыяграма пацьвярджае і ілюструе нашыя характарыстыкі. Мы бачым перад усім на поўначы і слабей на ўсходзе раёны таварнага валакна. Па лініі Дняпра разьмяшчаюцца раёны таварнае бульбы. Паўднёвы захад вывозіць мяса і быдла. Таксама вялікі вываз мяса мы бачым у Гарадоцкім раёне. Меншыя, але ўсё-ж досьць значныя колькасьці вывазу мяса можна, заўважыць бязмала па ўсіх іншых раёнах, апрача паўночна-заходняга. Мы, аднак, ведаем адну з прычын такога расьсеяньня гэтага продукту—высокую транспортабельнасьць жывога быдла. Перавозкі малака і малочных продуктаў, а таксама сьвіней у 1926 годзе, відаць ня былі яшчэ значнымі. Дзякуючы адсутнасьці гэтых галін інтэнсыўнай жывёлагадоўлі, а таксама наяўнасьці моцнага Менскага рынку, які забірае значныя колькасьці сельска-гаспадарчых продуктаў, заходнія раёны выглядаюць малатаварнымі.

Вываз збожжа мы знаходзім у Магілеўшчыне, Калініншчыне, Меншчыне—у невялікіх адносна разьмерах і асабліва вялікі ў Гомельшчыне. Намі, аднак, высьветлена на месцы, што гэты вываз таксама, як часткаю і вываз быдла з пд-усходняй Гомельшчыны трэба лічыць зьявай выпадковай—продукты гэтыя ідуць гужом з Украіны пад уплывам розьніцы ў цэнах і толькі адпраўляюцца з станцый Гомельшчыны. Сама-ж па сабе Гомель-шчына збожжа ня вывозіць і ў значнай меры спажывае прывозны хлеб.

## АСНОЎНЫЯ ГЕОГРАФІЧНЫЯ ТЫПЫ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ БССР.

Складанасьць і рознастайнасьць мясцовых умоў утварае на прасторах Беларусі шэраг сельска-гаспадарчых раёнаў і кожны з іх мае сваё выразнае аблічча. Часамі, аднак, мы спатыкаем больш ці менш падобныя раёны тэрыторыяльна разьдзеленыя між сабою раёнам іншага характару. З другога боку для лепшага выясненьня асноўных прынцыпаў разьмяшчэньня сельскай гаспадаркі Беларусі можа быць карысным аб'яднаньне нават сумежных раёнаў у комплексы вышэйшага парадку. З гэтымі мэтамі пастараемся падагуліць сказанае вышэй аб паасобных раёнах і вылучыць у іх характарныя рысы, супольныя для цэлых іхніх груп. Выходзячы з нашых мэтодолёгічных перадпасылак мы вылучаем пяць наступных тыпаў.

### А. Інтэнсыўна-жывёлаводны, пладазьменны (аа).

Разьвіваецца пераважна ў бліжэйшых ваколіцах буйных рынкаў, а таксама ў найбольш ураджайных і густазаселеных раёнах з старой землеробчай культурай, наогул у раёнах з спагаднымі прыроднымі і экономічнымі ўмовамі. Да рэволюцыі тут наймацней разьвівалася таварная і капіталістычная гаспадарка; сьляды гэтага разьвіцьця засталіся да нашага часу між іншым у павышаных разьмерах найму парабкоў. Тут мы знаходзім высокую капіталазабясьпечанасьць гаспадарак, высокую продукцыйнасьць зямлі і працы.

Аснова таварнай спэцыялізацыі — інтэнсыўная жывёлагадоўля. Звычайна мы спатыкаем тут або рыначную сьвежамалочную продукцыю, або моцна разьвітую масьляную і сырную продукцыю шырока ахопленыя малочнай коопэрацыяй. Побач з малачарствам або нават наперадзе яго выступае звычайна і рыначная інтэнсыўная сьвінагадоўля.

Ральніцтва звычайна самастойнае таварнэ ролі ня іграе, або ў кожным разе відавочна яе траціць. Яго задача-забясьпечыць кормам інтэнсыўную рыначную жывёлагадоўлю самой гаспадаркі. З гэтай прычыны мы знаходзім тут заўсёды падвышаныя ў параўнаньні з сумежнымі раёнамі разьмеры культуры бульбы і караньплодаў, узмоцненае травасеяньне і адпаведна гэтаму зьніжэньне ўдзелу збожжавых у засеве, скарачэньне чыстага папару. Ральніцтва пад гарадамі носіць адзнакі вольнае сыстэмы, а крыху далей, дзе ўжо нельга карыстацца гарадзкімі ўгнаеньнямі,—яно набліжаецца да плодазьменнае сыстэмы паводле суадносін культур і мэтавае ўстаноўкі ўсяе гаспадаркі. Не заўсёды, аднак, мы знаходзім тут правільныя пладазьменныя севазвароты (шматпалёўку)—гэткія мы можем пабачыць пераважна ў буйных

# ВЫВАЗ ГАЛОЎНЫХ СЕЛЬСКА-ГАСПАД. ПРАДУКТАЎ У 1926-7 Г.
## ПА С.-ГАСП. РАЁНАХ.




*МАШТАБ: 1 мм вышыні слупка = 75 руб. у пераліку на 1000 насельнікаў.*

(каляктыўных і савецкіх) гаспадарках і земляўпарадкаваных вёсках. У іншых-жа паселішчах вельмі часта тут захоўваецца трохпалёвы падзел ральлі і на фоне яго шляхам скарачэньня або поўнага зьнішчэньня папару разгортваецца пладазьменнае ральніцтва.

Гэты тып гаспадаркі ўтвараецца на месцы розностайных іншых тыпаў (напр. на месцы папарнае збажжавое гаспадаркі, на месцы льнянай або бульбяной трохпалёўкі і інш.) пераважна пад уплывам асабліва спагадных рынычных умоў. З ростам гарадоў і прамысловасьці пашыранасьць яго павінна ўзрастаць.

## Б. Льняна-малочны, папарна-травапольны тып (ca,cc).

Спатыкаецца гэты тып пераважна на суглінках, радзей на супясках, найчасьцей добра забясьпечаных сухімі сенажацямі, у пэўным аддаленьні ад буйных гарадоў. Асноўны продукт, які выкідваецца адгэтуль на рынак—льнянае валакно, можа вытрымаць далёкую перавозку, дзякуючы сваей транспортабельнасьці. У адпаведнасьці, аднак, з экономічнымі ўмовамі таварны лён можа спатыкацца пры розных сыстэмах ральніцтва. У найбольш адсталых і рэдка заселеных мясцовасьцях лён сеюць на аблогах, якія тут утварыліся ў выніку крызісу збажжавое гаспадаркі, або на развораных сухіх сенажацях. Такога тыпу льняных раёнаў у Беларусі цяпер ня шмат. Найбольш пашыранай у нас комбінацыяй будзе таварны лён у яравой зьмяне трохпалёўкі і пакрысе пашыраецца льнярства з правільнымі травапольнымі севазваротамі, дзе лёну адводзіцца месца на канюшынішчы.

У кожным разе ў льняных раёнах мы звычайна сустракаем даволі значнае травасеяньне, якое ў сваю чаргу побач з прыроднымі сенажацямі служыць базай для малочнай жывёлагадоўлі. Звычайна тут разьвіваецца і малочная коопэрацыя, якая збывае значныя колькасьці масла. Адначасна з малочным кірункам жывёлагадоўлі мы бачым тут гадаваньне і адкорм мясной жывёлы, пераважна маладняку, а таксама і рыначную сьвінагадоўлю.

Льняныя раёны разьвіваюцца ў Беларусі на месцы трохпалёўкі, пры чым лён і травы выцясьняюць збожжа з палёў, набліжаючы сыстэму ральніцтва да льнянага травапольля. Аднак, і тут правільныя травапольныя севазвароты спатыкаюцца ня вельмі часта, найчасьцей-жа прыходзіцца спатыкацца з льнянай трохпалёўкай, у якой да таго-ж плошча чыстага папару вельмі мала скарочана і ён складае часамі да 30% ральлі (Ляднянскі адм. раён 30,9%). З палепшаньнем рынычных умоў лён прымушаны лічыцца з конкурэнцыяй бульбы і інтэнсыўнай жывёлагадоўлі і пры набліжэньні да гарадоў саступае месца гэтым сваім конкурэнтам, пры чым гаспадарка пачынае набліжацца да першага тыпу.

Льняна-малочны тып дастаўляе адзін з важнейшых відаў сыравіны для тэкстыльнай прамысловасьці (а часткова і для харчовай) і для экспорту; з гэтай прычыны ён пасьля правядзеньня неабходнай рацыяналізацыі павінен у пэрспэктыве заняць даволі значнае месца ў колектывізаванай гаспадарцы БССР.

## В. Бульбяны, малочны-мясны кірунак (fa,fb,bc).

Уласьцівы штандорт гэтага тыпу: лёгкія, але ня лішне бедныя глебы, даволі густое насяленьне, добрыя шляхі зносін і наяўнасьць

блізкіх рынкаў збыту—бульбаапрацоўчае індустрыі або гарадзкога рынку. Падобныя ўмовы мы знаходзім на паўднёвым усходзе БССР. Там жа сконцэнтраваны і раёны гэтага тыпу.

Значэньне гэтых умоў выплывае з характару бульбы як малатранспартабельнага продукту, якому патрэбен блізкі рынак і добрыя шляхі. Густое насяленьне патрэбна як дастаўца рабочае сілы, якое на бульбу ідзе шмат. Таварная бульба, як і лён, можа зьяўляцца ў розных сыстэмах ральніцтва—ад абложна-пярэстапалёвай да плодазьменнай уключна. У беларускіх умовах тут найбольш пануе трохпалёўка з чыстым папарам амаль што нескарочаным. Але знаходзім мы бульбяныя раёны і ў рамках абложна-пярэстапалёвае сыстэмы. Там бульба займае цантральнае месца ў земляробстве і забірае амаль што ўвесь запас угнаеньня.

Бульба, аднак, зьяўляецца ня толькі рынкачным продуктам, але яшчэ ў большай меры кармовым. У сувязі з гэтым у бульбяных раёнах разьвіваецца на грунце бульбянога корму (або ля бравароў на грунце брагі), а таксама і сена з прыродных сенажацяў, якіх тут звычайна бывае даволі многа,—мясная жывёлагадоўля. Побач з ёю разгортваецца пакрысе і малачарства. У некаторых раёнах бульбянога кірунку жывёлагадоўля набывае выразны рынкачна-малочны характар з продукцыяй пераважна масла і сыру; тым ня менш гэтыя раёны вывозяць і значныя колькасьці мяса, а нават быдла. Разьвіваецца ў бульбяных раёнах і рынкачная сьвінагадоўля, але не заўсёды ў такіх разьмерах, як можна было-б спадзявацца па наяўнасьці бульбы,—спэцыяльнага сьвінога корму. Прычына гэтага—у недахваце концэнтраванага корму ў патрэбных для інтэнсыўнай сьвінагодоўлі колькасьцях.

Побач з бульбай нярэдка мы знаходзім і таварную культуру лёну або канапель, у выніку чаго ствараюцца раёны пераходнага характару ад бульбянога да валакнянага тыпу.

Травасеяньне звычайна разьвіваецца тут слабей, чым у папярэдніх тыпах. Гэта тлумачыцца лёгкасьцю глебы і параўнаўча добрай забясьпечанасьцю прыроднымі сенажацямі.

Нявысокая тэхніка земляробства і зьвязанае з ёй адноснае пералюдненьне патрабуюць шырэйшага разьвіцьця неземляробчых промыслаў. Звычайна мы іх тут і знаходзім або ў відзе мясцовых лясных заробкаў, або ў відзе адходных промыслаў. Высокая рынкачнасьць сялянскае гаспадаркі, створаная як продажам бульбы і продуктаў жывёлагадоўлі, так і паступленьнем у гаспадарку прыбытку ад заробкаў, відаць, мала павышае тэмп капіталанабіраньня. Грашовыя прыбыткі ідуць пераважна на пакрыцьцё асабістых патрэб і ў меншай меры адкладаюцца ў гаспадарцы ў відзе палепшанага і каштоўнага інвэнтару або жывёлы. Таксама тут слабей, чым у папярэдніх раёнах разьвіты адносіны найму на с. г. работы. Мясцамі даволі моцна разьвіваецца колектывізацыя. Наогул пры інтэнсыфікацыі свае гаспадаркі значная частка раёнаў Беларусі, трэба думаць, будзе разьвівацца паводле гэтага тыпу, дастаўляючы сыравіну для індустрыі, сталовую бульбу для гарадоў і шэраг продуктаў жывелагадоўлі.

### Г. Натуральны папарна-трохпалёвы тып з гнаёвым быдлам *(ef, bf)*

У найбольш далёкіх ад гарадоў і чыгункі раёнах, пры маласпагадных прыродных умовах і пры наяўнасьці неземляробчых заробкаў

захоўваюцца найбольш экстэнсыўныя і натуральныя гаспадарчыя формы. Пераважна мы спатыкаемся тут з папарнай трохпалёўкай у найбольш тыповым яе выглядзе. Для яе характэрна адсутнасьць занятага папару і травасеяньня і асабліва значны ўдзел збажжавых культур у засеве. Толькі разьвіцьцё бульбяной культуры на палявой зямлі адхінае гэты від трохпалёўкі ад чыстага папарна-збажжавога тыпу. Але як культура збожжа, так і культура бульбы звычайна мае чыста натуральнае прызначэньне. Жывёлагадоўля тут таксама экстэнсыўная і натуральная; яе асноўная роля — дастаўленьне гною ў гаспадарку, без якога немагчыма было-б атрымаць і тае нязначнае продукцыі збожжа і бульбы, якая ёсьць цяпер. Рынчнае адчужэньне ў гэтым тыпе колькасна нязначнае, але мае разнастайны і пераважна выпадковы характар. Яно складаецца з бракованага быдла, часамі пэўных колькасьцяй збожжа (якое пасьля ў часе патрэбы купляецца ізноў на рынку па вышэйшых цэнах, бо свайго збожжа тут звычайна не хапае), з продуктаў птушніцтва, розных лясных тавараў — дроў, ягад, грыбоў і г. д. Асноўнай-жа крыніцай грашовых прыбыткаў у гэтым тыпе звычайна бываюць неземляробчыя, асабліва лясныя, промыслы.

Звычайна на раёны такога экстэнсыўнага тыпу з усіх бакоў напіраюць больш інтэнсыўныя формы гаспадаркі; паасобныя прогрэсыўныя галіны — як прыкл. лён, бульба, травы і г. д. уразаюцца ў экстэнсыўнае акружэньне трохпалёўкі і шмат дапамагаюць аджываньню яе перастарэлых форм і перараджэньню яе ў новыя формы таварнае гаспадаркі. Працэс гэты, аднак, адбываўся дагэтуль ня дужа шыбка і мы на падставе статыстычных матар'ялаў з году ў год можам констатаваць сужыцьце старых экстэнсыўных форм, якія яшчэ надаюць агульны характар гаспадарцы, і новых форм, якія прыходзяць ім на зьмену. Процэс рэконструкцыі і зьвязаныя з ім зьмены тэхнікі у бліжэйшым часе павінны зьліквідаваць гэты перажыўшы свой век тып.

### Д. Абложна-пярэстапалёвы мясна-рабочы тып (gg).

У рэдказаселеных прасторах паўднёвае Беларусі з беднай глебай, але вялікай кармовай плошчай, пры асабліва благіх рынчных умовах— далёка ад гарадоў і чыгунак пры вельмі дрэнных гужавых шляхох, захоўваюцца рэшткі старадаўняе абложнае гаспадаркі на дальніх землях, якая перарастае ў беспапарную пярэстапалёвую на блізкіх да сядзібы землях. Стадыі трохпалёўкі ў цэнтральных раёнах, што належаць да гэтага тыпу, ніколі ня было. Але па ўзьмежжах абложнае ральніцтва пераплятаецца з трохпалёвым, ствараюцца пераходныя формы і раёны і нават магчымы выпадкі, калі насяленьне, атрымаўшы значныя прасторы ральлі ў адным кавалку (напр. у выніку землеўпарадкаваньня), заводзіць на іх „талоку“, г. зн., незаняты выпасовы папар замест беспапарнае перэстапалёўкі.

Травасеяньне, дзякуючы лёгкім глебам і конкурэнцыі прыродных сенажацяй, тут разьвіваецца вельмі слаба. Аграмадныя лясныя і балотныя пасьвішчы даюць магчымасьць трымаць шмат жывёлы, у тым ліку валоў, якія скарыстоўваюцца для работы і для продажу на мяса, зьяўляючыся асноўнай таварнай галінай гаспадаркі. Трымаюць тут і шмат іншага немалочнага быдла. Дзякуючы шматскацінасьці гаспадаркі, земляробства даволі добра забясьпечана гноем; гэта дае магчымасьць моцна гнаіць блізкія да сядзібы землі, весьці там беспапарную палявую гаспадарку, у якой асабліва відная роля належыць бульбе.

Грашавыя прыбыткі атрымоўваюцца як ад продажу мяснога быдла, так у ня меншай меры ад моцна разьвітых тут лясных промыслаў.

Гаспадарка гэтага тыпу, ня гледзячы на сваю экстэнсыўнасьць, адзначаецца высокай рыначнасьцю. Забясьпечанасьць капіталамі паасобных гаспадарак бывае нярэдка досыць значная, у сувязі з чым стаіць і клясавая дыфэрэнцыяцыя сялянства. Наём парабкоў тут мясцамі даволі пашыраны. У рэдказаселеныя прасторы Палесься з даўніх часоў накіроваецца моцны колёнізацыйны паток з суседніх земляробчых краін. Культурны стан насяленьня найбольш нізкі, граматных менш 30% насяленьня.

Умовы, у якіх разьвіўся і існуе гэты тып гаспадаркі павінны будуць рэзка зямяніцца ў бліжэйшыя часы. Разам з імі грунтоўна зьменіцца і тып гаспадаркі, захоўваючы, аднак, і на далей шмат арыгінальных рысоў. Тут мы пэўне пабачым побач з абшырнымі леса-прамысловымі раёнамі раёны вузка-спэцыялізаванае гаспадаркі на асушаных балотных масывах.

---

На разглядзе асноўных географічных тыпаў сельскай гаспадаркі мы і канчаем гэтую папярэднюю працу па сельска-гаспадарчым раёнаваньні. Далейшая распрацоўка пабежна зачэпленых тут пытаньняў у наступных працах і дапамога мясцовых зямельных працаўнікоў і краязнаўцаў дасьць нам з часам магчымасьць больш упэўнена гаварыць аб сельска-гаспадарчай географіі Беларусі і пабудаваць канчатковую схэму сельска-гаспадарчых раёнаў. Зразумела, што гэтая схэма будзе заканчваць толькі першы этап нашае працы па сельска-гаспадарчым раёнаваньні БССР, на які мы цяпер уступаем. Гаспадарчае жыцьцё цячэ і бесьперарыўна зьмяняе свае формы. Яшчэ мацней зьмяняе гэтыя формы сьвядомая і пляновая работа соцыялістычнае дзяржавы. На нашых вачох дробная сялянская гаспадарка ператвараецца ў буйную, колектыўную, вырастае соцыялістычнае земляробства на высокай тэхнічнай базе, накіраванае ўжо ня стыхійнымі процэсамі эволюцыі, а агульнадзяржаўным плянам. У разьмяшчэньні гэтых новых форм мы з часам зможам, аднак, устанавіць географічныя закономернасьці ня менш выразныя, чым у стыхійна зложанай сялянскай гаспадарцы сучаснасьці. Наадварот, вызначаныя навукай прыродныя і экономічныя асаблівасьці кожнага раёну, кожнае мясьціны будуць найпаўней выкарыстаны гэтым сапраўды рацыянальным земляробствам для выразнага ўстанаўленьня свае спэцыялізацыі, свае ролі ў географічным падзеле працы.

## ЛІТАРАТУРА.

### а) Мэтодолёгічныя пытаньні.


Александров И. Г. проф. Экономическое районирование России. Мат. Госплана РСФСР. 1921.

Алкин И. О некоторых методологических проблемах эконом. географии Эк. Геогр. Сборн. 1929.

Баранский Н. Н. проф. План экономико-географической характеристики госплановской области. Соц. Хоз. 1928. № 1.

Баранский Н. Н. Экономическая география СССР. 1927.

Баскин Г. И. Критическая оценка материалов Всероссийской сельско-хоз. переписи и система ее разработки. Самара. 1916.

Баскин Г. И. Районирование территории, как необходимая предпосылка и твердая основа экономического строительства. Вестн. Самар. Губ. Ст. Б. № 1. 1921.

Бернштейн-Коган С. В. проф. К вопросу о программе и методе составления порайонных обзоров и хозяйственных планов. „Экон. Район. России". 1921.

Бернштейн-Коган С. В. проф. Очерки экономической географии. 1923.

Бринкман Т. Экономические основы организации сельхоз. предприятий. 1926.

Брук Б. Л. Производственные районы Воронежской губ. Управ. по опыт. делу. Ср. Черн. Обл. 1921.

Брук Б. Л. Сельско-хозяйств. районы ЦЧО. Мат. по районированию ЦЧО. 1925.

Воробьев К. К методологии сельско-хозяйствен. районирования. Вестн. Стат. XVIII.

Горецкий Г. И. Экономический профиль Петровско-Разумовское—Дурыкино. 1928.

Давидович М. О системе признаков в сельско-хозяйственном районировании. Вестн. Стат. (асобны адбітак).

Зиман Л. Я. К вопросу о методе построения экономических карт. Эк. Геогр. Сборн. 1929.

Кажанов Н. Н. проф. От капиталистических отношений к плановому хозяйству. 1925.

Кауфман А. А. проф. К вопросу о районировании дробного масштаба. 1913.

Книпович Б. Н. К методологии районирования. 1921.

Книпович Б. Н. Сельско-хозяйственное районирование. 1925.

Коротков И. П. Опыт разделения Харьковской губ. на сельхоз. районы. 1919.

Костров Н., Никитин Н. проф. и Эмме А. Очерки организации крестьянского хозяйства. 1926.

Котов А. К вопросу о проведении границ между сельско-хозяйственными районами. Соц. Хоз. 1928

Котов А. Проблемы размещения сельского хозяйства и промышленности. 1927.

Ленин Н. Развитие капитализма в России. Соб. Соч. III. 1925

Ленин Н. Новые данные о законах развития капитализма в земледелии. Соб. Соч. IX. 1925

Либкинд А. Социально-экономическая география крестьянского хозяйства. На агр. фр. 1929. № 2.

Людоговский А. П. проф. Основы сельско-хозяйственной экономики и сельхоз. счетоводства. 1875.

Лященко П. И. проф. Хлебная торговля на внутренних рынках России. 1912.

Наконечный А. М. Сельско-хозяйственное районирование Марийской авт. обл. 1928.

Никитин Н. П. Разделение Московской губ. на сельхоз. районы. I. 1921.

Никитин Н. П. Экономика животноводства. 1927.

Обухов В. М. К вопросу о распределении статистического материала при районировании. Вестн. Стат. XI. 1922.

Плеханов Г. В. Очерки по истории материализма. Изд. 1922.

Рыбников А. А. проф. Систематика основных типов экономических районов. Соц. Хоз. 1929. № 1.

Сельскохозяйственные районы Уральской области. Уралплан. 1928.

Семенов-Тяншанский В. П. Район и страна. 1928.

Скворцов А. И. проф. Основы экономики земледелия 1914.

Скворцов А. И. проф. Хозяйственные районы Европейской России. 1914.

Скворцов А. И. проф. Влияние парового транспорта на сельское хозяйство. 1890.

Стебут И. А. проф. Основы полевой культуры. 1888.

Студенский Г. А. проф. Очередные вопросы сельхоз. географии. 1929.

Студенский Г. А. Очерки сельско-хозяйственной экономии. 1925.

Студенский Г. А. проф. Проблемы экономии и географии сельского хозяйства. 1927.

Ужанский С. Г. Основные измерители состояния, эволюции и прогресса сельского хозяйства. 1926.

Челинцев А. Н. проф. К методологии сельско-хозяйственного микрорайонирования. Пути Сельск. Хоз. 1928. № 4—6.

Челинцев А. Н. Сельско-хозяйственные районы Европейской России, как стадии сельхоз. эволюции и культурный уровень сельского хозяйства в них. 1911.

Челинцев А. Н. проф. Сельско-хозяйственные районы, порайонные перспективы сельского хозяйства и мероприятия с.-х. политики 1928.

Экономическое районирование России. Доклад Госплана III сессии ВЦИК. 19_2.

## б. Матар'ялы аб Беларусі.

Афанасьеў Я. М. праф. Нарысы глебаў па Беларусі. 1926.

Белорусская ССР в цифрах к 10-летию существования БССР 1919—1929.

Бонч-Осмоловский Р. А. Сельско-хозяйственный обзор Советской Белоруссии Нар. Хоз. ССРБ. 1924, кн. 2-3.

Бонч-Осмоловский Р. А. Эволюция сельского хозяйства Белоруссии с 80-х годов до настоящего времени. Сав. Буд. 1926. № 1-2.

Бокун Э. И. Предварительный отчет по качественному изучению литовско-белорусского скота в Минской губ. 1913.

Винер В. В. проф. Сельско-хозяйственное опытное дело в Западной области.

Вынікі адміністрацыйнага сьпісу паселішчаў і гаспадарак БССР на 1/1 -1925.

Гарэцкі Г. Народны прыбытак Беларусі. 1926.

Ждановіч С. А. Да пытаньня аб умовах разьвіцьця рынкавае сьвінагадоўлі ў Беларусі. 1929.

Ждановіч С. І. Ярашчук А. Характарыстыка сельскай гаспадаркі Беларусі на падставе даных чыгуначных перавозак. 1926.

Кайгарадаў А. І. праф. Кліматычны атляс Беларусі.

Кайгарадаў А. І. Осадки, снеговой и ледяной покров Западной Области. Изв. Запомо. 1924.

Калантар А. А. проф. и Озеров А. В. Белорусский скот по данным экспедиции по обследованию животноводства б. Гомельской губ. 1928.

Котов А А. Системы полеводства и севообороты Белоруссии. Сав. Буд. 1926. № 2-3.

Маргелаў С. П. Броварная прамысловасьць і яе штандорт на тэрыторыі сучаснай БССР. 1928.

Матар'ялы к дакладу СНК БССР. 1928.

Материалы по вопросу районирования Зап. Области Союза. Вып. I. Гомельская губ. 1926.

Матар'ялы экспэдыцыі па вывучэньню эканомікі мэліорацый на Беларусі пад рэд. праф. Н. С. Фралова.

Нарысы сельскай гаспадаркі Мазырскага Палесься. Зборнік артыкулаў А. Смоліча, А. Ярашчука, М. Лайкова і В. Сьвіршчэўскага.

Перспективный план развития сельского и лесного хозяйства БССР на 1925-6—1929-30 г.

Пятилетний план нар. хозяйства и культурного строительства БССР на 1928-9 -1932-33 г.

Рагавы П. П. Глебы Беларусі. Працы Гары-Гарэцкага Нав. Таварыства. т. V. 1928.

Раевский М. Западный район экспедиции по изучению хлебной торговли и производительности России. ч. II, Район Зап. Двины и верховьев Днепра. 1876.
Районирование Белоруссии. Докладная записка Госплана БССР. Сав. Буд. 1926. № 8-9.
Сельское хозяйство—у зборніку „Белорусская Советская Социалистическая Республика" выд. СНК БССР. 1927.
Семенов-Тяншанский В. Типы местностей Европейской России и Кавказа. 1915.
Смоліч А. Кароткі курс географіі Беларусі. 1925.
Смоліч А. Тыпы географічных краявідаў Беларусі. 1925.
Смоліч А. Экономічнае становішча Беларусі перад вайною і рэволюцыяй. 1924.
Смоліч А. Організацыя сялянскай гаспадаркі ў раёнах Цэнтральнай Беларусі. 1927.
Смоліч А. Равьмяшчэньне насельніцтва па тэрыторыі БССР. Мат. геогр. і стат. Бел. II. 1929.
Сташэўскі А. Аб раёнаваньні БССР. Сав. Буд. 1927. № 6.
Статистический справочник СССР. 1927.
Статыстычны даведнік на 1928 год ЦСУ БССР.
Статыстычны штогоднік ЦСУ БССР 1923-1924.
Статыстычны штогоднік ЦСУ БССР 1924-1925, I, $II_1$, $II_2$.
Статыстычны штогоднік ЦСУ БССР. 1925-6.
Торговля и промышленность Евр. России по районам. Вып. II, XI.
Фролов Н. С. проф. Вопросы экономики мелиораций в Мозырском Полесьи. 1926.
Фролов Н. С. Сельско-хозяйственные районы Западной Области. „Экон. Жизнь" Смоленск. 1923.
Ярошевич Н. И. К методике сельско-хозяйственного районирования. Типы сельского хоз. Белорусской ССР. 1925.
Ярошевич Н. И. Сельско-хозяйственные районы Минской губ. 1923.
Ярощук Е. А. Связь крестьянского хозяйства БССР с рынком. 1926.

# АСНОЎНЫЯ ПАКАЗЧЫКІ ТЫПУ і КІРУНКУ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ Ў ПААСОБНЫХ АДМІНІСТРАЦЫЙНЫХ І СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧЫХ РАЁНАХ БЕЛАРУСКАЕ ССР ПАВОДЛЕ ДАНЫХ 1927 і 1928 г. г.

*(Паводле распаўсюджаных вынікаў веснавых роспытаў ЦСУ).*

| №№ па чарзе | РАЁНЫ | Тэрыторыя ў кв. клм. (пав. ЦСУ Бел.) | Земляробчае насельніцтва ў сялянск. гасп. | Лік сялянскіх гаспад. | Ральлі дзес. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1928 г. | 1928 г. | 1927 г. | 1928 г. |
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | **I. Менска—Слуцкі** . | **12734** | **499567** | **95027** | **536522** | **540635** |
| 1 | Заслаўскі . . . | 831 | 33389 | 6136 | 37333 | 37505 |
| 2 | Астр.-Гарадзецкі . | 765 | 29682 | 5346 | 39529 | 39770 |
| 3 | Койданаўскі . . | 1023 | 41099 | 7667 | 43921 | 44105 |
| 4 | Самахвалаўскі . . | 1069 | 56265 | 11809 | 60758 | 60843 |
| 5 | Сьмілавіцкі . . . | 900 | 38336 | 7018 | 40993 | 43095 |
| 6 | Чэрвеньскі . . . | 1391 | 39356 | 7308 | 48313 | 48453 |
| 7 | Уздзеньскі . . | 986 | 31494 | 5672 | 34405 | 34474 |
| 8 | Пухавіцкі. . . | 1670 | 51557 | 9809 | 50560 | 50656 |
| 9 | Капыльскі . . | 983 | 50250 | 10139 | 55634 | 55679 |
| 10 | Грэскі . . . | 1246 | 39068 | 7198 | 39529 | 3969[illegible] |
| 11 | Чырвона-Слабодзкі . | 690 | 31138 | 6105 | 32449 | 32874 |
| 12 | Слуцкі . . . | 1180 | 57933 | 10820 | 53098 | 53490 |
| | **II. Барысаўскі** . . | **13234** | **358723** | **66602** | **343213** | **348405** |
| 1 | Бягомльскі . . | 1569 | 35650 | 6841 | 37333 | 37591 |
| 2 | Плешчаніцкі . . | 1282 | 36935 | 6733 | 38065 | 38294 |
| 3 | Барысаўскі . . | 2140 | 67144 | 12301 | 57830 | 57951 |
| 4 | Лагойскі . . . | 1068 | 30398 | 5758 | 31477 | 31590 |
| 5 | Смалявіцкі . . | 1063 | 35308 | 5890 | 36601 | 36850 |
| 6 | Бярэзыньскі . . | 1872 | 48607 | 8401 | 46849 | 46900 |
| 7 | Асіпавіцкі . . | 1006 | 22685 | 5266 | 21453 | 21751 |
| 8 | Сьвіслацкі . . | 1004 | 27886 | 5239 | 24433 | 24662 |
| 9 | Клічаўскі . . . | 1089 | 29003 | 5519 | 26817 | 27120 |
| 10 | Чачавіцкі . . . | 1141 | 25107 | 4654 | 22355 | 25696 |
| | **III. Халопеніцкі.** . | **6694** | **230435** | **41550** | **209485** | **210993** |
| 1 | Вушацкі . . . | 1097 | 43477 | 8141 | 41212 | 41562 |
| 2 | Лепельскі. . . | 1347 | 44409 | 8268 | 42250 | 42929 |
| 3 | Чашніцкі . . . | 568 | 28271 | 5300 | 23906 | 24083 |
| 4 | Халопеніцкі . . | 1416 | 38261 | 6475 | 32941 | 33234 |
| 5 | Чарэйскі . . . | 985 | 40824 | 7434 | 38760 | 38834 |
| 6 | Крупскі . . . | 1281 | 35193 | 5932 | 30146 | 30351 |
| | **IV. Полацкі** . . | **8363** | **250370** | **48618** | **243346** | **244398** |
| 1 | Дрысенскі . . | 603 | 20688 | 4389 | 27802 | 27985 |
| 2 | Асьвейскі. . . | 876 | 25942 | 4795 | 27474 | 27642 |
| 3 | Расонскі . . . | 2240 | 45921 | 8867 | 41865 | 42178 |
| 4 | Валынецкі . . | 833 | 30792 | 5897 | 32383 | 32544 |
| 5 | Ветрынскі. . . | 913 | 34302 | 6868 | 35324 | 35419 |
| 6 | Полацкі . . . | 1818 | 53435 | 10171 | 43501 | 43501 |
| 7 | Вульскі . . . | 1080 | 39290 | 7631 | 34997 | 35129 |

**Табл. 1. Абсолютныя лічбы.**

| Пад засевам дзес. | | Усяго быдла | | Рабоч. коней | Усіх сьвіней | №№ па чарзе |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1927 г. | 1928 г. | 1927 г. | 1928 г. | 1928 г. | 1928 г. | |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | |
| **433271** | **441372** | **235417** | **241536** | **100835** | **349511** | **I** |
| 28856 | 28989 | 16347 | 16420 | 5715 | 20336 | 1 |
| 30443 | 30930 | 12694 | 12581 | 5207 | 18293 | 2 |
| 34930 | 36173 | 17433 | 18989 | 8077 | 30557 | 3 |
| 47965 | 48748 | 22455 | 23341 | 10330 | 37059 | 4 |
| 33668 | 34298 | 16066 | 17981 | 6801 | 31391 | 5 |
| 39411 | 40209 | 22021 | 22030 | 8011 | 27537 | 6 |
| 28990 | 29217 | 15840 | 16476 | 6119 | 21967 | 7 |
| 39903 | 40994 | 24647 | 27182 | 10469 | 39490 | 8 |
| 45100 | 46899 | 22675 | 23474 | 11222 | 28889 | 9 |
| 30518 | 31174 | 21247 | 20427 | 7608 | 28848 | 10 |
| 26285 | 26078 | 14882 | 14912 | 8333 | 22470 | 11 |
| 47202 | 47663 | 29110 | 27723 | 12943 | 42674 | 12 |
| **254556** | **259917** | **180635** | **179016** | **68669** | **209031** | **II** |
| 27098 | 27642 | 18030 | 17789 | 7022 | 22082 | 1 |
| 27641 | 28298 | 22337 | 21174 | 5861 | 17273 | 2 |
| 45828 | 45924 | 30673 | 29950 | 12959 | 37642 | 3 |
| 24868 | 24455 | 14722 | 15104 | 5660 | 17211 | 4 |
| 27272 | 27764 | 14490 | 16416 | 6139 | 17170 | 5 |
| 32127 | 32511 | 22756 | 23810 | 9589 | 31609 | 6 |
| 16159 | 16499 | 14232 | 12794 | 4692 | 15436 | 7 |
| 18449 | 18849 | 13106 | 13189 | 5621 | 14993 | 8 |
| 19105 | 19626 | 16973 | 16084 | 5576 | 21439 | 9 |
| 16009 | 18349 | 13316 | 12706 | 5550 | 14176 | 10 |
| **158039** | **158688** | **101427** | **97172** | **41695** | **94438** | **III** |
| 30318 | 29708 | 19731 | 19731 | 7600 | 15647 | 1 |
| 33157 | 33475 | 18403 | 18403 | 7757 | 16605 | 2 |
| 18434 | 18571 | 12107 | 11214 | 5177 | 11527 | 3 |
| 23225 | 23814 | 17943 | 16879 | 6618 | 13997 | 4 |
| 29258 | 29313 | 15650 | 16300 | 8237 | 16679 | 5 |
| 23647 | 23807 | 16848 | 14645 | 6306 | 19983 | 6 |
| **181661** | **182175** | **120827** | **112524** | **48894** | **88803** | **IV** |
| 19396 | 19523 | 8998 | 9301 | 4739 | 10734 | 1 |
| 19270 | 19379 | 11599 | 11523 | 4838 | 10832 | 2 |
| 31649 | 31886 | 23368 | 21113 | 8617 | 12281 | 3 |
| 24283 | 24270 | 14956 | 14270 | 6969 | 12829 | 4 |
| 26064 | 26135 | 17934 | 15994 | 6533 | 14017 | 5 |
| 33775 | 33618 | 26839 | 23240 | 9907 | 14535 | 6 |
| 27224 | 27364 | 17133 | 17083 | 7291 | 13575 | 7 |

| №№ па чарзе | РАЁНЫ | Тэрыторыя ў кв. клм. (пав. ЦСУ Бел.) | Земляробчае насельніцтва ў сялянск гасп. | Лік сялянскіх гаспад. | Ральлі дзес. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1928 г. | 1928 г. | 1927 г. | 1928 г. |
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | **V. Гарадоцкі** | **5927** | **233819** | **43332** | **211862** | **212836** |
| 1 | Езярышчанскі | 707 | 26326 | 4927 | 27203 | 27323 |
| 2 | Мяжанскі | 893 | 29292 | 5562 | 27203 | 27255 |
| 3 | Сіроцінскі | 1052 | 45416 | 8649 | 40393 | 40627 |
| 4 | Гарадоцкі | 1122 | 46513 | 8659 | 49049 | 49206 |
| 5 | Сураскі | 1227 | 42510 | 7606 | 32154 | 32369 |
| 6 | Бешанковіцкі | 926 | 43762 | 7929 | 35860 | 36046 |
| | **VI. Віцебскі** | **3690** | **161265** | **30454** | **131073** | **131494** |
| 1 | Віцебскі | 1993 | 90020 | 17103 | 72544 | 72652 |
| 2 | Высачанскі | 776 | 33075 | 6078 | 27616 | 27713 |
| 3 | Лязнянскі | 921 | 38170 | 7263 | 30913 | 31129 |
| | **VII. Талачынскі** | **5368** | **245870** | **43668** | **210955** | **222626** |
| 1 | Сянскі | 1178 | 51138 | 9381 | 45340 | 45553 |
| 2 | Багушэўскі | 895 | 33044 | 5855 | 26797 | 26982 |
| 3 | Талачынскі | 1029 | 41877 | 7381 | 26846 | 37026 |
| 4 | Коханаўскі | 759 | 38479 | 6753 | 40674 | 40983 |
| 5 | Аршанскі | 944 | 49242 | 8748 | 43066 | 43454 |
| 6 | Копыскі | 563 | 32090 | 5550 | 28232 | 28628 |
| | **VIII. Магілеўскі** | **10174** | **477653** | **85902** | **449150** | **457676** |
| 1 | Круглянскі | 775 | 32001 | 5922 | 33496 | 33707 |
| 2 | Дубровенскі | 945 | 46894 | 8241 | 33018 | 33058 |
| 3 | Ляднянскі | 371 | 19732 | 3595 | 18184 | 20258 |
| 4 | Горацкі | 917 | 52465 | 8795 | 50244 | 50334 |
| 5 | Дрыбінскі | 666 | 29412 | 5296 | 27275 | 27389 |
| 6 | Расьнянскі | 641 | 25090 | 4924 | 26318 | 26457 |
| 7 | Мсьціслаўскі | 916 | 48485 | 9073 | 45459 | 47286 |
| 8 | Бялыніцкі | 1414 | 49436 | 8832 | 54019 | 54019 |
| 9 | Шклоўскі | 975 | 49450 | 9009 | 49427 | 51076 |
| 10 | Магілеўскі | 1176 | 56777 | 10547 | 54067 | 56449 |
| 11 | Лупалаўскі | 1378 | 67911 | 11668 | 57643 | 57643 |
| | **IX. Краснапольскі** | **10165** | **437665** | **74619** | **357185** | **375354** |
| 1 | Чавускі | 1066 | 49793 | 8325 | 51415 | 51415 |
| 2 | Чэрыкаўскі | 1177 | 43960 | 7337 | 36797 | 41511 |
| 3 | Крычаўскі | 740 | 35550 | 6200 | 27746 | 27746 |
| 4 | Клімавіцкі | 1565 | 68051 | 11657 | 53705 | 62133 |
| 5 | Кармянскі | 911 | 45152 | 8147 | 33916 | 38473 |
| 6 | Прапойскі | 1171 | 41688 | 6857 | 34377 | 35088 |
| 7 | Краснапольскі | 1148 | 49912 | 8263 | 39018 | 39018 |

Табл. 1. Абсолютныя лічбы.

| Пад засевам дзес. | | Усяго быдла | | Рабоч. коней | Усіх сьвіней | №№ па чарзе |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1927 г. | 1928 г. | 1927 г. | 1928 г. | 1928 г. | 1928 г. | |
| 7 | 8 | 9 | 19 | 11 | 12 | |
| **161365** | **162174** | **105559** | **103612** | **43815** | **60719** | **V** |
| 21002 | 21094 | 13328 | 13534 | 4870 | 7495 | 1 |
| 19440 | 19836 | 14250 | 13923 | 5456 | 5992 | 2 |
| 30770 | 31554 | 20688 | 18548 | 8776 | 9658 | 3 |
| 36141 | 36257 | 21706 | 21453 | 8008 | 12274 | 4 |
| 25284 | 25453 | 18142 | 19104 | 7481 | 11122 | 5 |
| 28728 | 27980 | 17445 | 17050 | 9224 | 14178 | 6 |
| **107346** | **107730** | **75107** | **74795** | **26443** | **39853** | **VI** |
| 57942 | 58057 | 38898 | 39492 | 14525 | 19384 | 1 |
| 22104 | 22182 | 17772 | 17136 | 5893 | 9035 | 2 |
| 27300 | 27491 | 18437 | 18167 | 6025 | 11434 | 3 |
| **171676** | **172112** | **96365** | **90074** | **46863** | **113837** | **VII** |
| 34792 | 34956 | 22429 | 21376 | 10290 | 22063 | 1 |
| 19959 | 20205 | 14259 | 13364 | 5680 | 16660 | 2 |
| 28607 | 29119 | 15585 | 15422 | 7632 | 23719 | 3 |
| 31471 | 31835 | 15256 | 13659 | 8213 | 21996 | 4 |
| 31476 | 32528 | 17763 | 16199 | 9288 | 15782 | 5 |
| 25371 | 23469 | 11073 | 10054 | 5760 | 13617 | 6 |
| **349047** | **356656** | **185578** | **180824** | **99083** | **222014** | **VIII** |
| 27429 | 27600 | 13018 | 12948 | 6647 | 21118 | 1 |
| 24753 | 24780 | 16959 | 15567 | 8810 | 11048 | 2 |
| 12422 | 14239 | 6518 | 5658 | 4099 | 5086 | 3 |
| 38896 | 38966 | 18414 | 16800 | 11505 | 15399 | 4 |
| 21381 | 21815 | 10571 | 10003 | 6083 | 8729 | 5 |
| 22110 | 21603 | 10109 | 10183 | 5813 | 14254 | 6 |
| 34242 | 36382 | 16399 | 16084 | 10637 | 23719 | 7 |
| 42436 | 44115 | 22445 | 26382 | 11160 | 43067 | 8 |
| 35315 | 37169 | 18297 | 17606 | 9561 | 17305 | 9 |
| 44472 | 45765 | 26068 | 24022 | 12190 | 40291 | 10 |
| 45591 | 44222 | 26780 | 25571 | 12578 | 21998 | 11 |
| **292069** | **300508** | **176844** | **178631** | **101522** | **279921** | **IX** |
| 40576 | 40807 | 19723 | 21758 | 10557 | 21119 | 1 |
| 32029 | 33701 | 16953 | 17150 | 9793 | 44521 | 2 |
| 20790 | 23413 | 11018 | 11750 | 7347 | 20561 | 3 |
| 48014 | 52393 | 27209 | 27176 | 14370 | 33479 | 4 |
| 30166 | 31698 | 20615 | 22493 | 11764 | 41636 | 5 |
| 29066 | 27139 | 18043 | 15973 | 9396 | 27529 | 6 |
| 29454 | 29454 | 21200 | 20110 | 13366 | 28101 | 7 |

| №№ па чарзе | РАЁНЫ | Тэрыторыя ў кв. клм. (пав. ЦСУ Бел.) | Землеробчае насельніцтва ў сялянск. гасп. | Лік сялянскіх гаспад. | Ральлі дзес. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1928 г. | 1928 г. | 1927 г. | 1928 г. |
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 8 | Касьцюковіцкі . . | 1579 | 69849 | 12293 | 52379 | 52379 |
| 9 | Хоцімскі . . . | 808 | 33710 | 5540 | 27832 | 27591 |
| | **X. Гомельскі . .** | **16991** | **685785** | **125015** | **584719** | **588180** |
| 1 | Чачэрскі . . . | 1518 | 45208 | 8046 | 36634 | 36894 |
| 2 | Уваравіцкі . . | 1298 | 47211 | 8657 | 52204 | 52412 |
| 3 | Веткаўскі. . . | 1751 | 78302 | 14220 | 58615 | 59031 |
| 4 | Гомельскі. . . | 2260 | 83833 | 15945 | 53578 | 53685 |
| 5 | Цэрахоўскі . . | 861 | 70816 | 12730 | 70521 | 70521 |
| 6 | Быхаўскі . . . | 1715 | 59877 | 10746 | 51754 | 51754 |
| 7 | Рагачэўскі . . | 1871 | 73871 | 13098 | 66744 | 67091 |
| 8 | Бабруйскі . . | 2525 | 91371 | 16901 | 80236 | 80317 |
| 9 | Журавіцкі . . | 635 | 33376 | 5726 | 28309 | 29489 |
| 10 | Жлобінскі . . | 1675 | 67584 | 12445 | 57805 | 58528 |
| 11 | Буда-Кашалеўскі . | 882 | 34336 | 6501 | 28319 | 28458 |
| | **XI. Рэчыцкі . .** | **6309** | **208532** | **37575** | **163539** | **164168** |
| 1 | Рэчыцкі . . . | 2538 | 86038 | 15525 | 60448 | 60568 |
| 2 | Хойніцкі . . . | 1567 | 39149 | 6825 | 24728 | 24779 |
| 3 | Лоеўскі . . . | 1164 | 40885 | 7501 | 28449 | 28713 |
| 4 | Брагінскі. . . | 1040 | 42460 | 7724 | 49914 | 50108 |
| | **XII. Глускі. . .** | **8991** | **217538** | **40100** | **201003** | **202838** |
| 1 | Старадароскі . . | 1758 | 43261 | 7985 | 43659 | 44152 |
| 2 | Старобінскі . . | 1418 | 42535 | 7631 | 35398 | 35798 |
| 3 | Любанскі. . . | 1637 | 32789 | 6159 | 30679 | 30964 |
| 4 | Глускі . . . | 2462 | 53015 | 10064 | 50148 | 50418 |
| 5 | Парыцкі . . . | 1716 | 45938 | 8261 | 41119 | 41505 |
| | **XIII. Мазырскі . .** | **17161** | **346050** | **63854** | **330345** | **332357** |
| 1 | Жыткавіцкі . . | 1581 | 20275 | 3642 | 16934 | 16988 |
| 2 | Петрыкаўскі . . | 2104 | 43485 | 8015 | 40336 | 40534 |
| 3 | Капаткевіцкі . . | 1124 | 27760 | 5055 | 23709 | 23877 |
| 4 | Азарыцкі . . . | 1004 | 29282 | 5447 | 31098 | 31337 |
| 5 | Каленкавіцкі . . | 1703 | 53766 | 9908 | 47418 | 47669 |
| 6 | Юравіцкі. . . | 1056 | 20944 | 4083 | 22169 | 22331 |
| 7 | Камарынскі . . | 1130 | 25141 | 4489 | 22439 | 22598 |
| 8 | Тураўскі . . . | 1723 | 22998 | 4136 | 21554 | 21696 |
| 9 | Лельчыцкі . . | 2479 | 30060 | 5277 | 30483 | 30611 |
| 10 | Каралінскі . . | 1541 | 33690 | 6119 | 32330 | 32614 |
| 11 | Нараўлянскі . . | 1716 | 38649 | 7683 | 41875 | 42102 |

**Табл. 1. Абсолютныя лічбы.**

| с. | ад засевам дзес. | | Усяго быдла | | Рабоч. коней | Усіх сьвіней | №№ па чарзе |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| г. | 1927 г. | 1928 г. | 1927 г. | 1928 г. | 1928 г. | 1928 г. | |
| | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | |
| 379 | 39589 | 39713 | 25986 | 26541 | 16496 | 39434 | 8 |
| 591 | 22385 | 22190 | 16097 | 15680 | 8433 | 23541 | 9 |
| **180** | **449332** | **452238** | **300221** | **291146** | **143518** | **344819** | **X** |
| 394 | 28268 | 28469 | 18979 | 17527 | 10393 | 20578 | 1 |
| 412 | 40291 | 40452 | 19194 | 18447 | 11162 | 22626 | 2 |
| 031 | 42047 | 43541 | 28825 | 30397 | 15512 | 26251 | 3 |
| 685 | 38245 | 39403 | 32056 | 33734 | 16287 | 27374 | 4 |
| 521 | 53563 | 54049 | 32227 | 33941 | 13776 | 26550 | 5 |
| 754 | 39430 | 39581 | 27926 | 27922 | 14292 | 42308 | 6 |
| 091 | 51230 | 51497 | 30429 | 29077 | 15265 | 45351 | 7 |
| 17 | 61300 | 61579 | 40698 | 39295 | 16038 | 51690 | 8 |
| 89 | 26002 | 23875 | 13864 | 14103 | 7410 | 20184 | 9 |
| 28 | 46151 | 46728 | 33073 | 30398 | 13485 | 37579 | 19 |
| 58 | 22805 | 23064 | 22950 | 16395 | 9898 | 24328 | 11 |
| **68** | **120081** | **121673** | **132756** | **132534** | **50303** | **117330** | **XI** |
| 68 | 43221 | 43950 | 51058 | 48555 | 20430 | 38522 | 1 |
| 79 | 21173 | 21217 | 28191 | 33433 | 9297 | 31525 | 2 |
| 13 | 22044 | 22249 | 24898 | 23180 | 8112 | 20466 | 3 |
| 08 | 33643 | 34257 | 28609 | 27366 | 12464 | 26817 | 4 |
| **38** | **156881** | **160639** | **163603** | **158881** | **43316** | **155315** | **XII** |
| 52 | 34203 | 34667 | 37873 | 32662 | 7502 | 31514 | 1 |
| 98 | 28099 | 28821 | 30338 | 29936 | 9516 | 32510 | 2 |
| 64 | 25079 | 25850 | 25919 | 25369 | 7331 | 27355 | 3 |
| 18 | 39365 | 39710 | 40958 | 40466 | 10204 | 36105 | 4 |
| 05 | 30135 | 31591 | 28515 | 30448 | 8763 | 27831 | 5 |
| **57** | **200934** | **206368** | **339901** | **331288** | **54917** | **212133** | **XIII** |
| 38 | 10150 | 10191 | 22492 | 21708 | 3913 | 11699 | 1 |
| 34 | 24263 | 24382 | 43058 | 40067 | 4931 | 23386 | 2 |
| 77 | 14292 | 14524 | 28806 | 28518 | 4644 | 21921 | 3 |
| 37 | 18387 | 18528 | 25307 | 23163 | 5720 | 19518 | 4 |
| 59 | 30271 | 30433 | 38528 | 35819 | 8380 | 32544 | 5 |
| 31 | 14312 | 14417 | 23600 | 20147 | 4599 | 15877 | 6 |
| 98 | 10131 | 14190 | 19545 | 26620 | 4293 | 17088 | 7 |
| 96 | 14972 | 15137 | 23755 | 21012 | 5473 | 15549 | 8 |
| 1 | 16764 | 16842 | 40327 | 40827 | 2335 | 16390 | 9 |
| 4 | 22882 | 23081 | 37571 | 38499 | 3904 | 20307 | 10 |
| 2 | 24510 | 24643 | 36912 | 34908 | 6725 | 17854 | 11 |

| №№ па чарзе | РАЁНЫ | Агульныя весткі: Гушчыня насельн. на 1 кв. км. — Усяго | Гушчыня насельн. на 1 кв. км. — Сельск. | Граматных у % да агульнага ліку | % гаспадарак — Без раб. жывёлы | % гаспадарак — З сохамі, але бяз плугоў | на 100 гаспадарак — сячкарняў | на 100 гаспадарак — арфаў | на 100 гаспадарак — малатарняў | % гаспадарак — З наймам парабкоў (на тэрмін) | % гаспадарак — З незямляробчымі промысламі | На сэзонных адыходных промыслах чалавек на 100 гаспадарак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1926 | 1926 | 1926 | 1927 | 1927 | 1927 | 1927 | 1927 | 1927 | 1927 | 1927 |
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| I | Менска-Слуцкі | 41,1 | 37,3 | 42,5 | 10,9 | 0,05 | 29,3 | 12,5 | 11,2 | 5,1 | 22,6 | 1,7 |
| 1 | Заслаўскі . . . | 43,6 | 41,6 | 43,9 | 13,6 | — | 51,0 | 11,3 | 1,8 | 10,6 | 19,6 | 1,5 |
| 2 | Астр. Гарадзецкі . | 39,6 | 38,0 | 38,0 | 12,9 | — | 50,6 | 34,2 | 35,8 | 6,1 | 15,5 | 3,3 |
| 3 | Койданаўскі . . | 43,0 | 37,7 | 44,5 | 10,2 | — | 59,1 | 10,3 | 12,7 | 6,5 | 26,8 | 3,1 |
| 4 | Самахваляўскі . | 46,5 | 46,0 | 47,2 | 12,6 | — | 50.7 | 20,0 | 25,0 | 10,4 | 12,7 | 2,6 |
| 5 | Сьмілавіцкі . . | 44,6 | 41,1 | 36,0 | 10,1 | — | 58,8 | 10,3 | 12.6 | 1,2 | 22,8 | 1,4 |
| 6 | Чэрвенскі . . . | 31,5 | 28,1 | 35,9 | 12,4 | — | 6,3 | 7,5 | 7,2 | 1,7 | 56,5 | 0,5 |
| 7 | Узьдзенскі . . . | 33,5 | 30,9 | 45,1 | 11,7 | — | 28,7 | 11,2 | 11,2 | 7,9 | 47,9 | 1,2 |
| 8 | Пухавіцкі . . . | 31,7 | 29,3 | 43,2 | 13,0 | 0,1 | 4,3 | 5,2 | 9,8 | 1,8 | 31,7 | 0,9 |
| 9 | Капыльскі . . . | 53,7 | 47,0 | 46,7 | 12,5 | 0,1 | 27,0 | 16,3 | 8,4 | 4,4 | 9,9 | 1,4 |
| 10 | Грэскі . . . . | 30,7 | 29,9 | 46,2 | 8,5 | — | 7,9 | 0,1 | 2,3 | 1,4 | 16,1 | 0,5 |
| 11 | Чырв. Слабодзкі . | 45,1 | 45,1 | 43,7 | 8,0 | 0,1 | 30,4 | 8,8 | 5,1 | 3,9 | 15,6 | 3,9 |
| 12 | Слуцкі . . . . | 59,9 | 44,9 | 43,1 | 6,2 | 0,2 | 26,9 | 5,4 | 4,7 | 5,2 | 19,4 | 1,1 |
| II | Барысаўскі . | 29,9 | 26,4 | 33,0 | 12,7 | 12,7 | 8,3 | 7,5 | 10,4 | 4,7 | 54,9 | 2,4 |
| 1 | Бягомльскі . . . | 22,4 | 22,4 | 30,4 | 14,8 | 63,7 | 4,1 | 1,2 | 6,5 | 7,1 | 57,0 | 2,4 |
| 2 | Плешчаніцкі . . | 29,3 | 27,9 | 34,5 | 19,9 | 51,2 | 11,6 | 6,0 | 18,8 | 14,8 | 43,2 | 6,5 |
| 3 | Барысаўскі . . | 42,4 | 29.6 | 34,5 | 13,5 | 0,1 | 7,6 | 4,9 | 6,4 | 6,2 | 68,3 | 4,0 |
| 4 | Лагойскі . . . | 30,6 | 28,6 | 35,0 | 21,9 | 5,8 | 19,9 | 13,6 | 17,5 | 7,6 | 45,1 | [illegible] |
| 5 | Смалявіцкі . . . | 35,3 | 32,3 | 37,2 | 10,9 | 0,3 | 25,5 | 36,7 | 40,5 | 4,4 | 36,2 | 0,3 |
| 6 | Бярэзінскі . . . | 26,3 | 24,7 | 28,9 | 7,9 | — | 2,2 | 2,5 | 2,5 | 0,1 | 65,2 | 0,5 |
| 7 | Асіпавіцкі . . . | 27,7 | 22,2 | 37,7 | 11,0 | — | 6,0 | 3,5 | 6,0 | 1,5 | 73,6 | 0,9 |
| 8 | Сьвіслацкі . . . | 30,2 | 26,9 | 32,1 | 4,9 | — | 2,1 | 4.5 | 4,2 | 0,7 | 70,1 | 0,5 |
| 9 | Клічаўскі . . . | 27,7 | 27,7 | 31.6 | 12,5 | — | 4,9 | 3,4 | 3,2 | — | 36,3 | 0,5 |
| 10 | Чачавіцкі . . . | 21,6 | 21,6 | 32.1 | 7,6 | — | 0,2 | 0,6 | 1,1 | — | 39,7 | 4,0 |
| III | Халопеніцкі . | 35,8 | 32,5 | 30,5 | 15,0 | 4,3 | 1,2 | 1,1 | 1,7 | 2,8 | 36,0 | 5,0 |
| 1 | Вушацкі . . . | 39,5 | 37,5 | 31.1 | 21,7 | 6,3 | 0,2 | 0,2 | 0,6 | 3,9 | 33,1 | 5,9 |
| 2 | Лепельскі . . . | 37,3 | 32,0 | 30,8 | 17,7 | 12,0 | — | 0,9 | 1,8 | 4,2 | 28,1 | 2,0 |
| 3 | Чашніцкі . . . | 53,3 | 48,1 | 35,3 | 5,3 | 1,0 | 3,3 | 2,6 | 3,0 | 2,9 | 26,7 | 9,3 |
| 4 | Халопеніцкі . . | 26,6 | 25,1 | 25,3 | 15,2 | 2.1 | 2,2 | 1,4 | 2,2 | 2,6 | 37,7 | 3,1 |

**Табл. 2. Адносныя лічбы па адм. раёнах.**

| Прыбытку руб. ад незямляроб. пром. на 1 гасп. | Падзел ральліў %% | | | | | | | | | | Дзесяцін засеву на 100 гаспадарак | | №№ па чарзе |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Пад аблогамі і пусткамі | | Чысты папар | | Лубін | | Недасеў | | Пад засевам усяго | | | | |
| 1927 | 1927 | 1928 | 1927 | 1928 | 1927 | 1928 | 1927 | 1928 | 1927 | 1928 | 1927 | 1928 | |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | |
| 19,0 | 1,2 | 1,2 | 15,7 | 15.2 | 4,4 | 4,3 | 0,2 | 0,5 | 78,3 | 78,8 | 465,1 | 464,0 | I |
| 17,1 | 2,2 | 1,4 | 16,5 | 18,0 | 5,6 | 3,5 | 0,5 | 1,7 | 75,3 | 75,3 | 453,6 | 475,2 | 1 |
| 20,1 | 3,6 | 3,5 | 14,4 | 14,7 | 5,7 | 4,3 | 0,1 | 1,4 | 76,1 | 76,1 | 575,8 | 583,5 | 2 |
| 18,6 | 1,8 | 1,2 | 13,4 | 10,6 | 5,4 | 9,0 | 0,8 | 0,0 | 78,7 | 79,1 | 468,0 | 469,7 | 3 |
| 10,3 | 0,7 | 0,6 | 13,4 | 13,5 | 7,8 | 6,7 | 0,2 | 1,1 | 77,9 | 78,1 | 458,2 | 413,1 | 4 |
| 31,4 | 0,4 | 2,1 | 14,2 | 10,1 | 5,8 | 6,9 | 0,3 | 0,3 | 79,4 | 80,6 | 480,8 | 489,9 | 5 |
| 24,2 | — | 0,0 | 16,6 | 13,6 | 4,1 | 5,6 | 0,2 | 0,2 | 79,2 | 80,6 | 538,0 | 550,8 | 6 |
| 30,1 | 0,3 | 0,4 | 12,4 | 12,8 | 4,3 | 4,0 | 0,1 | 0,0 | 82,8 | 82,8 | 523,3 | 512,5 | 7 |
| 18,4 | 0,1 | 0,5 | 19,2 | 19.5 | 2,9 | 1,8 | 0,1 | 0,3 | 77,8 | 77,9 | 404,1 | 418,4 | 8 |
| 10,7 | 0,1 | 1,1 | 14,8 | 12,5 | 5,3 | 4,6 | 0,3 | 0,1 | 79,6 | 81,7 | 464,1 | 464,3 | 9 |
| 12,3 | 1,6 | 0,8 | 23,0 | 23,1 | 0,5 | 0,4 | 0,1 | — | 74,8 | 75,7 | 419,9 | 432,9 | 10 |
| 15,1 | 2,2 | 1,2 | 15,4 | 19,9 | 4,1 | 2,6 | 0,4 | 0,1 | 77,8 | 76,2 | 438,7 | 427,5 | 11 |
| 19,5 | 2,1 | 2,1 | 15,6 | 15,6 | 0,7 | 0,6 | 0,1 | 0,2 | 81,5 | 81,5 | 447,4 | 441,3 | 12 |
| 39,7 | 2,2 | 2,7 | 22,0 | 21,2 | 3,0 | 4,0 | 2,1 | 0,9 | 70,7 | 70,7 | 387,5 | 390,3 | II |
| 24,9 | 1,1 | 4,0 | 19,3 | 18,3 | 6,1 | 7,1 | 3,2 | 0,4 | 70,3 | 70,3 | 387,0 | 406,5 | 1 |
| 23,8 | 3,5 | 9,2 | 21,6 | 12,1 | 3,3 | 5,8 | 1,1 | 2,3 | 70,6 | 70,6 | 398,2 | 422,3 | 2 |
| 57,5 | 0,6 | 0,6 | 20,6 | 18,6 | 2,8 | 4.9 | 3,1 | 3,0 | 72,9 | 72,9 | 388,1 | 373,4 | 3 |
| 41,2 | 0,6 | 2,1 | 17,3 | 17,0 | 3,7 | 6,6 | 2,8 | 1,2 | 74,6 | 73,1 | 432,0 | 421,6 | 4 |
| 23,6 | 0,1 | 0,4 | 21,4 | 21,2 | 4,7 | 4,7 | 0,8 | — | 72,9 | 73,7 | 460,7 | 470,5 | 5 |
| 36,2 | 0,9 | 3,2 | 26,5 | 25.1 | 3,4 | 4,8 | 2,8 | 0,5 | 66,4 | 66,4 | 380,1 | 387,0 | 6 |
| 61,2 | 3,2 | 1,1 | 22,2 | 24,2 | 0,3 | 0,1 | 0,2 | 0,3 | 74,2 | 74,3 | 364,8 | 311,3 | 7 |
| 73,8 | 1,4 | 2,8 | 25,8 | 24,1 | 1,1 | 0,7 | 2,9 | 2,5 | 68,9 | 69,9 | 352,1 | 362,5 | 8 |
| 25,4 | 0,4 | 0,1 | 27,8 | 28.2 | 0,5 | 0,4 | 2,3 | 1,9 | 69,0 | 69,4 | 347,9 | 356,8 | 9 |
| 29,9 | 3,7 | 2,6 | 29,0 | 29,5 | 0,6 | 0,1 | — | 1,1 | 66,7 | 66,7 | 343.8 | 390,4 | 10 |
| 29,3 | 1,4 | 1,5 | 27,1 | 26,2 | 0,2 | 0,2 | 0,6 | 1,8 | 70,7 | 70,3 | 376,2 | 381,9 | III |
| 21,9 | 2,2 | 3,7 | 27,1 | 28,6 | — | 0,0 | 0,4 | 0,5 | 69,2 | 67,2 | 370,7 | 366,8 | 1 |
| 17,9 | 2,7 | 2,7 | 24.8 | 23,4 | 0,1 | 0,0 | 0,9 | 2,3 | 71,5 | 71,5 | 388,9 | 403,3 | 2 |
| 37,0 | 0,1 | 0,2 | 27,7 | 27,7 | — | 0,0 | 1,2 | 1,1 | 71,0 | 71,0 | 345,0 | 350.4 | 3 |
| 17,7 | 1,3 | 0,8 | 29,3 | 27,8 | 0,8 | 0,7 | 0,6 | 2,6 | 68,1 | 68,1 | 350,0 | 366,3 | 4 |

| №№ па чарзе | РАЁНЫ | Агульныя весткі: Гушчыня насельн на 1 кв. км. — Усяго | Гушчыня насельн на 1 кв. км. — Сельск. | Граматных у % да агульнага ліку | % гаспадарак — без раб. жывёлы | % гаспадарак — з сохамі, але бяз плугоў | На 100 гаспадарак — сячкарнят | На 100 гаспадарак — арфаў | На 100 гаспадарак — малатарнят | % гаспадарак — з наймам парабкоў (на тэрмін) | % гаспадарак — з незямляробчымі промысламі | На сэзонных адыходных промыслах чалавек на 100 гаспадарак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1926 | 1926 | 1926 | 1927 | 1927 | 1627 | 1927 | 1927 | 1927 | 1927 | 1927 |
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 5 | Чарэйскі . . . | 42,5 | 39,5 | 31,0 | 12,8 | 0,8 | 1,1 | 1,5 | 0,8 | 2,0 | 21,9 | 7,9 |
| 6 | Крупскі . . . | 28,3 | 24,8 | 30,1 | 10,3 | 0,4 | 1,1 | 0,4 | 0,8 | 0,2 | 75,9 | 2,9 |
| IV | Полацкі . . | 32,4 | 29,3 | 39,1 | 15,5 | 2,6 | 1,2 | 3,7 | 5,0 | 7,9 | 40,7 | 9,8 |
| 1 | Дрысенскі . . | 40,3 | 36,1 | 48,6 | 16,5 | — | 0,5 | 5,7 | 8,4 | 6,0 | 25,4 | 13,1 |
| 2 | Асьвейскі . . | 28,0 | 25,9 | 36,4 | 13,8 | 2,8 | — | 1,2 | 2,7 | 3,9 | 35,9 | 11,8 |
| 3 | Расонскі . . . | 20,0 | 19,8 | 35,3 | 17,0 | 3,7 | 0,6 | 3,5 | 2,1 | 8,8 | 53,3 | 10,3 |
| 4 | Валынецкі . . | 35,4 | 34,5 | 44,4 | 9,7 | 1,1 | 0,4 | 5,7 | 6,8 | 10,8 | 19,0 | 4,1 |
| 5 | Ветрынскі . . | 38,4 | 38,4 | 39,6 | 18,2 | 2,5 | 0,6 | 3,8 | 8,9 | 6,5 | 36,9 | 4,6 |
| 6 | Полацкі . . . | 30,0 | 29,2 | 39,4 | 12,3 | 4,6 | 3,2 | 3,6 | 4,9 | 9,4 | 54,8 | 13,1 |
| 7 | Вульскі . . . | 38,0 | 36,7 | 33,5 | 20,3 | 1,3 | 1,3 | 2,2 | 3,3 | 7,4 | 39,4 | 11,[illegible] |
| V | Гарадоцкі . | 40,2 | 37,9 | 35,4 | 11,7 | 1,7 | 2,1 | 4,7 | 4,5 | 5,4 | 26,0 | 6,9 |
| 1 | Езярышчанскі . | 37,9 | 37,9 | 41,0 | 16,8 | 1,4 | 3,9 | 2,5 | 2,9 | 6,1 | 44,9 | 18,[illegible] |
| 2 | Мяжанскі . . | 32,2 | 32,2 | 38,3 | 11,6 | 3,0 | 0,5 | 5,1 | 3,9 | 9,4 | 32,2 | 4,[illegible] |
| 3 | Сіроцінскі . . | 43,0 | 42,0 | 35,9 | 8,9 | 2,2 | 1,3 | 5,1 | 5,9 | 5,0 | 17,2 | 8,[illegible] |
| 4 | Гарадоцкі . . | 45,1 | 40,2 | 36,1 | 15,2 | 2,7 | 1,5 | 3,9 | 5,1 | 5,6 | 23,2 | 7,[illegible] |
| 5 | Сураскі . . . | 35,5 | 32,1 | 40,5 | 7,1 | 1,5 | 4,2 | 7,6 | 3,6 | 4,8 | 37,7 | 0,1 |
| 6 | Бешанковіцкі . | 46,5 | 43,6 | 23,4 | 11,7 | 0,6 | 1,6 | 3,3 | 4,4 | 2,7 | 11,0 | [illegible],2 |
| VI | Віцебскі . . | 44,1 | 42,2 | 43,1 | 17,1 | 1,6 | 5,0 | 11,5 | 9,7 | 17,2 | 15,3 | 6,3 |
| 1 | Віцебскі . . . | 44,6 | 44,1 | 43,7 | 18,9 | 2,5 | 6,1 | 8,3 | 8,6 | 13,3 | 13,9 | 7,7 |
| 2 | Высачанскі . . | 42,7 | 40,2 | 42,6 | 12,5 | 0,5 | 6,4 | 14,5 | 14,5 | 22,9 | 20,9 | 6,4 |
| 3 | Лязьнянскі . . | 44,1 | 39,8 | 45,2 | 17,0 | 0,4 | 1,2 | 16,6 | 8,2 | 21,5 | 13,7 | 3,0 |
| VII | Талачынскі . | 47,6 | 44,7 | 39,3 | 10,8 | 0,5 | 3,6 | 5,2 | 4,4 | 1,8 | 25,7 | 4,0 |
| 1 | Сянскі . . . | 45,5 | 42,6 | 37,9 | 3,6 | 0,7 | 1,6 | 1,7 | 1,3 | 0,5 | 14,7 | 1,8 |
| 2 | Багушэўскі . . | 37,1 | 35,8 | 33,3 | 11,9 | 2,1 | 1,6 | 3,8 | 4,6 | 4,9 | 38,2 | 5,8 |
| 3 | Талачынскі . . | 44,0 | 40,5 | 38,8 | 11,2 | 0,1 | 1,6 | 0,2 | 0,9 | 0,5 | 47,9 | 1,6 |
| 4 | Кохanaўскі . . | 51,6 | 47,6 | 43,7 | 12,9 | — | 6,6 | 5,1 | 2,9 | 1,2 | 17,5 | 6,3 |
| 5 | Аршанскі . . | 53,5 | 52,5 | 41,1 | 9,1 | 0,4 | 4,7 | 10,9 | 6,7 | 2,7 | 15,8 | 4,9 |
| 6 | Копыскі . . . | 59,8 | 53,5 | 40,0 | 11,5 | — | 6,9 | 10,4 | 13,0 | 1,8 | 26,8 | 5,2 |

